Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 2 (4546) 15 студзеня 2010 г.

## У нумары:







Выстаўка “Святло Купалавай паэзіі”, прысвечаная 80-годдзю выдатнага айчыннага мастака-графіка Арлена Кашкурэвіча, працуе ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Тут прадстаўлены графічныя аркушы майстра і друкаваныя выданні з яго ілюстрацыямі — з фондаў музея, шэраг кніг са сталічных бібліятэк, дакументальныя матэрыялы з асабістага архіва Арлена Міхайлавіча, у тым ліку фотаздымкі яго родзічаў ды сяброў.

# Дамінанта натхнення

Творчасць лепшых прадстаўнікоў беларускай графічнай школы спакроўленая са светам літаратуры. Кніга, да стварэння якой далучаецца мастак, і вабіць яго, і зачароўвае, і нібы выпрабоўвае: на талент, на прафесіяналізм, на душэўную сталасць і мудрасць.

Ёсць мастакі, якія таленавіта “вычытваюць” і перадаюць праз малюнак эпічныя лініі літаратурнага твора; ёсць — больш чуйна настроеныя на лірычныя матывы. Арлену Кашкурэвічу, адоранаму універсальным, па-музычнаму абвостраным “літаратурным слыхам”, дадзена і асабліва тонкае спасціжэнне філасофскай паэзіі.

Так, праз мастацкае асэнсаванне Арлена Кашкурэвіча прайшлі багатыя на вобразны змест, адметныя глыбінёй і арыгінальнасцю ідэй творы нацыянальнай і сусветнай класікі. Спадчына Янкі Купалы займае сярод іх асаблівае месца, таму невыпадкова выстаўка выбітнага майстра мастацкай графікі задуманая і ажыццёўленая супрацоўнікамі гэтага музея. У экспазіцыю ўвайшлі амаль усе творы купалаўскай тэматыкі, якой Арлен Кашкурэвіч прысвяціў больш як 40 гадоў сваёй працы, і кожны графічны аркуш успрымаецца кангеніяльным увасабленнем глыбокай філасофіі беларускага песняра, часам парадаксальнай, часам трагічнай Купалавай вобразнасці.

Павіншаваць Арлена Міхайлавіча з вернісажам прыйшлі многія. Гасцямі былі не толькі калегі, сямейнікі, блізкія сябры, вучні, але і асобы афіцыйныя, сярод якіх — прадстаўнікі замежных дыпламатычных місій...



Арлен Кашкурэвіч — аўтар ілюстрацый да многіх Купалавых паэм, п’ес “Паўлінка” і “Тутэйшыя”. У 1972 годзе за серыі “Купаліяна” і “Партызаны” ён быў ганараваны Дзяржаўнай прэміяй БССР. Неаднаразова ўзнагароджваўся дыпломамі рэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсаў “Мастацтва кнігі” — за лепшае афармленне зборнікаў Янкі Купалы “Тры паэмы”, “Курган”, “Вершы і паэмы”. Тры гады таму стварыў серыю новых работ паводле паэмы “Сон на кургане”.

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Мацевасян уручыла Арлену Кашкурэвічу пасведчанне ганаровага сябра музея. Знаны мастак-графік, першы намеснік старшыні БСМ Рыгор Сітніца, які лічыць Арлена Міхайлавіча сваім настаўнікам, гаварыў пра Майстра і яго сям’ю як пра ўзор шляхетнасці, сапраўднай беларускай інтэлігентнасці, а сам факт правядзення выстаўкі ў доме, дзе лунае Купалаў дух, назваў акалічнасцю ўсцешнай і невыпадковай: “Вялікія людзі павінны сустракацца. А тое, што Арлен Кашкурэвіч — вялікі мастак, трэба, адкінуўшы хлуслівую сціпласць, казаць тут і зараз, каб гэта пачуў і ён сам, у цяперашнім часе, знаходзячыся сярод нас. Арлен Кашкурэвіч — прадаўжальнік беларускай шляхетнасці, які здолеў у сваёй творчасці паказаць Беларусь не як сярмяжны куток, а як рыцарскую краіну, краіну еўрапейскую, у якой віравалі шэкспіраўскія жарсці”.

На вечарыне граў струнны ансамбль “Дамінанта”, гучаў маналог Купалавага Гусляра з паэмы “Курган” у выкананні артыста Алега Вінярскага. Выступілі Тодар Кашкурэвіч — малодшы сын Арлена Міхайлавіча, мастак Мікола Купава, які звярнуўся да шаноўнага Майстра як да заснавальніка новага кніжнага мастацтва ў нашай краіне, стваральніка шэдэўраў мастацкай інтэрпрэтацыі твораў Янкі Купалы...

Простая і шчырая, нефармальная атмасфера адкрыцця гэтай выстаўкі ў гасцінным і цёплым Купалавым доме пераконвала прысутных, што менавіта святло паэзіі вялікага класіка сталася і прэлюдыяй, і рэфрэнам, і дамінантай сур’ёзнай творчай працы Арлена Кашкурэвіча ў дзівосным свеце кніжнай графікі, у няспынным пошуку візуальнага вобразнага і няўгледнага духоўнага суладдзя з мастацкім словам.

Пра тое, што Купалава слова прайшло праз усю яго творчасць, гаварыў і герой вечарыны: “Мая першая кніга, над афармленнем якой працаваў пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, — “Тры паэмы”. Яна ўключала тры драматычныя паэмы Янкі Купалы. Тады я ўпершыню “сустрэўся ў працы” з яго творчасцю і быў вельмі ўражаны. Настолькі ўражаны, што захацелася зрабіць выключнае, унікальнае выданне. Я “нарэзаў” гравюры, і ўвесь тыраж гэтай кнігі быў надрукаваны з аўтарскіх дошак, таму кожны яе экземпляр атрымаўся па-свойму унікальны, непаўторны. Творчасць Купалы натхняла і натхняе мяне на далейшую працу...”

“Партрэт Л. Д. Раманоўскай” — малюнак 1969 года, своеасаблівы маўклівы сведка добрага знаёмства мастака з сястрой Янкі Купалы. А вось і яго выява: “Янка Купала ў Ляўках”. Непадалёк — вострахарактарныя, гратэскавыя персанажы “Тутэйшых”. А яшчэ — магутная, віртуозна прадстаўленая поліфанія вобразаў “Пажарышча” з серыі ўражлівых філасафічных ілюстрацый да паэмы “Сон на кургане” (2007)... Экспазіцыя нагадае пра паспяховы зварот А. Кашкурэвіча і да “Песні пра зубра” Міколы Гусоўскага, да біблейскай “Найвышэйшай песні Саламонавай”, да “Фаўста” Ё. В. Гётэ, да Міцкевічавай “Свіцязянкі” ды пушкінскага “Яўгенія Анегіна”, твораў Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна, Алега Лойкі...

Дарэчы, Арлен Міхайлавіч пакажа свае самыя розныя работы — і з ранейшых, і новыя — на юбілейнай персанальнай выстаўцы, якая мае адбыцца сёлета ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Будуць сюрпрызы. І прагучаць свежыя матывы вечна жывой Купаліяны.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч; у выставачнай зале Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

● Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" шэраг работнікаў галіны — Валянціну Курылік, галоўнага рэдактара ваўкавыскай раённай газеты і тэлерадыёпраграм "Наш час", Аляксандра Пракопава, дырэктара камунальнага унітарнага прадпрыемства "Пінская рэгіянальная друкарня", а таксама Аляксандра Свораба, загадчыка кафедры перыядычнага друку Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, Давіда Ротмана, дырэктара Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў Белдзяржуніверсітэта.

● Свет пабачыла кніга гісторыка Алеся Краўцэвіча "Рыцары і дойліды Гародні". Кніга складаецца з трох раздзелаў, у якіх аўтар распавядае пра археалагічныя даследаванні сярэднявечнай Гродзеншчыны, пра гродзенскі Стары замак, пра Вялікага князя Вітаўта. Алесь Краўцэвіч простай мовай расказвае маленькаму чытачу (кніга адрасавана ў першую чаргу менавіта дзецям) пра слаўнае мінулае краю. Выданне аформлена мастаком-графікам Паўлам Татарнікавым.

● У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі працуе выстава "Сімяон Полацкі. Да 380-годдзя з дня нараджэння". На выставе прадстаўлены кнігі прапаведніка, педагога, паэта, драматурга, якія выходзілі ў свет з XVII па XX стагоддзе. Найбольш ранняя з іх — "Абед духоўны". Гэты зборнік пропаведзяў, напісаных на аснове евангельскіх сюжэтаў, быў выдадзены ў Маскве толькі пасля смерці выхавацеля царскіх дзяцей. Выстава працуе да 21 студзеня.

● Цягам чатырох дзён з 6 па 9 студзеня дзіцячыя хоры з нямецкіх гарадоў Гейдэльберг і Фрайбург, а таксама царкоўны акадэмічны хор Гейдэльберга выступалі перад беларускімі слухачамі. Госці далі два канцэрты ў Гомелі і па адным у Рэчыцы і Мінску. Падчас выступленняў выконваліся творы Вольфганга Амадэя Моцарта, Іягана Себасцьяна Баха і іншых. Творы класікаў гучалі ў суправаджэнні аркестра Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. Прыезд у Беларусь нямецкіх артыстаў — ініцыятыва адміністрацыі каледжа і кіраўніцтва хораў.

● У Інтэрнеце з'явіўся сайт перакладной літаратуры на беларускую мову — www.litaratura.org. Яго стварылі перакладчыкі і журналісты Ян Максімюк і Сяргей Шупа. Пакуль на сайце прадстаўлена літаратура з еўрапейскіх моў (англійскай, сербскай, харвацкай, польскай, чэшскай, французскай, іспанскай, эстонскай) і іўрыту. Тут можна пачытаць па-беларуску "Хазарскі слоўнік" Міларада Павіча, "Локіс" Праспера Мерымэ, "Вавілонскую бібліятэку" Хорхе Луіса Борхеса і іншых. У асобным раздзеле друкуюцца тэксты пра пісьменнікаў.

● З 13 студзеня па 14 лютага ў мінскіх кінатэатры "Перамога" і Цэнтры-відэа ў ГЦ "Сталіца" пройдзе рэтраспектыва фільмаў культавага італьянскага рэжысёра Мікеланджэла Антаніоні (1912 — 2007). Увазе гледачоў будзе прадстаўлена чатыры кінастужкі — "Прыгоды" (1960), "Ноч" (1961), "Зацьменне" (1962) і "Фотапавелічэнне" (1966). У галоўных ролях — Марчэла Мастраяні, Жанна Маро, Ален Дэлон, Моніка Віці, Франсіска Рабаль… Усе фільмы дэманструюцца на італьянскай мове з рускімі субцітрамі.

Падрыхтавалі Павел РАДЫНА і Бажэна СТРОК

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 5

## Аб прысуджэнні прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» 2009 года

Разгледзеўшы прадстаўленні Міністэрства культуры і савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, узгодненыя з кіраўніцтвам Беларускай праваслаўнай царквы, пастанаўляю:

1. За актыўную дзейнасць у гуманітарнай галіне, якая садзейнічае захаванню і памнажэнню нацыянальнага культурнага здабытку, выхаванню ў моладзі любві да Айчыны, умацаванню духоўных каштоўнасцей і мастацка-маральных традыцый, ідэй чалавекалюбства, дабрачыннасці і міласэрнасці, прысудзіць прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" 2009 года: архіепіскапу Гомельскаму і Жлобінскаму Арыстарху (Станкевічу Андрэю Еўдакімавічу), кіраўніку мясцовага рэлігійнага аб'яднання "Гомельская епархія Беларускай праваслаўнай царквы", - за значны асабісты ўклад у адраджэнне і захаванне духоўнай, гістарычнай і культурнай спадчыны беларускага народа;

аўтарскаму калектыву агенцтва тэлевізійных навін Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі ў складзе Каroткіна Максіма Мікалаевіча, аглядальніка палітычнага аддзела палітычных аглядальнікаў, Рыбакова Сяргея Паўлавіча, загадчыка аддзела спецыяльных праектаў, Шпілеўскай Вольгі Аляксандраўны, загадчыка аддзела карэспандэнцкай сеткі, — за стварэнне дакументальнага серыяла "Зямля беларуская";

калектыву дзяржаўнай установы "Бальніца паліятыўнага догляду "Хоспіс" — за падзвіжніцкую дзейнасць па аказанні фізічнай і псіхалагічнай дапамогі цяжка хворым пацыентам;

калектыву структурнага падраздзялення Беларускай праваслаўнай царквы "Выдавецтва Беларускага Экзархата" — за выпуск факсімільнага выдання унікальнага помніка беларускай культуры Слуцкага Евангелля і духоўна-асветніцкую дзейнасць;

Кацуру Уладзіміру Дзмітрыевічу, трэнеру-выкладчыку па лёгкай атлетыцы ўстановы "Гомельская дзіцяча-юнацкая спартыўная школа прафсаюзаў "Лідэр", — за значныя дасягненні ў сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў, падрыхтоўку з іх ліку рэкардсменаў свету, пераможцаў і прызёраў XXI летніх Дэфлімпійскіх гульняў, чэмпіянатаў Еўропы.

2. Міністэрству культуры ажыццявіць выплату прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" са сродкаў фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.

3. Вызваліць сумы прэмій, атрыманых у адпаведнасці з дадзеным Указам, ад абкладання падаходным падаткам з фізічных асоб.

4. Дадзены Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка
5 студзеня 2010 г.
г. Мінск

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 6

## Аб прысуджэнні спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2009 года

Разгледзеўшы прадстаўленні Міністэрства культуры і савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, пастанаўляю:

1. За выдатныя дасягненні ў галіне выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога, музычнага мастацтва, народнай і аматарскай мастацкай творчасці, музейнай і бібліятэчнай справы, навучання і выхавання творчай моладзі, якія атрымалі грамадскае прызнанне, прысудзіць спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2009 года:

Бархаткову Ігару Антонавічу, мастаку, члену грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў", — за захаванне і творчае развіццё лепшых традыцый беларускага рэалістычнага жывапісу, серыю пейзажаў "Ціхая мая Радзіма";

творчаму калектыву ў складзе Кеды Аляксандра Аляксандравіча, артыста-вакаліста — вядучага майстра сцэны дзяржаўнай тэатральна-відовішчнай установы "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь", заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, Чарнухі Вячаслава Іванавіча, дырыжора гэтай установы, Тамашэвіч-Каржанеўскай Ганны Барысаўны, прафесара кафедры канцэртмайстарскага майстэрства ўстановы адукацыі "Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі", — за вялікі асабісты ўклад у адраджэнне старадаўняй беларускай музыкі, пастаноўку оперы Я.Д.Голанда "Чужое багацце нікому не служыць";

ансамблю "Ліpыца" дзяржаўнай установы "Гомельская абласная філармонія" — за значныя дасягненні ў галіне музычнага мастацтва, прапаганду народнай інструментальнай музыкі, актыўную канцэртную і гастрольную дзейнасць;

Калтыгіну Валерыю Аркадзьевічу, выкладчыку дзіцячай мастацкай школы імя У. А.Дамарада г.Бабруйска, — за захаванне і развіццё традыцый народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, арганізацыю міжнародных пленэраў і актыўную выставачную дзейнасць;

калектыву Цэнтра культуры і народнай творчасці в.Вулька-1 Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці — за збор, адраджэнне і захаванне рэгіянальнага фальклору, далучэнне падрастаючага пакалення да нацыянальнай традыцыйнай культуры;

калектыву дзіцячай школы мастацкіх рамёстваў аддзела культуры Горацкага раённага выканаўчага камітэта Магілёўскай вобласці — за захаванне і развіццё традыцыйных відаў народных рамёстваў, дасягненні ў мастацкай адукацыі дзяцей і падлеткаў, падрыхтоўку лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў;

калектыву дзяржаўнай установы "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" — за вялікую працу па прапагандзе нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны, распрацоўку і рэалізацыю музейна-асветнай праграмы "Старадаўніх муроў адраджэнне";

калектыву музея народнай творчасці "Бездзежскі фартушок" Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці — за стварэнне унікальнай калекцыі аўтэнтычных узораў народнай творчасці, значны ўклад у захаванне і папулярызацыю мясцовых рамёстваў, абрадаў і дыялектаў;

калектыву цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы г.Полацка — за стварэнне рэгіянальнай сістэмы выкарыстання інфармацыйных тэхналогій у бібліятэчным абслугоўванні насельніцтва, рэалізацыю шэрага асветных і краязнаўчых праграм, актыўную дабрачынную працу з інвалідамі і дзецьмі, якія засталіся без апекі бацькоў;

Сеўруковы Мікалаю Іванавічу, загадчыку кафедры баяна і акардэона ўстановы адукацыі "Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі", прафесару, заслужанаму артысту Рэспублікі Беларусь, — за выдатныя дасягненні ў галіне выхавання творчай моладзі, падрыхтоўку лаўрэатаў міжнародных конкурсаў.

2. Міністэрству культуры ажыццявіць выплату спецыяльных прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2009 года са сродкаў фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.

3. Вызваліць сумы прэмій, атрыманых у адпаведнасці з гэтым Указам, ад абкладання падаходным падаткам з фізічных асоб.

4. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А.Лукашэнка
5 студзеня 2010 г.
г. Мінск

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

## Лірычны фармат сустрэчы

Паэтычная вечарына прайшла ў СП Беларусі — сустрэча з ураджэнцам расійскай глыбінкі, паэтам, дыпламатам Уладзімірам Масалавым. Ён — лаўрэат прэміі Саюза пісьменнікаў Расіі, прыза "Залатое пяро" Масковіі 2002 года, прэміі Мікалая Гумілёва, Сяргея Ясеніна, Фёдара Цютчава, Мікалая Рубцова, Аляксандра Грыбаедава, Аляксандра Суворава. У 2008 годзе стаў пераможцам міжнароднага конкурсу паэтаў на фестывалі славянскіх краін, а ў 2009-м яго адзначылі Залатым медалём міжнароднай прэміі Л. М. Талстога. Уладзімір Масалаў — адзін з нямногіх расійскіх паэтаў, каго ўганаравалі ордэнам Гаўрыіла Дзяржавіна.

Уладзімір Масалаў шмат гадоў працаваў у МЗС Расіі, з'яўляўся Генконсулам у Швецыі, Бірме, Угандзе, Японіі, Вялікабрытаніі, Бангладэш. Цяпер Уладзімір Масалаў — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасланнік Расіі, працуе саветнікам кіраўніка Федэральнага агенцтва "Рассупрацоўніцтва", сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі, віцэ-прэзідэнт Лігі пісьменнікаў Еўразіі, акадэмік Акадэміі паэзіі Расіі.

Як сам вызначае, галоўная тэма яго творчасці — грамадзянскасць. Але вельмі важна сёння не забывацца на духоўнасць, гаварыць пра вечныя каштоўнасці і любоў. "Дабрыня ў нас закладзена прыродаю, і трэба пра гэта памятаць", — сцвярджае паэт. Лірычны фармат сустрэчы абумовіў і спрыяльны пераднавагодні настрой, калі людзі зычылі адно аднаму дабрыні і здароўя, прыемных клопатаў ды знаёмстваў, творчага плёну.

"Калі чынюўнік яшчэ і творца, калі ён піша, разважае пра чалавека, то больш выразна разумее, што дзяржава павінна яшчэ зрабіць для людзей", — падсумаваў пры канцы сустрэчы старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. Такая імпрэза — заўважны крок у супрацоўніцтве ў рамках створанага Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. На сустрэчу ў Дом літаратара сабраліся сакратары СПБ, рэдактары літаратурных часопісаў, прадстаўнікі пасольства Расійскай Федэрацыі, чытачы.

Рыта СТАХ



На здымку: Мікалай Чаргінец і Уладзімір Масалаў.

Фота Кастуся Дробава

За падзеяй

## «Светач»: новая кніжная прастора

У адной з вядучых кнігарняў краіны — мінскім "Светачы" — "Белкніга" правяла прэзентацыю выдавецкіх праектаў РВУ "Літаратура і Мастацтва".



На сустрэчу з пакупнікамі і работнікамі кнігагандлю прыйшлі пісьменнікі, якія не толькі працуюць у літаратурна-мастацкіх часопісах, а яшчэ і выдаюць у РВУ свае кнігі. Пра тое, якія казачныя героі натхнілі яе да стварэння "Казак астранаўта" і "Казак з гербарыя", расказала лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Раіса Баравікова. Пра свае кнігі і пра тое, што з падлеткам трэба размаўляць яго мовай, гаварылі Андрэй Федарэнка і Алесь Бадак — аўтары серыі "Пераходны ўзрост". Загадчык аддзела кнігавыдання паэт і празаік Мікола Мінзер звярнуў увагу кнігагандлёвых работнікаў на тое, што серыя "Пераходны ўзрост" працягваецца: да выдання запланаваныя кнігі У.Саламахі, В.Гапеева, іншых аўтараў.

Пра тое, з якімі творчымі праектамі ідуць да чытача ў 2010 годзе, расказалі сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскай гарадской арганізацыі СПБ паэт Міхась Пазнякоў, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, пісьменнікі Уладзімір Мацвеенка, Валерый Кастручын, Андрэй Федарэнка, Юрый Сапажкоў, Алесь Марціновіч.

Удзел у прэзентацыі новых кніг і анансіраванні кніжных выданняў на 2010 год бралі намеснік міністра інфармацыі краіны Ігар Лапцёнак, дырэктар ААТ "Белкніга" Юрый Хмыроў. Паводле слоў кіраўнікоў кнігавыдавецкай і кнігагандлёвай галіны, мерапрыемствы такога кшталту станучь традыцыяй у кнігарнях сталіцы, а, магчыма, і ўвогуле ўсёй рэспублікі.

Мікола БЕРЛЕЖ

На здымку: жаданая сустрэча юных чытачоў з пісьменніцай Раісай Баравіковай.

Фота Кастуся Дробава

## Літ-абсягі

# Знакі нашай самабытнасці

Кожны народ мае свае нацыянальныя сімвалы. Яны народжаны культурай і зберагаюцца як нацыянальны набытак. Для беларусаў і ў нашы дні адным з такіх сімвалаў з'яўляецца народны касцюм. Яго мы можам убачыць на афіцыйных дзяржаўных цырымоніях і падчас урачыстых актаў, на эстраднай сцэне і, вядома ж, у яго апранутыя ўдзельнікі фальклорных калектываў, многія з якіх вядомыя далёка за межамі нашай краіны. Народны касцюм — адзін з найбольш каштоўных і самабытных складнікаў мастацкай спадчыны беларускага народа.

У многіх раёнах Беларусі і цяпер у сельскіх хатах захоўваюцца ў куфрах як сямейныя рэліквіі тканыя і вышытыя касцюмы бабуль і прабабуль. У беларусаў існуе павер'е, што на тым свеце продкі — "дзяды" пазнаюць сваіх па апратцы, якую насілі ў іх родзе. Таму яшчэ не так даўно старых людзей было прынята хаваць у традыцыйнай вопратцы: вышываных кашулях, фартушках, намітках. З кожным годам усё больш і больш традыцый забываецца. Высокамастацкія ўзоры народнага касцюма прадстаўлены ў музеях нашай краіны. Этнічныя традыцыі ў вопратцы, вышыўцы і ткацтве становяцца набыткам мінулага. Яны здзіўляюць нас сваім хараством, гармоніяй, мэтазгоднасцю, але, калі мы не разумеем мастацкай мовы гэтых прадметаў, застаюцца маўклівымі сведкамі мінулага.



Так, у бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў адбылася прэзентацыя навукова-папулярнага выдання "Беларускі народны касцюм: крой, вышыўка і дэкаратыўныя швы" (аўтары В. Лабачэўская і З. Зіміна), якое выйшла ў Выдавецкім доме "Беларуская навука". Тэарэтычную частку кнігі падрыхтавала мастацтвазнаўца, гісторык народнага мастацтва Вольга Лабачэўская, а практычную — малюнкі, схемы, апісанне тэхнік вышыўкі — Зінаіда Зіміна.

Падчас прэзентацыі аб працы над кнігай расказвалі адна з яе аўтараў Вольга Лабачэўская, галоўны рэдактар Выдавецкага дома "Беларуская навука" Георгій Кісялёў, аўтар фотаздымкаў Георгій Ліхтаровіч і іншыя. Кніга-альбом знаёміць чытача з беларускім этнаграфічным касцюмам, ці, іншымі словамі, звычаем беларусаў апранацца па сваіх асабістых разуменнях прыгажосці і парадку, якія выпрацоўваліся на працягу ўсёй гісторыі народа. Беларускі традыцыйны касцюм — гэта паўнавартасная частка мастацкай культуры народаў свету. Ён багата аздоблены вышыўкай, самабытнай і шчодрай на мастацкія традыцыі. Крой, месцазнаходжанне дэкору і тэхналогія яго выканання ў касцюме беларусаў лагічна ўзаемаабумоўлены.

Выданне багата ілюстравана схемамі па тэхналогіі вышыўкі, арнаментамі і фотаздымкамі музейных узораў беларускага народнага касцюма. Кніга прызначаная тым, хто цікавіцца народнымі традыцыямі вышыўкі ў Беларусі і захоча сваімі рукамі стварыць нацыянальны касцюм паводле даўніх тэхналогій. Дызайнерам яна падкажа новыя ідэі ва ўпрыгажэнні сучаснага адзення і дэкаратыўнага тэкстылю, а музейным работнікам стане даведнікам па тэхніках вышыўкі.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Вольга Лабачэўская.

Фота аўтара

# Пераможнае танга Алега Чыркуна

## Арт-лінія

Успаміны бабуль ды дзядуль, шматлікія помнікі, кніжкі па гісторыі — гэта, бадай, амаль адзінае, што засталося нам у памяць пра Вялікую Айчынную вайну. Але, праўда, ёсць яшчэ нешта больш каштоўнае і зразумелае, чым гістарычныя крыніцы. Тое, што продкамі закладзена ў нашай падсвядомасці, што распавядае пра хвіліны болю, невыносная горычы і што не дае забыцца на тыя жудасныя часы. Гэта, безумоўна, музыка.



Творчы вечар кампазітара Алега Чыркуна "Мы нашчадкі Перамогі", прымеркаваны да 65-годдзя з дня вызвалення Беларусі, прыклад таго, як музыка нам, народжаным у мірны час, раскрывае такія грані чалавечых пачуццяў і памкненняў, пра якія мы можам толькі здагадвацца.

Сапраўдным блаславеннем вечара стала прывітальнае слова народнага артыста СССР Ігара Лучанка, які выказаў захапленне таленавітасцю свайго вучня, велічнасцю, разнастайнасцю той музыкі, што прадстаўлена шаноўным слухачам.

Сам жа Алег Чыркун адзначыў, што такія імпрэзы патрэбны ў першую чаргу моладзі, якая, на жаль, губляе сувязь з мінулым, засяроджваючыся толькі на сваіх жаданнях і інтарэсах. Мэта яго песень, як гаворыць кампазітар, — выхаванне патрыятызму, павагі да сваёй гісторыі.

Увесь канцэрт быў пабудаваны на антытэзе вайны і міру, бяды і радасці, смерці і жыцця. Франтавыя песні і танцы ў выкананні Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам заслужанага артыста палкоўніка У. Варапаева і галоўнага хормайстра Галіны Мацэс гарманічна перапляталіся з сучаснымі і народнымі мелодыямі, якія выконвалі Уладзімір Правалінскі, Святлана Шыманская, Вольга Сей, ансамблі "Любава" і "Свята". Такое змяшэнне стыляў і жанраў не толькі адлюстроўвае шматграннасць Алега Чыркуна як кампазітара, але і дазваляе гледачам параўнаць шум падбітага самалёта, свіст шалёных куль, маўклівасць брацкіх магіл з каханнем гуллівай цыганкі, танга з незнаёмкай, букетам півоняў для каханай... Мелодыка вайны суправаджае мелодыі міру і адначасова з ёю, і адначасова з ёй. Нібыта перасцярога для чалавецтва: не дапусціце, каб ваенныя мелодыі ператварыліся з памяцці ў рэчаіснасць.

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: Алег Чыркун.

Фота аўтара

## Повязі

# Беларускія паэты — на эсперанта

Нядаўна ў Вільнюсе пабачыла свет цікавая кніга "З маёй эсперанта-скрыні" ("El mia esperanta skatolo"), якую выдаў Саюз эсперантыстаў Літвы. Яе аўтар — Пятрас Чэляўскас. У даволі аб'ёмнай кнізе (520 старонак) П. Чэляўскас змясціў усё, што напісана ім на гэтай мове.

Дык чым жа гэтае выданне можа зацікавіць беларускага чытача? А тым, што ў ім змешчаны пераклады паэзіі дванаццаці беларускіх творцаў. У дадатак да дзесяткаў літоўскіх паэтаў, побач з Адамам Міцкевічам, Шота Руставелі, Сяргеем Ясеніным ёсць Янка Купала, Якуб Колас, Мікола Хведаровіч, Антон Бялевіч, Ніна Тарас, Янка Непачаловіч, Пімен Панчанка, Алесь Бачыла, Пятро Прыходзька, Мікола Гамолка, Юрась Свірка і Рыгор Барадулін.

Аднаго з іх — Міколы Хведаровіча — вершы "На літоўскай зямлі" ("Sur la tera litova") і "Прывітанне, Балтыя!" ("Korsaluton, Baltmaro!") прысвечаны Літве. Гэта мяне прыемна ўразіла і выклікала журналісцкую цікаўнасць. Захацелася пазнаёміцца з аўтарам кнігі і даведацца, чаму ён з замежных паэтаў абраў так шмат беларускіх.




Ад старшыні Саюза эсперантыстаў Літвы Павіласа Егаровася дазнаўся, што Пятрас Чэляўскас — адзін з самых вядомых літоўскіх эсперантыстаў, доўгі час рэдагаваў часопіс эсперантыстаў "Litova stela" ("Літоўская зорка"). А саюз выдаў кнігу да яго 80-гадовага юбілею.

Вось што мне паведаміў пры сустрэчы Пятрас Чэляўскас: "Паэзію на эсперанта я перакладаю даўно. У большасці, зразумела ж, літоўскіх паэтаў. З беларускіх я больш ведаў Янку Купалу і Якуба Коласа. Сітуацыя змянілася з 1975 года, калі я пачаў набіць ведваць злёты эсперантыстаў. Там сустрэўся з вядомым беларускім эсперантыстам і вялікім аматарам паэзіі Адамам Паўлюкаўцом. У яго была задума выдаць у Мінску анталогію беларускай паэзіі на эсперанта, і ён папрасіў мяне перакласці на гэтую мову беларускіх паэтаў. Паўлюкавец дасылаў мне вершы на беларускай мове. Я ведаю, што ён мае пераклады перадрукоўваў на машынцы, на тонкай паперы праз кальку. Такім чынам ён выдаваў на эсперанта "Беларускія паэтычныя сшыткі". А анталогію, як мне здаецца, ён так і не змог выдаць; памёр у 1994-м ва ўзросце ўсяго 55 гадоў".

Тут П. Чэляўскаса можна дапоўніць. А. Паўлюкавец выпусціў не анталогію, а кнігу "Мова эсперанта" (А. Паўлюкавец. Мова эсперанта. Практычны дапаможнік. — Мінск: Навука і тэхніка. 1992), у якой змешчаны і пераклады беларускіх паэтаў.

Пра гэтыя творчыя стасункі піша ў сваім артыкуле "Мова эсперанта" і сам Адам Паўлюкавец: "... ў 1974 годзе было вырашана правесці конкурс на пераклад беларускай паэзіі. У конкурсе прынялі ўдзел П. Чэляўскас і А. Юдзіцкене з Літвы, К. Рабіновіч з Украіны, Н. Даноўскі з Латвіі, Р. Грыншпан з Узбекістана і шмат іншых вядомых эсперантыстаў. Было падрыхтавана тры выпускі "Беларускіх паэтычных сшыткаў" (па 30 экз. машынапісу кожны). Пазней большасць з гэтых перакладаў была надрукавана ў часопісах Балгарыі, Чэхаславакіі, Венгрыі, ГДР".

Працягваючы размову пра літоўскіх эсперантыстаў-перакладчыкаў беларускіх паэтаў, трэба згадаць і вільнюсца Бенцыёла Берына. Ён пераклаў вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка, сябраваў з Паўлюкаўцом, які змясціў гэтыя пераклады ў сваёй кнізе.

Вітаўтас ЖЭЙМАНТАС
г. Вільнюс

## З-пад пяра

Прэзентацыяй творчага праекта Вольгі Крывец "В ЧудНОМ мире" Мемарыяльны музей-майстэрня Заіра Азгура адкрыў новую штогадовую праграму "Снежаньскія вечары". У аснове "Цудоўнага свету" В. Крывец закладзена канцэпцыя чатырох — чатыры часы сутак і паравін года, чатыры стыхіі і бакі свету. У экспазіцыі прадстаўленыя графічныя і жывапісныя работы, а ў агучванні і ажыўленні тэм, заяўленых аўтарам праекта, бралі ўдзел музыканты, тэатральныя ды цыркавыя акцёры: "Тэатр Жывога Дзеяння", Беларускі вогненны цырк "Kresiva" і іншыя.

Віктар ЗАЯЦ

Новы год — свята, якое вабіць усіх сваёй прыгажосцю і таямнічасцю. Каб па-сапраўднаму адчуць усё гэта і апынуцца ў казачным свеце прыгажуні-зімы, студэнты філалагічнага факультэта (група БФ-12) ГДУ імя Ф.Скарыны зладзілі для сваіх выкладчыкаў вечарыну, прысвечаную навагоднюю святу. Праграма свята пачалася са знаёмства з педагогамі, якія будуць выкладаць на наступных курсах. Потым гучалі вершы на зімовую тэматыку, якія студэнты спецыяльна падрыхтавалі для сваіх гасцей. У сваю чаргу выкладчыкі таксама чыталі вершы. Паколькі 2010-ы — год Тыгра, то студэнты вырашылі даведацца, хто ў год якой жывёлы нарадзіўся і сабраць інфармацыю, што чакае кожнага ў новым годзе. Безумоўна, ніводнае свята не абыходзіцца без песень. Для прысутных будучыя філолагі прапанавалі конкурс, дзе патрэбна было выканаць як мага больш прыпеваў ці куплетаў песень пра зіму ці Новы год.

Ала ДАРАШЭНКА

Музей сялянскага побыту адкрыўся ў Глушкавіцкім Палацы культуры Лельчыцкага раёна. Работнікі культуры і адукацыі разам з мясцовым носьбітам фальклору Тацянай Красюк і вучнямі сярэдняй школы паказалі абрад "Улазіны". Затым госці наведалі музей. Сумесная праца яго арганізатараў з мастаком Іванам Бялоцкім надала музею асаблівы каларыт і арыгінальнасць. Традыцыйна, справа, месціцца чырвоны кут з абразом, а побач з сталом — сям'я, намаляваная на сцяне. У акне бачныя царква і сялянскія хаты... Збоку на лаве — плецення лапці, і тут жа — вывяа гаспадара, які займаецца іх вырабам. Злева — руская печ, з якой гаспадыня вымае свежавыпечаны хлеб. Тут жа і калыска, але ўжо не намаляваная, а сапраўдная. Экспанаты музея — ступа, жорны, маслабойка, ткацкі станок — міжволі пераносяць у той далёкі час, калі ўсімі гэтымі рэчамі карысталіся нашы працавітыя продкі.

Святлана ЛІПСКАЯ

У Яўрэйскім культурным таварыстве "Эмуна" клуб "Тхія", што значыць "Адраджэнне", правеў вечар паэзіі. Арганізавалі паэтычнае свята з нагоды выхаду зборніка паэзіі "Пакуль на свеце ёсць боль" Вольгі Норынай, якая і гаспадарыла на сцэне: чытала вершы, свае новыя творы і экспромты, разважала пра літаратуру і наша жыццё. Паэтэса Вольга Норына больш вядомая ў іпастасі журналіста Вольгі Паўлючэнка, чалавека шчырага, абаяльнага і імпульсіўнага. Яна запрасіла на вечарыну сваіх сяброў паэтаў-бардаў і вядомага аўтара-выканаўцу Сяргея Панамарова, які парадаваў слухачоў не толькі сваімі песнямі, але і на вершы Вольгі Норынай; Аляксея Жбанава, які акрамя песень на ўласныя вершы, выканаў некалькі на вершы Адама Міцкевіча і Уладзіміра Караткевіча. На вечарыне выступілі таксама Эдуард Ліпень, альпініст міжнароднага класа, паэт Юрась Нераток і прафесійны гітарыст Юрый Шышко.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# Бялюсенькі кужалёк

У беларускай традыцыйнай культуры лён трывала прапісаўся яшчэ са старажытных часоў, без гэтай расліны не абыходзілася ніводная сялянская гаспадарка. Сінія кветкі лёну малявалі мастакі, народ спяваў пра лён песні, паэты пісалі вершы... Нядаўна ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" ўбачыла свет энцыклапедычнае выданне "Лён". Распавядае ўкладальнік выдання Людміла Лоўчая.



— Ідэя нарадзілася ў нашай рэдакцыі даўно, а рэалізавалася толькі цяпер. Спасылаліся на вузкую тэму, маўляў, не цягне на энцыклапедыю. Але мы рызыкнулі. Цяпер ільнаводства знаходзіцца ў складаным становішчы. Кітайскія вытворцы энергічна захопліваюць сусветны рынак лёну, а вы ведаеце, дзе кітайцы — там няма чаго рабіць іншым.

— І вы спадзяецеся, што гэтае энцыклапедычнае выданне чымсьці дапаможа льнаводству?

— З гэтай мэтай і рабілі кнігу. Каб людзі адчулі, што пра іх не забыліся, не пакінулі адных. Для кожнага беларуса тэма лёну вельмі блізкая і родная. Мая бабуля расказвала: нават у самыя складаныя гады абавязкова адводзілі кавалак зямлі пад лён, каб было з чаго зрабіць кашулю.

— І выходзіла дзяўчына замуж — у пасаг давалі свое палатна.

— Так. У мяне і цяпер ёсць ручнік і абрус, выробленыя рукамі бабулі: і вышывала, і карункі вязала.

— Магчыма, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь дапамагала выданню?

— Міністэрства падтрымала ідэю і дало пэўныя звесткі, але асноўную дапамогу аказаў Інстытут лёну, галоўным чынам яго дырэктар Іван Голуб і кіраўнік аддзела навукова-тэхнічнай інфармацыі Мікалай Маркевіч, з якімі мы шчыльна супрацоўнічалі. Былі падрыхтаваны вялікія аб'ёмы матэрыялаў, але яны мелі вельмі навуковы характар. Вырашылі пайсці іншым шляхам. Як глядзяць на лён спажыўцы? Па-першае, гэта тканіна, па другое — адзенне. Цяпер стала модным апранацца ў натуральнае. Прадставілі заводы, якія перапрацоўваюць ільновалакно, дзесяць перадавых сельскагаспадарчых кааператываў, што займаюцца вырошчваннем культуры. Акцэнт быў зроблены таксама на прадпрыемствы лёгкай прамысловасці і мастацкіх промыслаў, якія выкарыстоўваюць лён у вытворчасці. І канечне ж — Аршанскі льнокамбінат, самае буйное прадпрыемства краіны — флагман ільнопрамысловасці. Асобна хочацца адзначыць "Цэнтр моды" — галоўнага прапагандыста адзення з беларускага лёну. Ён вырабляе лінію сучаснага жаночага адзення "Галерэя лёну" і ў рамках Тыдня моды Беларусі разам з канцэрнам "Беллегпрам" і Аршанскім ільнокамбінатам штогод праводзіць фестываль "Лён". Мы імкнуліся ў кожным артыкуле пра прадпрыемствы адзначыць іх удзел у фестывалі, даць інфармацыю пра мадэльераў. Усё гэта значна пашырыла тэматыку.

Але толькі біялогія, селекцыя, агратэхніка і вытворчасць — таксама малавата для энцыклапеды. Лён — частка нашай культуры, гэта наш сімвал. Падрыхтавалі цікавы артыкул "Традыцыйныя спосабы апрацоўкі лёну" (аўтар — Ганна Курыловіч, былы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі), які расказвае пра гісторыю вырошчвання і апрацоўкі лёну ў Беларусі, змяшчае прымаўкі і прыкметы пра лён.

— І маё пакаленне яшчэ помніць: каля кожнай хаты капалі сушні, там сушылі лён, потым яго трапалі, пралі кудзелю — круціліся верацёны, зімою ў хаце расстаўлялі кросны і ткалі.

— Пра ўсё гэта і напісана ў кнізе. Асобныя артыкулы падрыхтавалі таксама супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Яўген Сахута ("Лён у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве") і Марыя Віннікава ("Лён у традыцыйным беларускім касцюме"). Цікавыя звесткі пра лён у сферы дызайну і моды прадставіла выкладчыца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Галіна Мяшкова ў артыкуле "Лён у калекцыях беларускіх дызайнераў адзення". Падрыхтавалі яшчэ матэрыялы пра лён у музеях Беларусі, лён у медыцыне, лён у геральдыцы. Напрыклад, гарадскі пасёлак Карэлічы ў сваім гербе ўтрымлівае выяву лёну, і ў нашым дзяржаўным гербе — таксама лён. Намагаліся ахапіць усе бакі жыцця, якія не абыходзяцца без лёну. Такім чынам, кніга ператварылася ў сапраўдную энцыклапедыю.

— Чым гэтае выданне было нечаканае для калектыву энцыклапеды і для вас асабіста як укладальніка?

— Нечаканасць была ў тым песімізме, які прысутнічаў у кіраўнікоў ільнозаводаў. Некаторыя з іх былі ў роспачы. Увіце, раней у Беларусі працавала 49 ільнозаводаў, мяркуючы па апошніх падзеях, іх застанецца значна менш. Шкада людзей, ліквідацыя прадпрыемстваў у малых гарадах пакідае іх без працы. Гэтым выданнем мы хацелі ўнесці сваю маленькую лепту ў паляпшэнне сітуацыі. Але праводзіцца мадэрнізацыя вытворчасці, рэканструкцыя дзесяці льнозаводаў. Будуць усталяваны сучасныя лініі, такія, як на Дварэцкім, Дубровенскім і Пастаўскім льнозаводах. Дарэчы, кіраўнікі двух апошніх прадпрыемстваў аказалі нам вялікую дапамогу, даслалі падрабязныя матэрыялы, фотаздымкі — ім ёсць чым ганарыцца, таксама, як і згаданаму раней Аршанскаму льнокамбінату, які прадаставіў нам цэлы дыск фотаздымкаў сваёй прадукцыі.

— Скажыце, а лён доўга захоўваецца з пункта гледжання археалогіі?

— Сцвярджаюць, што тысячагоддзямі.

Яшчэ хацела б сказаць пра фатографаў, бо гэта каляровае і маляўнічае, вельмі прыгожае выданне. Больш як сотню фотаздымкаў даслаў фатограф-дызайнер з Гомеля Алег Іванюк. Хочацца адзначыць таксама Анатоля Дрыбаса з нашага выдавецтва, вядомага фатографа Анатоля Клешчука і яго дачку, Вольгу Кляшчук. Іх работы ўпрыгожылі выданне, надалі яму жывасць.

— А ці ўвайшлі ў кнігу, напрыклад, вершы і песні пра лён?

— Шукала аўтара, які б падрыхтаваў артыкул "Лён у літаратуры", але настолькі шырокая тэма — ніхто не абагульняў. Сама правесці такі аналіз не адважылася. Вялікая колькасць мастакоў звярталася да тэмы лёну, але гэта не даследавалася і не сістэматызавалася. У параўнанні з грунтоўнымі энцыклапедычнымі выданнямі кніга не вельмі вялікая па аб'ёме, але ж і сама тэма дастаткова вузкая. Радуе тое, што выданне знаходзіць попыт, а гэта, пагадзіцеся, у час крызісу немалаважна.

Гутарыў
Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

На здымку: адзенне з лёну заўсёды моднае.



## Навуцы патрэбна прапаганда

На сустрэчы журналістаў, кіраўнікоў шэрага айчынных СМІ ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ішла зацікаўленая размова пра асвятленне здабыткаў айчынных вучоных. Вёў рэй акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі доктар гістарычных навук Аляксандр Кавалення. Удзел у дыскусіі, галоўным лейтматывам якой быў клопат пра прапаганду забыткаў вучоных краіны, прынялі намеснік дырэктара выдавецтва "Беларуская навука" Станіслаў Нічыпаровіч, дырэктар музея гісторыі НАН Беларусі кандыдат фізіка-матэматычных навук Вольга Гапоненка і шэраг іншых навукоўцаў. Часопісы, газеты прадстаўлялі галоўны рэдактар "Беларускай думкі" Вадзім Гігін, намеснік галоўнага рэдактара "Звязды" Анатоль Сланеўскі, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі.

Удзельнікі своеасаблівага дыялогу адзначылі, што часам у публіцыстаў, журналістаў не стае дасведчанасці пра тое, якія вартыя дасягненні айчыццёўлены фізікамі, матэматыкамі, хімікамі, біёлагамі краіны. Інавацыйныя тэхналогіі, стасункі навукі і вытворчасці, адкрыцці тэарэтычнага характару – пра ўсё гэта павінна ведаць грамадства. А значыць важную ролю павінна адыграваць цеснае супрацоўніцтва вучоных і публіцыстаў. Прыклады такіх памкненняў ёсць і ў літаратурна-мастацкім перыядычным друку. Несумненым флагманам у гэтым кірунку выступае часопіс "Полымя", які ініцыраваў шэраг "круглых сталоў", дыскусій з удзелам вядучых эканамістаў краіны, які актыўна асвятляе здабыткі вучоных-аграрнікаў. Але важна ісці наперад, развіваць памкненні, увагу публіцыстаў, літаратараў да навуковага плёну.

Кастусь ХАДЫКА

На здымку: пісьменнікі і журналісты ў музеі гісторыі НАН Беларусі.

Фота Кастуся Дробава

# На крылах творчага натхнення

"Бесядзь цячэ ў акіян", "Сіняе лета", "Дзікая ружа", "Паводка сярод зімы", "Шчыглы"... І вось — "Палыновы вецер". Новая кніга пісьменніка Леаніда Левановіча выдадзена напрыканцы мінулага года ў РВУ "Літаратура і Мастацтва".



— Леанід Кірэевіч, чаму "Палыновы вецер"? Палын — расліна быццам бы карысная, а калі звязаць з Чарнобылем, то гэта, хутчэй за ўсё, сімвал трагедыі і жыццёвай горычы, страты таго, што было назапашана пакаленнямі.

— Так, назва сімвалічная. Раман я пачаў пісаць у 2002 годзе. І палыновы вецер у ім — гэта вецер ачышчэння. Ён залятае ў хаты вяскоўцаў, заклікае да аднаўлення, рушыць усё, што састарэла, аджыло свой век, а сам Вецер (я называю яго ў рамане з вялікай літары) ніколі не памірае, бо ён — вечны, як вечная наша Зямля-матухна і на ёй чалавек. У рамане расказваецца пра распад СССР і палітычныя падзеі 1980—1990-х гадоў, якія аказаліся лёсавызначальнымі для многіх людзей, пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС, жыццё ў радыяцыйнай зоне. Для многіх жыхароў краіны гэта быў перыяд краху надзей... Галоўны герой Андрэй Сахута, сакратар абкама па ідэалогіі, застаецца беспрацоўным і вымушаны ехаць у радыяцыйную зону ляснічым. З памочніка ляснічага калісьці ён і ўзняўся па кар'ернай лесвіцы...

Андрэй Сахута ведаў, на што ідзе, на якую пасаду, і ўсё ж тое, што здарылася, з'явілася для яго страшэннай нечаканасцю... Але дзякаваць Богу, вярнуўся наш герой да той крынічкі, з якой піў ваду, да бацькоўскай хаты, што нарадзіла і дала сілы вытрываць — быў такі час... Андрэй вельмі аддана працуе на новай пасадзе, бо ведае гэтую справу.

— Раман "Палыновы вецер" звязаны з ранейшымі героямі твораў і месцамі дзеяння — Хатынічы, Магілёў, Мінск, іншыя населеныя пункты...

— Новы раман — гэта працяг тых першых пяці раманаў, у якіх мае героі, прадстаўнікі некалькіх сем'яў, жывуць амаль паўстагоддзя... У рамане "Шчыглы" — жыццё пасляваеннай дзятвы, якую я параўноўваю з птушанятамі. Дзеці перажылі вайну і выходзяць з зямлянак на прастор, распраўляюць крылы, каб з вышыні глянуць на белы свет і знайсці сябе ў жыцці. Васіль Быкаў чытаў "Шчыглоў" у рукапісе. Ён адзначыў, што вобраз участковага міліцыянера Бравусава і ўпаўнаважанага па нарыхтоўках Крупадзёрава — адкрыццё ў беларускай літаратуры. Прыязна адазваўшыся пра раман, ён выказаў і свае заўвагі, прапановы, натхніў на напісанне працягу. Першы раман прысвячаўся маім братам Фёдару, Міхаілу, Міколку і Толіку...

Другі раман "Паводка сярод зімы" — пра падзеі 1949-га — 1950-х гадоў. Я добра помню гэты час, разліў ракі, адчуванне бязмернай радасці, якое валодала намі, падлеткамі. Будаваліся хаты, людзі залечвалі раны, жыццё брала сваё, паўсюдна чутны былі песні, больш за ўсё дзявочыя.

У трэцім рамане "Дзікая ружа" адлюстраваны падзеі 1953-га года. Прызнаюся, я плакаў, калі памёр Сталін, і дваццаць кіламетраў прайшоў пешшу да райцэнтра, каб уступіць у камсамол...

— Леанід Кірэевіч, у рамане "Сіняе лета" — шэсцьдзесят першы год, першы палёт чалавека ў космас. Галоўныя героі — людзі з высокімі памкненнямі. А ці ёсць прататыпы, з якіх вы "спісвалі" характары?..

— Скажу шчыра. У першых трох раманах Андрэй Сахута — вобраз амаль што аўтабіяграфічны. У наступных жа творах Андрэй увабраў рысы і жыццё некалькіх чалавек. На тое і мастак-творца, каб з некалькіх чалавек, іх учынкаў зляпіць каларытную фігуру, вобраз, які б запомніўся чытачам, незалежна ад таго, станоўчы ён альбо не.

— У вас, пэўна, ёсць героі, якія жывуць ва ўсіх раманах?

— Так, гэта сам Андрэй Сахута, участковы Бравусаў, дырэктар школы Мамута, сястра Сахуты Марына, якая выйшла замуж за Бравусава, калі ў таго памерла жонка.

З цягам часу мне вельмі захацелася расказаць чытачам, што ж сталася з героямі праз дваццаць гадоў. З імі мы сустрэліся ў рамане "Бесядзь цячэ ў акіян". Менавіта цячэ, бо застою ў прыродзе няма. Дваццаць гадоў чакалі абяцанага камунізму, ды так і не дачакаліся... І вось новая сустрэча чытачоў з героямі ў "Палыновым ветры"...

Гутарыла Валянціна СМАНЦАР

На здымку: пісьменнік Леанід Левановіч.





# Бібліятэку завяшчаў Радзіме

## Апошняя даніна першаасветніка

**Кніжныя скарбніцы нездарма называюць храмамі. Раней менавіта пры цэрквах пачыналі сваю дзейнасць нашы першаасветнікі. У іх памяшканнях нярэдка захоўваліся і самі бібліятэкі. Некаторыя з іх знаходзяцца ў храмавых пабудовах і цяпер. Полацкая музей-бібліятэка Сімяона Полацкага размяшчаецца ў адным з памяшканняў былога Богаяўленскага манастыра — якраз насупраць Богаяўленскай царквы. Установа ўваходзіць у склад Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.**



Музей-бібліятэка, як і вынікае з яе назвы, аб'ядноўвае музейную экспазіцыю, прысвечаную беларускаму і рускаму паэту, грамадскаму і царкоўнаму дзеячу, філосафу і педагогу XVII ст., і навуковую бібліятэку з чытальнай залай. Сюды завітваюць турысты: за год праходзіць каля тысячы экскурсій. Бывае нават да 27 арганізаваных наведванняў за дзень.

Сярод навукоўцаў бібліятэка найперш вядомая тым, што менавіта ў ёй збіраюцца даследчыкі спадчыны нашага слыннага земляка. Раз у пяць гадоў восеньскай парой, у лістападзе, у горадзе праходзяць традыцыйныя міжнародныя навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя Сімяону Полацкаму. Збіраюцца вучоныя з Беларусі, Расіі, Украіны. Першая канферэнцыя ладкавалася да 370-годдзя з Дня нараджэння Сімяона Полацкага, з таго часу сустрэчы навукоўцаў сталі перыядычнымі.

А чытачамі бібліятэкі ў асноўным з'яўляюцца супрацоўнікі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка — больш як 100 чалавек. Па правілах бібліятэкі наведаць яе могуць студэнты, пачынаючы з трэцяга курса, якія пішуць курсавыя ці дыпломныя работы. Прыходзяць і дзеці: у школах горада выкладаецца спецыяльны курс полацказнаўства — сюды завітваюць тыя, хто ўжо мае першапачатковую базу гістарычных ведаў.

Як у звычайнай бібліятэцы, тут існуюць фармуляры: у фондзе музея-бібліятэкі — больш як 12 тысяч адзінак захоўвання. У ім — старадрукі XVII — XVIII стст., калекцыя заходнееўрапейскай кнігі XIX — пачатку XX стагоддзя, беларускія выданні канца XIX ст., сучасная літаратура гуманітарнага профілю. Вельмі прадстаўнічы фонд перыядычных выданняў.

Але ў асноўным самыя каштоўныя — тыя кнігі, якія з'яўляюцца экспанатамі музея, які пачаў працаваць у сакавіку 1994 года. Афармлялі экспазіцыі полацкія мастакі. Сам музей створаны ў стылі бібліятэк Заходняй Еўропы канца XVII — пачатку XVIII ст. Заходнееўрапейскія скарбніцы ў той час афармляліся досыць традыцыйным шляхам: кнігі ў шафах ставіліся ў два ярусы, а ў чытальнай зале — бюсты філосафаў і, як правіла, — глобус. Нашы мастакі адштурхнуліся менавіта ад такой кампазіцыі. Цяпер музейныя супрацоўнікі тлумачаць: калі пачалі вывучаць біяграфію Сімяона Полацкага, зразумелі, што ён быў заўзятым кніжнікам, сабраў бібліятэку з тысячы кніг. Такому збору маглі пазайздросціць нават некаторыя каралеўскія двары. Ведаючы, які гэта неацэнны скарб, Сімяон Полацкі падзяліў бібліятэку на чатыры часткі і завяшчаў іх розным манастырам. Адзін з іх — полацкі Богаяўленскі. Кніжная калекцыя Сімяона — як апошняя яго даніна Радзіме.

У сучаснай музейнай экспазіцыі прадстаўленыя ўсе перыяды жыцця паэта і філосафа — уключаючы полацкі ды кіеўскі, сведчанняў пра якія захавалася значна менш чым пра маскоўскі. Як вядома, Сімяон нарадзіўся ў Полацку і атрымаў тут пачатковую адукацыю, настаўнічаў у брацкай школе пры Богаяўленскім манастыры. У Кіева-Магілянскім калегіуме ён правучыўся 14 гадоў, з ім разам там вучыліся ці выкладалі людзі з прагрэсіўнымі на той час поглядамі. Сімяон Полацкі падтрымліваў з імі адносіны. Гэта Лазар Барановіч, Ігнат Іеўлевіч, Васіль Яновіч. Самы ж вялікі перыяд — маскоўскі. У Маскве пры Спаскім манастыры яму было даручана стварыць школу, ён быў афіцыйна прызначаны настаўнікам царскіх дзяцей.

Маскоўскі перыяд жыцця Сімяона прадстаўлены ў двух варыянтах — тут рукапісныя і друкаваныя кнігі Сімяона Полацкага. Гэта выданні "Тестамент" (Масква, 1680), "Вечеря душевная" (Масква, 1683), "Жезл правления" (Масква, 1753). Маюцца ў музеі і іншыя старадрукі: Лазар Барановіч "Меч духовный" (Кіеў, 1666), Іаан Залатавуст "Беседы на деяния апостальския" (Кіеў, 1624), "Брашно духовное" (Іверскі манастыр, 1666), факсімільныя копіі рукапісаў, вершаў, драматычных твораў.

Тут жа прадстаўлены праект вышэйшай навучальнай установы, якую марыў стварыць асветнік. Пасля яго смерці ўжо царэўна Соф'я заснавала Славяна-грэка-лацінскую акадэмію. Ён жа заснаваў друкарню, і яна стала другой на тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы. Працу ў ёй Сімяон пачынае з "Букваря...", выдае "Тестамент". Друкуе кнігі не толькі свае, але і іншых аўтараў. На жаль, у друкарні ён папрацаваў толькі год, праз год памёр. У музеі прадстаўлены зборнікі пропаведзяў, "Псалтырь рифмотворная". Гэта — біблейскія псалмы, перакладзеныя на вершы, яны выконваюцца пад акампанемент спецыяльнага музычнага інструмента, падобнага да арфы, яго і называюць "псалтырь", або "хатняя арфа". Існуе такі факт: праз 7 гадоў пасля смерці Сімяона прыдворны кампазітар паклаў тыя вершы на музыку, і па сённяшні дзень яны выконваюцца як музычныя творы. У бібліятэцы маецца дыск з запісамі псалмоў.

Але шмат чаго са спадчыны Сімяона Полацкага яшчэ знаходзіцца ў музеях Масквы і Санкт-Пецярбурга. У Маскве кнігі, вершы, рукапісы Сімяона Полацкага захоўваюцца ў розных установах, у тым ліку і ў Цэнтральным архіве старажытных актаў. Выданні зазвычай вяртаюцца да нас у электронным выглядзе. Пяць год таму ў музей-бібліятэку перадалі электронныя варыянты дзвюх пропаведзей Сімяона Полацкага. Зусім нядаўна ўдалося атрымаць электронную копію слоўніка — "Лексикон палона-словенскі". Сам слоўнік захоўваецца ў Швецыі, ён быў вывезены з Масквы ў XVII стагоддзі. І шмат што чакае свайго вяртання на радзіму. У розных кутках зямлі захавалася спадчына Сімяона Полацкага. Але такі як у нас музей — адзіны.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: помнік Сімяону Полацкаму ў Полацку; у інтэр'еры бібліятэкі —"фігурныя" вершы; старонкі рэдкіх кніг.

Фота аўтара
і з архіва музея

# Фестываль сяброў «Алесі»

**Цікавы і разумны часопіс для жанчын — не мара, а рэальнасць! Гэта — "Алеся"! Асаблівым магнетызмам уздзеяння на чытачоў валодае часопіс з такім родным і блізкім для беларусаў жаночым іменем. "Алеся" — такі не падобны да іншых выданняў часопіс!**

Напрыканцы мінулага года часопіс адзначыў сваё 85-годдзе, што стала добрай нагодай сабраць фестываль сяброў "Алесі" ў актавай зале Бярэзінскай гарадской бібліятэкі. Бярэзінскія прыхільнікі "Алесі" такія розныя і непадобныя, ды з'яднала ўсіх любоў да часопіса. Большасць памятае былую назву выдання — "Работніца і сялянка", калі часопіс меў вялікую чытацкую аўдыторыю далёка за межамі рэспублікі. Старэйшай бярэзінскай прыхільніцы "Алесі" ўжо за 90! Гэта Ганна Халецкая з вёскі Мікулічы. Не адзін дзесятак гадоў — амаль паўвека! — з 1962 года паштальён дастаўляе любімы часопіс Еўдакіі Сакалоўскай у вёску Гарэнічы. Да гэтага часу ў хатніх архівах захоўваецца часопіс 70 — 80-х гадоў выдання ў сям'і Адамовічаў з г. Беразіно. Тамары Аляксандраўне цяпер 80, але яна застаецца падпісчыцай часопіса. У пасаг ад матулі дасталася любоў да часопіса Надзеі Мельнік.

У ліку цудоўных, таленавітых, няўрымслівых жанчын, якім выпаў гонар узначальваць часопіс, — першы яго галоўны рэдактар, хросная маці выдання Марыя Муратава; легендарная Марыя Карпенка з амаль 30-гадовым стажам рэдактарства, пачынальнік руху жансаветаў у Беларусі, член Камітэта савецкіх жанчын, народны дэпутат СССР, двойчы ўдзельнік сесій Генеральнай Асамблеі ААН; пісьменніца Раіса Баравікова... Сем апошніх гадоў галоўным рэдактарам "Алесі" плённа працуе Тамара Бунто. Яна і стала ганаровай госцяй фестывалю сяброў "Алесі" ў Беразіно. Тамара Пятроўна, чалавек актыўнай жыццёвай пазіцыі, член праўлення рэспубліканскага ГА "Беларускі саюз жанчын" — аўтарытэт для бярэзінскіх актывістак жаночага руху, прадаўжальніц ініцыяванай "Алесяй" акцыі "Жанчыны супраць п'янства жанчын", рэалізатараў праекта "Усёй грамадой — супраць п'янства".

Бярэзінцы сустрэлі кіраўніка часопіса-юбіляра як вельмі блізкага і дарагога чалавека, падрыхтавалі для яе шмат сюрпрызаў: прыпеўкі, вершаваныя оды, сяброўскія шаржы і эпіграмы, вышыванкі паводле эскізаў часопіса, жартоўную калектыўную анкету часопіса, прэзентацыю надрукаваных у "Алесі" анекдотаў, гумарэсак, нявыдуманых гісторый, фразеалагізмаў, выставу "Часопісы-ветэраны" з хатніх архіваў бярэзінскіх падпісчыкаў. Прызы былі гарантаваны кожнай эрудзіраванай удзельніцы віктарыны "Вакол жанчын". Пад дэвізам "Алеся" — папулярызатар роднай мовы!" прайшоў конкурс на лепшага знаўцу беларускай мовы з лексікону беларускамоўных публікацый часопіса, якія традыцыйна змяшчае калонку "Слоўнік нумара".

Тамара КРУТАЛЕВІЧ,
загадчык аддзела
маркетынгу Бярэзінскай
раённай бібліятэкі

# Адрасат — прафесіяналы

**У пачатку любога праекта ляжыць ініцыятыва. Так і выдавецкая серыя "Прафесіяналам бібліятэчнай справы" сталася рэальнасцю дзякуючы ініцыятыве дырэктара бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Аксаны Валодзінай ды супрацоўніцтву з выдавецтвам "Новое знание". Мэта праекта — даць прафесіяналам-практыкам і студэнтам інфармацыю пра актуальнае развіццё бібліятэчнай справы ў краіне. Думаецца, серыя стане добрым памагатым у сферы ўдасканальвання традыцыйных і авалодвання новымі тэхналогіямі, а ўсё разам паспрыяе спецыяльнай адукацыі і развіццю бібліятэчнай справы.**

Ужо выйшлі чатыры кнігі серыі, самі назвы выданняў паказваюць на праблемы, якія яны ўздымаюць: "Менеджмэнт школьнай бібліятэкі", "Фарміраванне кадравых рэсурсаў бібліятэк у новым інфармацыйным асяроддзі", "Прававое забеспячэнне дзейнасці бібліятэк у Рэспубліцы Беларусь" і "Падрыхтоўка бібліяграфічнай прадукцыі бібліятэкамі". Сярод аўтараў — кіраўнікі і спецыялісты найбуйнейшых бібліятэк Беларусі і замежжа, выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, настаўнікі і псіхолагі. Галоўны рэцэнзент серыі — кандыдат педагагічных навук, прафесар кафедры бібліятэказнаўства і інфарматыкі Акадэміі інавацыйных тэхналогій у сферы культуры, заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі Эдуард Сукіасян.

Беларусам прыемна, што ў верасні мінулага года серыя стала пераможцам першага міжрэгіянальнага конкурсу "Універсітэцкая кніга — Залатое кальцо", арганізаванага Выдавецкім домам "Універсітэцкая кніга" ды Міжнароднай акадэміяй бізнесу і новых тэхналогій пры падтрымцы Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях ды Агенцтва па адукацыі Расійскай Федэрацыі, у намінацыі "Лепшы выдавецкі праект".

Зазначае галоўны рэдактар выдання Аксана Валодзіна: "Серыя стала вельмі папулярнай і ў Расіі (яна выходзіць на рускай мове), таму што мы імкнуліся ахапіць шырокую геаграфію распаўсюджвання. Узнагароду атрымалі за саму ідэю і яе рэалізацыю. Выданні серыі дастаткова танныя, бо хацелася наблізіць кнігу да нашых спажыўцоў".

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# У вянок Янку Купалу

Па сённяшні дзень памятаю, якое непаўторнае ўражанне было ў мяне, школьніка, ад аповесці Зінаіды Бандарынай "Ой, рана на Івана"... Да гэтага ўжо даводзілася чытаць творы Янкі Купалы, іх вывучалі на ўроках, а тут — аповесць пра самога паэта. Як вядома, аповесць завяршаецца наступным эпізодам: у Яхімоўшчыну, дзе будучы класік беларускай літаратуры працаваў на бровары, прыязджае Уладзімір Самойла і ўручае яму тры асобнікі газеты "Северо-Западный край", у якім быў змешчаны Купалаў верш "Мужык". Быццам убачыў Янку Купалу жывым. Нібыта змог прайсціся тымі сцяжынамі, што паступова выводзілі Яся Луцэвіча на шырокія жыццёвыя абсягі.




Гэта прыгадалася надоечы, калі не мог адарвацца ад яшчэ аднаго аповеда такога кшталту — "Янкаў вянок" Уладзіміра Ліпскага. Кніга мае падзагаловак "Дзецям пра Янку Купалу" і толькі што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Прачытаў, як кажуць, на адным дыханні — настолькі цікава расказвае аўтар пра маленства і юнацтва песняра, а таксама яго сталае жыццё, калі ён стаў гонарам нацыянальнай літаратуры. Аднак пра маленства ўсё-ткі больш. Таму прачытаў "Янкаў вянок", і рука мая міжволі пацягнулася да кнігі З. Бандарынай "Ой, рана на Івана" – балазе, набыў апошняе перавыданне, што было ажыццёўлена ў 1979 годзе. Пачаў чытаць і...

На жаль, таго даўняга школьнага ўражання ўжо не адчуў. Справа, аднак, не ў тым, што мае веды пра Янку Купалу, у тым ліку і пра ягонае маленства і юнацтва, за гэты час значна ўзбагаціліся. Прычына ў іншым: аддаючы належнае З. Бандарынай як для свайго часу першапраходцы, сёння нельга не заўважыць, што аповесць "Ой, рана на Івана", пры ўсёй лёгкасці ў падачы матэрыялу, прайграе... Як бы лепей сказаць... Ды найперш як бы з сацыяльнага боку.

Памятаеце, кім быў Дамінік Луцэвіч? Правільна, арандатарам. Арандатар жа пастаянна залежыць ад тых, да каго наймаецца на працу. Яны ж, калі З. Бандарына пісала сваю аповесць, інакш як лютымі эксплуататарамі не ўспрымаліся. Таму ў творы і рабіліся адпаведныя сацыяльныя акцэнты, якія цяпер асабліва кідаюцца ў вочы. Чытаеш жа кнігу У. Ліпскага, пачынаеш глядзець і на гэтых эксплуататараў дый на саміх мужыкоў-бедакоў зусім іншымі вачыма.

У гэтым сэнсе вельмі грунтоўныя згадкі У. Ліпскага пра паходжанне роду Луцэвічаў. Яно і не дзіўна. Аўтар "Янкавага вянка", як вядома, напісаў і вельмі цікавую, па-сапраўднаму даследчыцкую кнігу "Я: Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод", у якой на падставе архіўных матэрыялаў расказаў пра карані многіх сем'яў, прозвішчаў, гербаў. Дык яму, як кажуць, і карты ў рукі. Але паколькі кніга "Янкаў вянок" у першую чаргу адрасавана дзецям, то і падыход да раскрыцця Купалавага радавода адпаведны.

Каб зацікавіць юнага чытача, У. Ліпскі размаўляе з ім так нібыта перад ім знаходзіцца канкрэтны слухач (дарэчы, такі падыход вытрымліваецца на працягу ўсяго аповеда), таму і ўзята такая інтанацыя, што выклікае паразуменне: "У кожнага чалавека, як і ў кожнага дрэва, — свае карані, ствол, галіна, верхавіна". І адразу ж праводзіцца канкрэтызацыя: "Карані — гэта людзі, з якіх некалі пачаўся сямейны радавод. Ствол — гэта своеасаблівая лесвіца, па якой уздымаюцца ў гісторыю ўсё новыя нашчадкі ад першага продка. Галіны — гэтая блізкая радня таго, хто трымаецца на стрыжні радаводнага дрэва. А верхавіна — гэта месца самага маладога з усёй радні".

Аказваецца, "трыста гадоў таму на Беларусі жыў Станіслаў Луцэвіч", які "быў панам не вельмі важным, як тады казалі, "дробным багацеем", але меў шляхецкую годнасць і свой сямейны герб". Герб гэты "называўся па-рознаму — Навіна, Война, Златагаленчык" і ім "даўней карысталіся 239 вядомых сем'яў". Аднак, "хоць старажытны род Луцэвічаў з часам драбнеў, бяднеў, але духоўна яны заставаліся багатымі людзьмі, ніколі не страчвалі сваёй шляхетнасці, былі верны свайму гербу Навіна". Калі ж нарадзіўся сын Янка, бацькі ягоныя папрасілі запісаць сябе дваранамі.

Называючы сімвалы гэтага герба, У. Ліпскі, між іншым, заначае: "Карона, шлем і шчыт аздоблены прыгожымі стужкамі. Чым больш узіраюся на іх, тым больш мне здаецца, што яны падобны да лісця папараці. Можа, далёкія прашчуры Купалы верылі ў дзівосную казку пра чароўныя кветкі папараці, якія з'яўляюцца зорнай ночку на Івана Купалу?" І працягвае: "Можа, яны нястомна маліліся, каб у іхным родзе калі-небудзь з'явіўся заступнік, той шчаслівы, які адшукае ўрэшце кветку папараці і ўславіць увесь іхны род?"

Так, спалучаючы дакументальныя звесткі з разважамі эмацыянальна-лірычнага кшталту (яны асабліва ўзмацняюцца ў тым выпадку, калі аўтар "Янкавага вянка" падарожнічае па мясцінах, дзе некалі бываў народны пясняр ці ідзе на своеасаблівую споведзь да помніка Янку Купалу ў Мінску), У. Ліпскі і будуе свой аповед.

У. Ліпскі стараецца як мага паўней ахапіць усе найбольш важныя моманты з жыцця і творчасці песняра. Безумоўна, дасягнуць гэтага было не так і проста. Асабліва прыняўшы пад увагу тое, што перш за ўсё пісьменнік расказвае "дзецям пра Янку Купалу". Складанасці, як на маю думку, напаткалі У. Ліпскага тады, калі гаворка вялася пра ўспрыманне песняром рэвалюцыйнай і паслярэвалюцыйнай рэчаіснасці. Яшчэ ў большай ступені аўтар "Янкавага вянка" адчуў гэта пры ўзнаўленні трагічных падзей 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Дый смерць Янкі Купалы, як вядома, па-сённяшні дзень застаецца адной з такіх загадак, пры набліжэнні да якіх застаецца больш пытанняў, чым адказаў.

Аднак У. Ліпскі паспяхова спраўляецца з гэтымі вострымі момантамі. Ён не абмінае іх, але праяўляе і неабходную тактоўнасць, абачлівасць, не забываючы пра сваю асноўную чытацкую аўдыторыю. Дарэчы, прымаючы гэта пад увагу, у адным выпадку нават прапануе адгадаць сваю крыжаванку, дзе "засакрэчана" "імя дзяўчыны, якая неўзабаве стане паэтавай жонкай", што, несумненна, выклікае да кнігі яшчэ большую цікавасць.

Аўтару гэтай кнігі ўдалося паспяхова выкарыстаць усе адметнасці дакументальна-мастацкага жанру, без чаго не абысціся, калі гаворка ідзе пра выдатных творцаў. У сюжэтную канву арганічна ўпісваюцца ўрыўкі з успамінаў пра народнага песняра, а таксама сведчанні яго самога, прыводзяцца вытрымкі з твораў Янкі Купалы, а некаторыя з іх разглядаюцца даволі падрабязна. Кніга багата ілюстравана (выкарыстаны здымкі самога песняра і ягонага акружэння, а таксама тых гадоў, пра якія вядзецца гаворка, копіі твораў жывапісу, скульптуры і г.д.), а гэта, безумоўна, шмат у чым дае і візуальнае ўяўленне пра тое, пра што гаворыцца.

Несумненна, пра "Янкаў вянок" трэба гаварыць не проста як пра чарговую кніжную навінку, няхай і значную, а як пра пачатак добрай справы, што абавязкова павінна мець працяг. У. Ліпскі ў ёй выступіў у ролі першапраходцы, напісаўшы мастацкую біяграфію Янкі Купалы для дзяцей (раман-эсэ Алега Лойкі "Як агонь, як вада" пры ўсёй ягонай мастацка-даследчыцкай значнасці ўсё ж цяжкі для ўспрымання юным чытачом). У гэткім жа кірунку з'явіцца кніга пра Якуба Коласа, над якой працуе Мікола Маляўка і раздзелы з якой, як перад гэтым і "Янкаў вянок", праходзяць свайго роду апрабацыю на старонках часопіса "Вясёлка".

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# «Спісаны ў архіў» Багдановіч

Ужо з публікацыі першага твора Максіма Багдановіча стала зразумела: у беларускую літаратуру прыйшоў новы талент. Кароткае апавяданне "Музыка" было надрукавана на старонках "Нашай Нівы" ў 1907 годзе, і твор пятнаццацігадовага пісьменніка быў заўважаны. Іларыён Свянціцкі, украінскі філолаг-славіст і мованазнавец, у сваёй кнізе "Відроджене білоруського письменства", што выйшла ў 1908 годзе, ужо цытуе твор М. Багдановіча, даючы зразумець, што беларуская літаратура папоўнілася яшчэ адным талентам.




Праз некаторы час пасля публікацыі першага апавядання М. Багдановіч дасылае ў рэдакцыю "Нашай Нівы" колькі вершаў. Газета ўсяляк заахвочвала новых паэтаў да творчай дзейнасці і імкнулася апублікаваць два-тры вершы кожнага новага паэта. Такім чынам вершы Максіма Багдановіча "Над магілай" і "Прыйдзе вясна" з'явіліся на старонках "Нашай Нівы" ў нумарах за 1 студзеня і 5 сакавіка 1909 года. Вершы не былі абмінуты ўвагай і амаль адразу пасля выхаду перакладзены украінскім паэтам, літаратурным крытыкам Мікітам Шапавалам і апублікаваныя ў часопісе "Літературно-науковий вісник" (1909, № 9).

Зразумела, што знакавасць гэтай падзеі для беларускай літаратуры асэнсавалася пазней, а тады была вялікая верагоднасць таго, што вершы, якія паэт працягваў дасылаць у рэдакцыю, застануцца ў архіве рэдакцыі неапублікаванымі. Наступны сшытак вершаў, дасланы ў рэдакцыю, уключаў каля 9 вершаў, і стаўленне да іх ужо не было такім прыязным, як да папярэдніх. Ядвігін Ш. зрабіў выснову, што паэзія такога кшталту непатрэбная для беларускай літаратуры, назваў яе "дэкадэншчынай", Аляксандр Уласаў вырашыў адправіць вершы паэта ў архіў, многія ў рэдакцыі газеты падтрымалі іх думку, пачалася дыскусія. Тады многія не зразумелі, што паэзія Максіма Багдановіча не можа вымярацца актуальнасцю толькі для свайго часу, бо яна — на ўсе часы. Тады яшчэ не прыйшла пара да поўнага разумення каштоўнасці яго твораў. Янка Купала, адчуўшы з'яўленне новага таленту — падтрымліваў М. Багдановіча, але да канца не прымаў яго, успамінаючы пазней, што "з першых жа радкоў адчуў у ім з'яўленне шчырага паэта, але захапіцца ім, як, можа быць, ён гэтага заслугоўваў, я не мог — ужо надта па-рознаму мы пісалі, у мяне матывы грамадзянска-нацыянальныя, у яго — ледзьве не "мастацтва для мастацтва", за маленькім выключэннем".

Воляю выпадку "спісаныя ў архіў" вершы М. Багдановіча трапляюць у рукі Сяргея Палуяна, маладога публіцыста і літаратуразнаўца. Равеснік, чалавек таго ж пакалення, пачынае ўсялякім чынам дабівацца публікацыі вершаў. Паміж імі завязалася перапіска. С. Палуян раіў паэту працаваць над формай вершаў, звярнуць увагу на мову. У творах сустракаліся шматлікія русізмы. Але гэта зразумела. Жывучы далёка ад Беларусі, не чуючы жывой мовы, маючы толькі слоўнік І. І. Насовіча, цяжка гэтага пазбегнуць. З часам паэт усё больш дасканала авалодваў роднай мовай, што адзначаў Янка Купала.

Сяргей Палуян спрабаваў пераканаць Ядвігіна Ш., Альберта Паўловіча, Аляксандра Уласава, Івана і Антона Луцкевічаў, Язэпа Манькоўскага, і яго намаганні не былі дарэмнымі. Максім Багдановіч, пачынаючы з канца 1909 года, ужо рэгулярна публікуецца ў газеце. Тыя ж першыя вершы "Над магілай" і "Прыйдзе вясна" застануцца пачаткам прыходу ў беларускую літаратуру вялікага класіка.

Марына ЗАПАРТЫКА,
вядучы навуковы супрацоўнік
Літаратурнага музея М. Багдановіча
Фота аўтара

# Кінаман са стажам

Зірнуў на прозвішча аўтара кнігі "В лучах немеркнущих звёзд" — адразу падумалася, ці не той гэта Лазуркін, які гэтак актыўна друкаваўся на старонках "ЛіМа", пачынаючы з 70-х гадоў мінулага стагоддзя, са сваімі вельмі дасціпнымі гумарэскамі. Але ж імя? Лазуркіна-гумарыста клічуць Рыгор. Памяць не магла падвесці мяне ўжо хоць бы з той нагоды, што некалькі гадоў таму, напярэдадні чарговага Свята беларускага пісьменства, якое праходзіла ў Шклове, складаючы кнігу для серыі "Беларусь літаратурная" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"), не мог не ўключыць і творы Р. Лазуркіна, паколькі ён родам з тамтэйшых мясцін. Няўжо Леанід Лазуркін, кніга якога толькі што выйшла ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва", — ягоны аднафамілец? А можа...

Гэтае "можа" пацвердзілася пры чытанні кнігі. "Нет, я не юморист! Это брат у меня юморист. Нас три брата: два инженера-строителя и один писатель-юморист. Я — строитель", — заявіў Л. Лазуркін самому... народнаму артысту СССР Юрыю Якаўлеву.

Пазнаёміўся Л. Лазуркін з Юрыем Васільевічам у санаторыі "Актёр", што знаходзіцца, як вядома, у Сочы. Можа ўзнікнуць пытанне, а як жа туды трапіў будучы "гумарыст"? Аказваецца, Л. Лазуркін, паводле ягонага прызнання, "кіноман со стажем", які любіць "погреться в лучах чужой славы".

Ды нездарма кажуць: у кожным жарце ёсць доля ісціны: "Общение в юные годы с Борисом Фёдоровичем и Петром Мартыновичем настолько «запрограммировало» моё подсознание, что и в зрелом возрасте я продолжал искать любую информацию о них, в том числе через людей их круга, прикасаясь таким образом и к другим талантам".

Гэтыя Пётр Мартынавіч і Барыс Фёдаравіч — акцёры Пётр Алейнікаў і народны артыст СССР Барыс Андрэеў. Не пазнаёміцца з Пятром Мартынавічам Л. Лазуркін не мог, бо акцёр таксама, як і аўтар кнігі, родам са Шклоўшчыны і часта наведваўся ў свае родныя мясціны. Нярэдка і не адзін прыязджаў, а са сваім лепшым сябрам Б. Андрэевым. А што значыла іхняе сяброўства, надзвя яскрава сведчаць такі факт.

Пётр Алейнікаў, як вядома, памёр маладым. Трэба згадаць, што, нягледзячы на вялікі талент, ён не меў ніякіх рэгалій. Чаго не скажаш пра Б. Андрэева. Памятаючы, што ягоны сябра перад смерцю паўжартам сказаў, што хоча быць пахаваны толькі на Новадзявочых могілках, Барыс Фёдаравіч накіраваўся, па-сучаснаму кажучы, да мэра Масквы Промыслава і заявіў, што сваё будучае месца на гэтых прэстыжных могілках аддае... П. Алейнікаву. Жаданню такога выдатнага артыста, прытым удастоенага самых высокіх узнагарод, нікто запярэчыць не мог. Таму і спачывае П. Алейнікаў на Новадзявочых могілках, а Б. Андрэеў, які перажыў сябра на семнаццаць гадоў, на Ваганькаўскіх.

Дасведчаны чытач можа запярэчыць: пры чым жа тут Л. Лазуркін? Факт добра вядомы (прынамсі, апошнім часам яго згадвае ці не кожны, хто піша пра гэтых двух выдатных акцёраў). Аднак факт гэты ў інтэрпрэтацыі аўтара кнігі "В лучах немеркнущих звёзд" набывае, па сутнасці, новае гучанне, бо ён падаецца ў звязцы з тымі эпізодамі, сведкам якіх быў сам апавядальнік. Тым больш, Пятру Алейнікаву і Барысу Андрэеву (і ў гэтых выпадках, і ў наступных нарысы называюцца па імені і прозвішчы тых, пра каго расказваецца) прысвечаны асобныя матэрыялы, што ўзаемна дапаўняць адзін аднаго. Але і ў іншых выпадках Л. Лазуркіну таксама ўдаецца ўмела спалучаць асабістыя ўражанні ад сустрэч са знакамітымі людзьмі, з тым, што пра іх расказана іншымі.

Расказваецца ў кнізе і пра такіх выдатных акцёраў, як Вольга Аросева, Вія Артмане, Леў Дураў, Васіль Ланавы, ужо згаданы Юрый Якаўлеў. Адметнасць усіх гэтых нарысаў не толькі ў тым, што часам прыводзяцца факты, якіх больш нідзе не напаткаеш. Уражвае тое, з якой непасрэднасцю пра ўсё гэта расказвае "кіноман са стажем" — шчыра, часам з гумарам.

Чытач, безумоўна, узрадуецца магчымасці пазнаёміцца з цікавай кнігай. У мяне, праўда, з'явілася і шкадаванне. З-за таго, што нічога не ведаю пра Л. Лазуркіна, калі складаў кнігу пра Шклоўшчыну літаратурную. Яго ж нарыс "Пётр Алейников" быў бы ў ёй вельмі да месца.

Алесь ВІШНЕЎСКІ

# Містыка Анатоля Казлова і «паэтычны прынцып»



Знайсці свой стыль, сваю тэму, свайго героя традыцыйна лічыцца поспехам, істотным дасягненнем, сведчаннем творчай сталасці пісьменніка і абавязковай умовай ягонай арыгінальнасці. Аднак часам адабраны набор мастацкіх прыёмаў, сфармаваны падыход да распрацоўкі матэрыялу, вызначанае кола цікавых для аўтара праблем хаця й маюць вынікам адметнасць пісьменніка ў агульна літаратурным кантэксце, але адначасна робіць ягоную творчасць саму ў сабе некалькі аднастайнай. Стыль пачынае здавацца застылым, героі – зводнымі братамі ды сёстрамі, сюжэты – варыяцыямі адно аднаго, і хаця ў пэўным творы ўсё можа спалучыцца выключна трапна і старонкі ягоныя стануцца залатымі старонкамі беларускай літаратуры, у сталага чытача новыя публікацыі аўтара такі не выклічуць звышзахаплення.

Пісьменнікаў, якія засяроджваюцца на добрай знаходцы і, здаецца, паглыбляюцца ў праблему, замест таго, каб шукаць далей і ўражваць неспадзёўкамі, дынамікай, разнастайнасцю, шмат як сярод нашых сучаснікаў, так і між класікаў. Таму сталы зварот да ўлюбёных прыёмаў, жанраў, сітуацый ёсць хутчэй асаблівасцю пісьменніка, чым ягонай праблемай, бо нейкія канстанты ў творчасці заўжды неабходныя, ды і патрэба грунтоўна распрацаваць тэму ёсць сведчаннем удумлівасці, вельмі каштоўнай для празаіка…

Аўтар, да якога мы звернемся ў гэтым артыкуле, — шаноўны Анатоль Казлоў, падставай чаго ёсць не толькі пэўная супярэчлівасць уражанняў ад ягонай прозы, але й магчымасць працягнуць развагі на гэты конт Лады Алейнік і Ірыны Шаўляковай, дзякуючы якім можна ўжо не забірацца на парнаскія вяршыні вызначэння эстэтычна-філасофскай пазіцыі аўтара (горы заўсёды велічныя ў смузе), а груба-канкрэтна звярнуцца да некаторых твораў каб спыніцца на сюжэце, героях і стылі…

Безумоўная знаходка А. Казлова — гэта містычная тэма (гаспадарчая магія, народная дэманалогія, крыху хрысціянства і абавязкова беларускія па духу ірэальныя сутнасці — Поўня, Ноч-маці, Нешта, Нішто), якая дае магчымасць стварыць сучаснага героя, паказаць мінулае і сённяшняе, паразважаць пра зло і дабрыню… Пры гэтым у пісьменніка носьбіт магічнай сілы можа быць як кепскім чараўніком (Пёкла, Ахрэм), так і ратавальнікам (Кірыл), альбо выпадковым абраннікам ведзьмака (Андрэйка). Ахвяра ж чараўніцтва можа заслугоўваць пакарання праз сваё жыццё (Юргон) ці прыналежнасць да пэўнага роду (Косця Барташэвіч, Віктар ды Антон – нашчадкі князя Севалада), альбо быць цалкам нейтральнай асобай (Андрэй з "Распяцця…"). У творах пісьменніка маюцца як этнаграфічныя ўстаўкі (згадкі пра дамавікоў ці лекаванне дзяцей у печах, тэксты замоваў), так і псеўдалегенды (намогласць Жыгімонта ІІ Аўгуста), і, у пераважнай колькасці, уласнапрыдуманыя фантастычныя гісторыі. Разнастайныя нюансы ў характары праблемаў і суаднесенасці сілаў выдатна прааналізаваныя вышэйзгаданай І. Шаўляковай і, безумоўна, у чытачоў "Правілаў адасаблення" не застанецца сумневаў у вартасці прозы А. Казлова. Аднак нягледзячы на тое, што пэўныя старонкі (апавяданне "Крывавы прысмак", пятая частка аповесці "Я і Прарок-Уродка") напісаныя вусцішна экспрэсіўна і маляўніча, выключна містыкай магіі б задаволіцца, бадай, толькі міфолагі, чытачы-готы, аматары фэнтэзі ды людзі, што цікавяцца ўсемагчымымі адлюстраваннямі Іншасвету. Большасці ж з тых, каму трапіцца ў рукі творы пісьменніка, будзе найперш цікава, наколькі адмыслова аўтар выявіў рэчаіснасць, зрабіўшы твор захапляльным дзякуючы фантастычнаму сюжэту (першыя прыклады, што прыходзяць на думку, – "Залаты гаршчок" Э. Гофмана, "Сон на кургане" Янкі Купалы, "Майстар і Маргарыта" М. Булгакава).

Пачнём з таго, што ў А. Казлова аднолькава шмат і вёскі, і горада, прычым пра вёску і прыроду ён піша больш своеасабліва, чым пра жыццё сталіцы. Нават у тых творах, дзе падзеі разгортваюцца ў горадзе, герой альбо паходзіць з вёскі, альбо мае сувязь з мінулымі вясковымі падзеямі. І Чорны Гардзей з "Юргона", і Прарок-Уродка з аднайменнага твора жывуць і чыняць свае чорныя справы між неабсяжных, рэдказаселеных, а таму малакантралюемых палёў ды ўзгоркаў; пад стрэхамі ж сялянскіх хат начароўваюць шкоду суседзям зламысныя старыя — Надзька Барташэвіч ды Пераземчыха ("Незламаная свечка" і "Пеpакуліся перакуленае" адпаведна). Калі ў гэтых ранейшых творах пісьменнік адлюстроўвае жыццё розных пакаленняў сялян — ад бабуль да вясковай дзятвы — ва ўзаемадзеянні, то пасля ён нібы адмяжоўвае сваіх герояў (праз іхнія адмысловыя якасці, спецыфіку сітуацый ці геаграфічна) і разглядае асобасна, паглыблена-індывідуалізавана – што датычыць і чараўніка Гардзея, і Юрдока з апавядання "Нішто", і бацькоў Андрэйкі, дыялог між якімі адбываецца ўвечары за абіраннем бульбы. Праўда, у аповесці-фантасмагорыі "Я і Прарок-Уродка" пісьменнік стварае шыкоўную панараму зімовага чакання святоў на вёсцы, а ў рамане "Юргон" асвятляе інтымнае жыццё вясковай сям'і даўнейшага часу… Наогул, апісанні вабных дзяўчат, любошчаў ды жарсцяў у А. Казлова атрымоўваюцца, бадай, не горш, чым у А. Глобуса, і стэрэатыпы адносна "правільных сталых пісьменнікаў" ужо маюць сысці ў нябыт. Размова на эратычную тэму робіць больш цікавай выдатную сцэну вясельнай вячэры ў Асінаўскім замку з рамана "Мінск і воран, Парыж і здань" (адно што "сантымент", "эксперыменты" ды "экзатычнасць" гучаць даволі ненатуральна з вуснаў светласцяў XVIII ст.), ды і ўвесь твор у прынцыпе трымаецца на любоўным трохкутніку.

Але значна мацней уражвае згаданая вышэй пятая частка аповесці "Я і Прарок-Уродка", напісаная ў манеры "джойсаўскага абсурду". Дзеянне адбываецца і ў зале краязнаўчага музея, і на мінскай плошчы 1917-га, і ў палацы крыжакоў; між герояў твора — добрыя гугіёны, Кейстут-вязень, ўладныя генералы-рэвалюцыянеры, што разыгрываюць прыгчу пра боханы, жанчына з сынам, што здзяйсняе інцэст, у якіх пазнаюцца Маці Боская і Збаўца… Фрагмент яскрава сведчыць, што стылёвыя эксперыменты ў пісьменніка "сталых" могуць атрымлівацца нават лепш, чым у "маладых". Прычым разважаць над гэтым фрагментам, у якім спалучаецца і містычнае, і рэлігійнае, і гістарычнае, цікавей, чым чытаць шматслоўныя выкрывальныя "агульныя месцы" ("… знікла радзінная повязь між людзьмі. Дзеці забываюць бацькоў, а бацькі кідаюць дзяцей. Стрыечная роднасць не ў пашане. Сусед — не дружбак ці ў нечым дарадца, а найчасцей — вораг ці аб'ект для зайздрасці"; "А людскасць, дабрыня, спачуванне і шкадоба — пустыя словы, якімі большасць прыкрывае сваю мурашыную мізэрнасць ці, наадварот, пацёмкі душы").

Аповесць "Я і Прарок-Уродка" можна было б паставіць на першае месца ў рэйтынгу твораў А. Казлова – але толькі дзякуючы "містычнай" яе палове. Бо ў рэальным жыцці Андрэй – аспірант гістфака, які жыве ў інтэрнаце і разам з каханай Лорай, здараецца, заходзіць у кавярню… Адзінае цікавае — гэта тое, што ад нядобразычлівага позірка хлопца часам разбіваюцца таксоўкі. І справа не ў звычайнасці Андрэевага існавання, а ў тым, што выпісана яно неяк бляклa і проста: інтэрнат А. Казлова мала адрозніваецца ад інтэрнатаў А. Федарэнкі і П. Васючэнкі, п'янкі ў рэстарацыі не праміную, бадай, ніводны пісьменнік, вобраз Ларкі таксама не новы для беларускай літаратуры, і ўвогуле яксна новага ў сэнсе адлюстравання сённяшняй рэчаіснасці ў творы замала (міні-прыклад трапнага адлюстравання з "Дзяцей ночы": "во, блін, не бульбяной, бананавай краінай сталі мы … Так і ўзіраіся пад ногі, а то, не дай Бог, паслізнешся на шалупінні … Не, нешта робіцца не тое. Цяпер, паглядзі, Нінка, памідоры даражэй бананаў каштуюць. А раней жа я чула, што наша Беларусь — рэспубліка вечна зялёных памідораў. Не, яшчэ раз — не. Яна бананава-апельсінная"). Гэта ж датычыць і рамана "Юргон", галоўны герой якога, сучасны Дон-Хуян (з "Халоднага сэрца" А. Бахарэвіча), сустракаецца, бадай, у кожным зборніку прозы. Аповесці "Дзеці ночы" і "Распяцце…" — перадрукаваныя з "Незламанай свечкі" (2000 г.) — раскрываюць перад чытачом свет мінскіх алкаголікаў, маргіналаў, бяздомнікаў, прычым Андрэя з другога твора можна было з лёгкай душой назваць Віленам (галоўны герой "Дзяцей ночы"), зрабіўшы гісторыю з Марынай храналагічна першай; Ахрэм-Гаспадар паводле сваіх якасцяў і тактыкі дзеяння мала чым адрозніваецца ад цыгана Ахрэмія (Прарока-Уродкі), Андрэй з гэтай аповесці – падрослы Антон Смаляк; Люська ж з "Распяцця…" — амаль што Фрэня з "Юргона" ці Танька з "Горада ў нябёсах", а Лара з "Юргона" — амаль што Светка з "Горада…". Пэўна, нават для чытачоў, не надта дасведчаных у творчасці А. Казлова, зразумела, што пры жаданні – калі паменшыць колькасць імёнаў і крыху адкарэкціраваць сюжэты – раманы і аповесці пісьменніка можна было б аб'яднаць у адзін мегатвор: гэтак шмат у іх падобных герояў і абставін…

І, на жаль, ледзь не ў кожным творы ёсць да чаго прычапіцца: у "Мінску і ворану…" раздражняюць размовы між воранам і пугачом, якія просценька пацвельваюцца адзін з адным ("травяадны ты мой", "мудрасць ты мая бяздонная") — сэнс іхніх дыялогаў, бадай, у тым, каб паменшыць напружанасць рамана, хаця для сур'ёзнага твора наадварот патрэбна было б больш сэнсоўнасці і глыбіні; у "Горадзе ў нябёсах" горад краіны Продкаў нейкі зусім не беларускі – проста шаблонны варыянт дзкарацый з фільма пра пачатак ХХ стагоддзя, да таго ж надта ўжо змрочнай падаецца Антаку сучаснасць, хаця сам ён, "пяюн адзіноты, павянчаны невядомай сілай з вечнай самотай" ды шыкоўны прамоўца-маралізатар, як выяўляецца, "кідаўся ў такія разгулы і загулы, што не снілася ніводнаму, самаму, як кажуць, прапашчаму валацугу, а колькі лёсаў дзяўчат знявечана ім…". І справа не ў тым, што падобныя да Антака героі рэдка падабаюцца кабетам-чытачам, а ў тым, што гэткія хлопцы звычайна ставяцца да рэчаіснасці значна менш патрабавальна. Наогул, галоўныя героі А. Казлова збольшага не надта шчаслівыя людзі, пачуцьцёва развітыя, але без дзяцей ды ўласнай сям'і.

Праўда, усё вышэйазначанае датычыць "буйных" формаў, а не кароткіх апавяданняў, больш дынамічных, лаканічных, але не менш сэнсоўных, у якіх аўтар дазваляе сабе не абмалёўваць тое, што нецікава. Датычна ж стылю, А. Казлоў мае адну безумоўна адметную рысу: трапныя "сялянскія" параўнанні, праз якія выяўляецца добрае веданне аўтарам вясковага побыту ("вузлавата голыя, як выветраныя на сонцы косткі, ствалы", "залацістыя, быццам грэчневым мёдам шчодра намазаныя, сосны", "смельчакі … высыхалі гадзіны, не раўнуючы, як скрылікі яблыкаў у гарачай, выпаленай дубовымі дровамі печы"). Як большасць пісьменнікаў, што паходзяць з вёскі, аўтар частотна ўкладае ў вусны сваіх герояў прымаўкі, выслоўі, народныя параўнанні ("абмілалі жаніхі дворышча, як усё роўна там чамярыцы нехта сыпануў", "плача, як баба загуменная", "да ламаты ў зубах сумна"), якія падаюцца маляўнічымі ды нязвыклымі, а таксама, апісаючы горад, абавязкова звяртае ўвагу на дрэвы, сонца, паветра, стан надвор'я, не засяроджваючыся на будынках ды транспарце.

Істотная ж у агульнакультурным сэнсе думка, якая наведваецца падчас чытання твораў А. Казлова, — гэта тое, што паводле ягонай прозы можна было б зняць выдатны беларускі трылер, у якім адбівалася б дауніна і шматаблічная сучаснасць, было б абгрунтаваным ужыванне героямі роднай мовы, плюс меўся зварот да багацця традыцый і міфалогіі. Бо, здаецца, спробаў стварыць фільм такога кшталту яшчэ не было, хаця падобная стужка ўразіла б як беларускага, так і замежнага гледача. І талент А. Казлова, як аўтара сцэнарыя, быў бы цалкам бясспрэчны… Што ж датычыць прозы, то, магчыма, мела б сэнс у якімсьці чарговым творы адмовіцца ад містыкі і паспрабаваць стварыць больш свежы сюжэт. Бо, хаця без элементаў фантастыкі не абыходзіцца палова сучасных беларускіх аповесцей ды апавяданняў, першай мэтай творцы, паводле Эдгара Алана По, мае быць менавіта арыгінальнасць. І, варта думаць, арыгінальнасць не толькі ў межах сучаснай літаратуры, але й адносна ўласных папярэдніх рэчаў. Сакрэт жа арыгінальнасці, на думку амерыканскага пісьменніка, не столькі ў вынаходлівасці, колькі ў здатнасці ўважліва і настойліва адкідаць непажаданае. Цікава пры гэтым, што неўміручымі могуць быць не толькі вершы, але й слушныя крытычныя заўвагі…

Алеся ЛАПІЦКАЯ

## Калонка Асі Паплаўскай

## Вокладка кнігі. Істотная ейная частка



Часта бывае, што чалавек заходзіць у кнігарню, не ведаючы, якую канкрэтна кнігу ён хоча купіць. Пытаецца ў кансультанта: "Ці не падкажаце вы якую цікавую кнігу сучаснага беларускага аўтара?" А часцей не пытаецца — выбірае па вокладцы… Таму трэба ведаць, што праца дызайнера над вокладкай кнігі вельмі адказная.

Самі аўтары часта ставяцца да гэтага абыякава. Маўляў, у кнізе галоўнае — змест. А чытачам патрэбна ўсё: хочацца і мазгамі паварушыць, і душу разняволіць, і вока парадаваць.

Абсалютная большасць кніг сучасных аўтараў — з малюнкам на вокладцы. Часам яны ўдалыя, зразумелыя ("Цацачная крама" Л. Дранько-Майсюка, "Каляровая затока" П. Васючэнкі, "Казкі" А. Глобуса, "Анадыямена" Г. Дубянецкай, зборнік жаночай прозы "Пакахай мяне, калі ласка"), але, бывае, вокладку "ўпрыгожвае" незразумелая салянка, альбо вынікі дызайнерскага трызнення ("Адмысловыя гульні" А. Кавалеўскага, "Дыяфрагма" В. Жыбуля, "Сонца за тэрыконамі" Ю. Новік).

Пераважная большасць аўтараў выкарыстоўвае ў афармленні сваіх кніг карціны мастакоў. "Экзістэнцыйны пейзаж" В. Трэнас упрыгожвае карціна С. Малішэўскага "Шапіто", "Адлюстраванне першатвора" П. Васючэнкі пачынаецца карцінай Ю. Цімафеева, "Готыка тонкіх падманаў" Т. Нілавай — "Восеннію" Ю. Пеўнева, вокладка кнігі "Мільярд удараў" Ю. Станкевіча — карцінай невядомага мастака…

Досыць папулярнымі ў афармленні вокладак з'яўляюцца карціны З. Вішнёва і А. Родзіна. Калі іх так можна назваць. Карціны З. Вішнёва — не толькі на яго ўласных кнігах, але і на вокладках зборнікаў перакладаў "Лінія фронту-1", "Лінія фронту-2", кніг "Паляванне на мух са шланга" М. Башуры, "Таксідэрмічны практыкум" З. Пляна і інш.

Творы А. Родзіна — на вокладках кніг В. Морт "Я тоненькая, як твае вейкі", В. Ывановa (Лупасіна) "Асарці". Дарэчы, выява ног, акрамя вокладкі згаданай кнігі В. Морт, таксама на зборніках маладых паэтаў В. Гапеевай "Няголены ранак" і А. Кавалеўскага "Аддаленасць і адданасць". Усе яны — творцы адной генерацыі. Гэта падштурхоўвае да параўнанняў, правядзення паралеляў…

Сярод "маляваных" вокладак асобна варта адзначыць працу Джэці (В. Бурлак), якая афармляла свой зборнік вершаў "За здаровы лад жыцця" дзіцячымі малюнкамі, а таксама вокладку кнігі А. Бурсава "Празнеб'е", на якой — дрэварыт К. Фламярыёна. Першая вокладка кідкая, яркая, запамінальная. Другая — не надта.

Што да вокладак з фотаздымкамі. Не аўтараў. Такіх кніг няшмат. Пераважаюць пейзажы: "Брызгалаўка" А. Аркуша і Б. Козіка з фотаздымкам чоўна ля берага, зборнік вершаў Я. Зубовіча "У небе сонца заходзіць самотна" з гэтым самым небам, сонцам, ракой і птушкай. Кнігі наўрад ці здольныя зацікавіць неабазнанага чытача, які прыходзіць набыць "штосьці з сучаснага". Чырвоныя ногі на чорным фоне кнігі В. Гапеевай зацікаваць, фотаздымак вёскі — не.

Цяпер пра вокладкі з фотаздымкамі аўтараў. Іх аказалася болей, чым я чакала... "Левым вокам" Л. Ушкіна, "Вершы" С. Дубаўца, "Серпень" М. Вайцяшонак, "Сто Дарог" У. Несцяровіча, арыгінальны пакунак І. Сіна "Сапсаваныя лялькі" з паштоўкай-фотаздымкам аўтара.

Вокладкі кніг з серыі І. Бабкова "Галерэя Б" таксама ўтрымліваюць у дызайне фота аўтара. Гэта кнігі самога І. Бабкова "Каралеўства Беларусь. Вытлумачэнне ру[і]наў", М. Мартысевіч "Цмокі лятуць на нераст", А. Мінкіна "Пенаты"…

У кнігах Т. Лісіцкай "Ідыёткі", Н. Батраковай "Тэрыторыя душы", Г. Волкавай "Адлегласць да кахання" фота аўтара — аснова дызайну вокладкі.

Самыя стыльныя вокладкі, якія прыцягваюць увагу чытачоў, на мой погляд, наступныя: "Дзевяностыя forever" С. Прылуцкага, "Фрашкі да пляшкі" С. Кляткоўскага, а таксама ўсе 6 кніг А. Разанава з ужо вядомымі публіцы "яйкаквадратамі". Усе гэтыя вокладкі зробленыя па прынцыпе мінімалізму. Сціпла. Проста. З густам.



## Мікола АЎРАМЧЫК

Учора споўнілася 90 гадоў аднаму са старэйшых беларускіх паэтаў, лаўрэату Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы, заслужанаму работніку культуры Беларусі Міколу АЎРАМЧЫКУ. Ад імя рэдакцыйнага і аўтарскага калектыву штотыднёвіка "ЛіМ" шчыра віншуем шаноўнага юбіляра і зычым яму здаровага зімовага настрою, творчага натхнення і поспехаў у далейшым жыцці! А нашым чытачам прапануем нізку вершаў Міколы Якаўлевіча.

* * *

Ля спаленае з жыхарамі вёскі,
Дзе ў акупацыю мясцовы бор
Дашчэнту высекла чужое войска,
Зноў сталі сосны гонкія ў дазор.

У маскхалатах з жаўцізной зялёнай
Стаяць, як партызанкі тых часоў,
Увешаныя шышкамі лімонак
З усіх бакоў з плячэй да паясоў.

Ды гэтыя нязвычныя гранаты
Не смерць і гром рассейваюць наўкол,
А спелыя крылатыя зярняты
Што ціха-ціха падаюць на дол.

Пустыя шышкі, ссохлую ігліцу
Зрывае вецер з пругкага галля,
І там, куды ім суджана зваліцца,
Становіцца ўрадліваю зямля.

На ёй расце няспынна на выгодзе
Густой сцяной падлесак маладзы,
Што не дае выветрываць пагодзе
Жахлівага пажарышча сляды.

* * *

Памяці Васіля Быкава

Як пісталет для самаабароны,
Які нагадваў нам вайны гады,
Свой інгалятар з лекавым балонам
Насілі мы ў кішэні заўсягды.
Ды не для самагубства
ў час крытычны
Адпужвалі ім прыступ небыцця,
Калі з яго, пры ўдушшы
астматычным,
Стралялі ў рот сабе ў імя жыцця.

* * *

Не чалавекам, а драпежным зверам
Па-над магілай, дзе спачыў мой друг,
Зладзейскаю навостранай сякерай
Бярозы дзве падсечаны наўкруг.

Даўней, ні ўвачавідкі і ні ўпотай,
На могілках, свяшчэнных з веку ў век,
Нібыта са святых жывых істотаў,
Не здзекаваўся з дрэваў чалавек

### Партрэт

Уладзіміру Стальмашонку

Калісь твой бацька ўратаваў Купалу
Ад немінучай смерці чорным днём...
А жонка песняра цябе люляла
На ўлонні, калі ты быў дзіцянём.

З Купалавага паўстаюць партрэта
Высакароднасць, годнасць, дабрыня,
Якія ў вобліку жывым паэта
Яшчэ хлапцом да сэрца ты прыняў.

І зберагаў у памяці ашчадна,
Пакуль, нарэшце, не прыйшла пара
На палатне пакінуць
для нашчадкаў
Жывыя рысы твару песняра.

* * *

Цяпер, як блізкаму ўжо чалавеку,
Па шчырасці прызналася ты мне,
Што на працягу цэлага паўвеку
Мяне з юнацтва часта сніла ў сне.

Ды не было надзеі на ўзаемнасць,
Бо я ўзнікаў, як прывід, і заўжды
Загадкава і неяк патаемна
У сне знікаў няведама куды.

Адзінай суцяшальнай таямніцай
Было ў тваім бязрадасным жыцці,
Што гэтак часта мог табе я сніцца,
Хоць не магла ты ў снах
мяне знайсці.

Каб гэта знаў,
мог скараціць разлуку,
Даўно цябе знайшоў бы наяву
Дый у твае натруджаныя рукі
Паклаў сваю сівую галаву.

### Памяці маці

Ты мяне, шкадуючы, вучыла,
Каб я дома і ўначы і днём
Меней дыхаў папяровым пылам,
Менш гарбеў з паперай над сталом.

Каб змяніў уклад жыцця нязменны,
На паветры бавіў дзень-другі...
«Заклапочаны ты, задумённы,
Сынку, менш сушы свае мазгі».

Ты перадала мне працавітасць.
Дык ці ж вінаваты ў тым паэт,
Што яго, такога менавіта,
Нарадзіла ты на белы свет?



## Вадзім СПРЫНЧАН

Таленавітаму беларускаму паэту, які піша на рускай мове, Вадзіму СПРЫНЧАНУ споўнілася 60 гадоў. Шматгадовая рэдактарская праца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" і ў часопісе "Полымя" ды ўласны творчы плён, як паэта і перакладчыка, гавораць пра значнасць яго літаратурнай асобы. Сёння яго называюць сваім настаўнікам многія маладзейшыя паэты. Беларус па духу і творца па натуры, ён стаў своеасаблівым сімвалам нацыянальнай паэтычнай школы. Супрацоўнікі штотыднёвіка і рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" шчыра віншуюць свайго паважанага калегу з юбілеем і жадаюць здароўя і творчага натхнення.

### Піцунда

Калі даніну я аддаў гарам, —
Прыйшоў да мора. Сонца дагарала...
І ноч адкрыла свой сусветны храм.
Мігцелі гукі зорнага харала.

Нібы арганы, строма йшлі ўгару
Вялізныя рэліктавыя сосны.
Грымеў прыбой, і сэрца агарнуў
Дух музыкі, жывой і грандыёзнай.

І ў чорным небе ў гэты зорны час
Узнік перад вачамі вобраз Баха.
І захапленне перайшло ў экстаз,
І я не адчуваў начнога страху.

* * *

Лугам у красках, зазаблівым возерам,
Полем жытнёвым і раем бярозавым,

Зорным яшчэ серабром альбо золатам
Быў я адораны ў свеце расколатым.

Што мне цялец — залатая ілюзія!..
Зноўку на Боскія зоркі дзіўлюся я.

Сонейка веснае лашчыць душу маю.
Жывіцца дух мой нябесную думаю.

Дух, што абуджаны Вышняю воляю,
Часу бязлітаснасць пераадолее.

* * *

Духовной жаждою томим...
А.С. Пушкін

Мінулае і вечнае са мной.
І, абцяжараны зямной віной,

Іду, пакутую, і ўсё ж цярплю,
І Бога Трыадзінага люблю.

І я малюся Госпаду як след
За Русь, якая ўтрымлівае свет.

І трыццаць залатых радкоў-званоў
У сэрцы адгукаюцца ізноў.

Да самай глыбіні на гэты раз
Кранула мяне "Прарок"... Бывае час:

Калі гляджу ў прасветленую даль, —
А на душы маёй сусветны жаль;

Калі гляджу я ў цемру свету, — ды
Святло ад Слова свеціць мне тады.

Пераклад
з рускай мовы аўтара



## Міхась САЗОНЧЫК

### Дэбют

Міхась Яфрэмавіч Сазончык нарадзіўся на Аршаншчыне. Але так выпала, што Нясвіжчына стала для яго другой радзімай. Тут, у прыгожым і шчодрым куточку Беларусі, — плён яго жыцця, працы і творчасці. Пражыта і перажыта нямала. Пасівелі валасы, але ёсць жаданне працаваць на роднай зямлі, пісаць вершы. У хвіліны роздуму нараджаюцца паэтычныя радкі — як споведзь перад часам і людзьмі.

Нядаўна творцу прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Ён жа дбаў і дбае пра адно — каб сучаснікі і нашчадкі жылі сумленна і годна, любілі сваю Бацькаўшчыну, свой народ, сваю мову.

Мікола МАЛЯЎКА

### Нясвіжчына

Тут усё вакол глядзіцца
Ярка, як на сцэне.
Прыязджайце, замак дзіўны
Вас гасцінна стрэне.

Луг мурожны і палеткі,
Лес і пералескі.
Вока цешаць ружы летам,
А вясной — пралескі.

Тут не ўбачыш твараў сумных,
Тут гасцям не цесна.
Тут дзяўчаты ўсе — красуні
І добрыя цешчы.

Прыязджайце,
край Нясвіжскі
Не абдзеліць ласкай.
Назаўсёды стане блізкім,
Дарагім, як казка.

### Я тут жыву

За морам недзе эўкаліпты
І пальмы рвуцца ў сіняву.
А я люблю свой бэз і ліпы,
Пад шэрым плотам крапіву.

Галодны, без вады і хлеба,
Я не пакіну родны кут.
Я тут жыву,
пад родным небам,
І лягу пад бярозай тут.

* * *

Пад крылом чарнобыльскай бяды
Нашы вёскі, нашы гарады.

Беларусь мая! Жыві, жыві,
Не схіляй у скрусе галавы.

Нам паставіш помнікі-крыжы,
А дзяцей і ўнукаў — беражы.
Нават мёртвы буду верыць я
Ў доўгі век твой, Беларусь мая.

### Спадарожніца

Зінаідзе

Яна у мяне як святая.
Зірне — і ў душы світае,
І цешыць-радуе плён
Жыццём
Абмалочаных дзён.
Унукаў сягоння гадую,
А вочы заплюшчу на міг —
І бачу яе,
Маладую,
У першых абдымках маіх.

Знікаюць і стома, і горыч,
Калі спадарожніца поруч.
Суладна б'юцца даўно
Два сэрцы —
Нібыта адно.



Фота Кастуся Дробава

# Мартачка

## Навела

Георгій МАРЧУК



Сёння Дзень незалежнасці Украіны. Ужо, бадай, гады чатыры, як мяне не запрашаюць на гэтае нацыянальнае свята ў пасольства Украіны. І думаць няма чаго, забылі. Кожны новы пасол (выходжу з уласных назіранняў), прыязджаючы ў нашу краіну, збірае вакол сябе свой бамонд. Сякая-такая інфармацыя пра жыццё краіны-суседкі безумоўна ёсць. Але гэта ў асноўным эканоміка-палітычныя звесткі. Пра культуру, літаратуру, мастацтва — суцэльнае маўчанне на ўсіх тэлеканалах. Гэты мінус уласцівы і беларускаму тэлебачанню. Захапляючыся і папулярызуючы дзе толькі можна і як толькі можна творчасць славутых мастакоў эпохі Адраджэння ў Еўропе і не менш славутых мастакоў-перасоўнікаў у Расіі, я не ведаю творчасці вялікага ўкраінскага мастака, майго сучасніка, акадэміка Івана Марчука. А мы ж, як вынікае, — дзеці аднаго радаводнага дрэва. Сорамна, спытаеце вы? Так, сорамна. Вывучыць жыццё і творчасць усіх таленавітых мастакоў, а таксама пісьменнікаў і кампазітараў, немагчыма. Шкада, але я разумею, што чалавек не паспявае за жыццё ў належнай ступені спатоліцца прыгажосцю, але ж украінскі мастак — асаблівы клопат... з Марчуком. Можа, з ровенскіх, як мой украінскі дзед Ілья. Балазе, гэты сорам яшчэ можна выправіць. Ён яшчэ не набліжаецца да граху. Вось што рабіць з сорамам глыбінным, які часам свідруе памяць і вяртае да не заўсёды святочных успамінаў? Нездарма яшчэ Зеўс казаў, што сорам і сумленне — асноватворныя крыніцы духоўнага самаразвіцця... Пра гэта пішуць грэкі ў сваіх міфах.

Вяртаемся, такім чынам, у юнацтва. Давыд-Гарадок, маё правінцыйнае мястэчка, 1962 год.

Ах ты, вольная, п'янкая летняя пара: рыбалка, кіно, танцы, карты, футбол, тэніс, зноў рыбалка, задавальненне ўсіх простых жыццёвых патрэб. Ах ты, салодкае чаканне першых пацалункаў, радасць ад апладысментаў на конкурсе ў клубе, ах ты, шчасце маладосці — канікулы! Здаецца, гэта насычэнне душы радасцямі жыцця і жыццём як такім не будзе мець перашкод і будзе доўжыцца заўсёды. Ніхто з нас, падлеткаў, яшчэ не разумее і не імкнецца асэнсаваць словы "цяжкая хвароба", "старасць", "адзінота". Але яны ідуць побач, проста мы іх не заўважаем... да пэўнага часу.

У майго дзеда была невялікага росту, рухавая, з нейкім трохвугольным носам на шырокім скуластым твары сястра Марта. Праз гэты малы рост яе інакш як Мартачкай у гарадку і не клікалі. Мне было пятнаццаць гадоў, ёй — семдзесят. Жыла яна з сынам, залатых спраў майстрам, які самастойна навучыўся выдатна граць на мандаліне. Ён са стрыечным братам майго дзеда, мясцовым мастаком Барысам, які таксама самастойна навучыўся граць на гітары, часцяком здзіўлялі на святы ўсю нашу вуліцу і прылеглыя да яе завулкі выкананнем рускіх, італьянскіх і польскіх мелодый. Маючы справу з золатам, сын Мартачкі ўвесь час змагаўся са спакусай: ці то весці незаконны гандаль, ці то іншым чынам махляваць з золатам і серабром. Пры сацыялізме са спекулянтамі абыходзіліся крута. Быў ён у турме нядоўга. Вярнуўся зусім хворы, моцна запіў і з цяжкасцю вярнуўся да сваёй рэдкай прафесіі. Пенсію па старасці Мартачка не атрымлівала, не было яшчэ такога закона. Жылі ў галечы. Мартачка гадамі не купляла сабе нічога новага. Займалася дробным гандлем, як, дарэчы, і ўсе людзі яе ўзросту, прадавала насенне кветак ды цыбулю з часнаком. Часцяком брала ў пазыку невялікія сумы на хлеб, цукар, соль, макарону, пасля зноў пазычала ў сваякоў і вяртала пазыку суседзям. Ад галоднай смерці яе і сына ратавалі козы, якія чамусьці былі вельмі надакучлівымі і агрэсіўнымі, і, здаралася, пераследавалі мяне па завулку метраў трыццаць, а то і пяцьдзесят. Яны пасвіліся на лужку перад хатай Мартачкі і былі прывязаныя да калкоў на доўгіх вяроўках. У адрозненне ад сваёй гаспадыні козы былі злосныя. Мартачка мела добразычлівы характар, спынялася і гаманіла з кожным і магла доўга слухаць пра ўсё і пра ўсіх. Не прадмет размовы быў для яе важны, а суб'ект, чалавек, з якім яна, відавочна задаволеная, вяла гутарку.

На сваю бяду, Мартачка раптоўна аслепла. Дакладней, амаль што аслепла. З заўсёднай кайстрай у руках, у зашмальцаванай, магчыма яшчэ даваеннай, шэрай спадніцы, у зялёнай камізэльцы не па росце, залатанай на локцях, яна па сваёй завядзёнцы ўсё выходзіла ў горад, на базар, да царквы. Наша цэнтральная вуліца была ў нейкай ступені небяспечнай для пешаходаў. Мартачка, каб трапіць да царквы, мусіла перайсці цэнтральную ў раёне кінатэатра "Заря" і Дошкі гонару — гэта цэнтр горада, любімае месца збору падлеткаў. За Дошкай гонару — парк з векавымі таполямі, за кінатэатрам — базар, чайная, побач пажарная вышка памерам з пяціпавярховы дом.

Як толькі Мартачка набліжалася да нас, мы адыходзілі ўбок, далей ад пераходу. Нікому не хацелася, трымаючы бабулю пад руку, пераводзіць старую на супрацьлеглы бок вуліцы. Саромеліся. Мартачка часам хітравала: "Хлопчык, хлопчык, ходзі сюды! Нешто скажу тобе". Як толькі хтосьці з нас падыходзіў да яе, яна адразу хапала яго за локаць і ўжо не адпускала. Рукі ў яе былі дужыя. "Перавядзі мяне, хлопец, на той бок, до царквы", — прасіла яна. І "ахвяры" нічога не заставалася, як выканаць яе просьбу. Аднойчы на яе вуду трапіў і я. Яна ўхапіла мяне за руку. Я чамусьці ўвесь пачырванеў. Хлопцы насміхаліся.

— Чый ты? — Нечакана спытала яна.

— Асколка Змітра ўнук.

— Жорык! — узрадвалася яна. — Які ты ўжэ вялікі вырос. Слава Богу. Мамочку ўспомінаеш? Молодой пошла. Я плачу, плачу по ёй. У царкве памалюся. Золотэ сэрца було. Скажы дзеду, що я тры рублі ў суботу прынясу.

— Добрэ, скажу, — мне хацелася як найхутчэй вырваць свой локаць з яе рук.

Да царквы я яе не стаў праводзіць, вырашыў не вяртацца і да сваёй кампаніі — смяяцца будуць.

"Ну, як твая дзеўка, Мартачка? Добрэ пагуляў?" — такім здзекам мы заўсёды сустракалі праважатых, а тыя чырванелі, асабліва ў прысутнасці аднакласніц.

Праз некалькі дзён ля чайнай зноў з'явілася Мартачка і, пастукваючы кавенькай, накіравалася да нас. Усе мы, у тым ліку і я, хуценька рэціраваліся і перайшлі да Дошкі гонару. Хвілін дзесяць яна стаяла адна ля кінатэатра, не рашаючыся перайсці вуліцу, пакуль нейкая спагадлівая жанчына не перавяла яе на другі бок. Мяне нават не турбавала пытанне, чаму я, яе кроўны сваяк, не дапамог амаль сляпой цётцы Мартачцы? Чаму? Праз год я захварэў на сухоты і пачаліся мае амаль двухгадовыя вандроўкі па дыспансерах і санаторыях. Можа, мяне за маю абыякавасць Гасподзь пакараў? Да хворых на сухоты трэба ж ставіцца з насцярогай. Звычайна іх абмінаюць, саступаюць у бок, абы далей ад палачкі Коха. Я цураўся старой Мартачкі, пагарджаў... ну дык атрымай тое і сам, і цябе будуць абыходзіць.

Яшчэ праз год я назаўсёды пакінуў Давыд-Гарадок.

Памёр сын Мартачкі. Турма, хваробы, алкаголь дачасна звялі таленавітага самавука ў магілу. Мартачка зусім аслепла. Неўзабаве з Польшчы вярнулася ў родную старэнькую хатку з адным пакоем і дзіравым дахам дачка Мартачкі, Соня, такая ж хударлявая і рухавая, усмешлівая і шчырая, як і маці.

— У Польшчы лепш як у нас. Чаго ты ехала? — здзіўляліся суседзі.

"Маму шкода... Сляпы ж чоловек. Доглядаці трэба", — спакойна адказвала Соня. Як там яны зімавалі ў сцюдзёнай хаце, аднаму Богу вядома.

Цяпер я, хоць і вельмі рэдка, але часам наведваюся ў родны гарадок, ды няма ўжо ў каго прасіць прабачэння. Мартачка памерла.

І вось мае гады набліжаюцца да яе ўзросту. Паступова, але няўхільна слепнуць і мае вочы. Не-не ды сцісне даўкім камяком горла, выступяць зморшчыны, успамінаю Мартачку. Сорамна. Наракаю сам на сябе. Да слёз варушыць гэты сорам душу. Нібыта нейкі знак адтуль — зверху.

Даруй, Марта Міхайлаўна.

---

Віталь ВОРАНАЎ

# Ранетка

А вы таксама верыце ў тое, што казкі дзеляцца на тыя, што для дзяцей, і тыя, што для дарослых? Калі так — то гэтая казка не для вас. Яна для ўсіх астатніх.

* * *

Аднойчы ў чароўным, пахучым яблыневым садзе нарадзілася румяная дзяўчынка, якую звалі Ранетка. Усё сваё радаснае дзяцінства Рэня правяла на галінцы, побач са сваімі шматлікімі родзічамі. У іх былі дзівосныя імёны: Папяроўкі, Ананасы, Мундэры, Антонаўкі, Грышталі. Цяпер уявіце сабе, якой красуняй мусіла быць Ранетка, калі ў такім вялікім садзе яе бясспрэчна лічылі найпрыгажэйшай, наймілейшай і найсакавіцейшай з усіх. Не дзіва, што ў тыя дні, калі, спеючы, Ранетка перамянілася з бурштынавай дзяўчынкі ў рубінавую паненку, ў яе з'явіўся шраг залётнікаў, ад якіх яблыку не было дзе ўпасці. Як толькі Ранетка адарвалася ад бацькоўскай галінкі, яе тут жа падхапіў у свае далоні Музыка. Ранетка адчула далікатнасць яго скуры, танклявасць пальцаў, пругкасць падушачак і стала паглыбляцца ў сон. Ёй снілася, што Музыка сваімі вытанчанымі рукамі грае на лютні, а яго пунсовыя вусны спяваюць ёй калыханку. Гэта быў самы пераліўны і гарманічны сон у яе жыцці. Калі Ранетка абудзілася, то заўважыла на сваім крамяным бачку вялікі ўкус. "Чаму ты гэта зрабіў?, — спыталася дзяўчына ў Музыкі, які ў гэты момант пасвістваў сабе нешта пад нос. "Таму, што я цябе люблю", — мажорным тонам сказаў Музыка і працягваў насвістваць сваю мелодыю. "А ты прыдумаеш штосьці для мяне?" "Вядома", — сказаў Музыка, ды пачаў найграваць на сваім інструменце. Урэшце, ён зайграў так, што Ранетцы здалося, што гэта самая цудоўная музыка якую яна калі-небудзь чула. "Табе падабаецца?" – спытаўся Музыка. "Цудоўна!" — усклікнула захопленая Ранетка, адначасна ўбачыўшы, як з дрэва падае сястрычка Медунічка. Музыка падхапіўся з месца, але, намагаючыся злавіць Медунічку, выпусціў з рук Ранетку, якая, несумненна, звалілася б на зямлю, калі б яе не паспеў падхапіць Мастак. У адрозненне ад Музыкі, ягоныя далоні былі шурпатыя, перапляёсаныя барознамі, а больш за тое — пахлі шкіпінарам. Аднак, якія ў яго былі вочы" — не магла надзівіцца Ранетка. А гэтыя вочы ў адказ, відаць, не маглі надзівіцца Ранеткай, якая, быццам пад іх уплывам, увайшла ў глыбокі транс. Калі дзяўчына прахапілася, яна ўбачыла побач раскошную карціну і Мастака, які парадкаваў пэндзлі і фарбы. "Няўжо гэта я?" — спыталася Ранетка. "Анягож", — сказаў Мастак. Калі Ранетка нахілілася бліжэй, каб разгледзець дэталі, яна адчула ўкус на сваім другім, наліўным баку. "А гэта, значыць, ты", — сумна сказала дзяўчына, засланяючы рану. "Так, мая каханая, хутка адрэагаваў Мастак, я." "Твая карціна, — пасля працяглай паўзы сказала Ранетка, — яна выдатная!" Не паспела дагаварыць апошняе слова Ранетка, як у паветры паказалася ападаючая кузінка Папінка. Мастак кінуўся хапаць Папінку і неабачліва ўпусціў Ранетку. Ранетка, заплюшчыўшы вочы, была гатовая ўжо зваліцца на зямлю, ды раптоўна яе падлавіў Паэт. Рукі і вочы ў яго былі звычайныя, але з ягоных вуснаў ліліся такія незвычайныя словы, перад якімі ўстаяць было проста немагчыма. Навучаная, аднак, горкім досведам, Ранетка адразу сказала: "Складзі верш пра мяне." Не марнуючы часу, паэт тут жа пачаў сыпаць купай харэяў, ямбаў, дактыляў і анапестаў; прыгаршчамі манаметраў, дыметраў і актаметраў; тузінам рыфмаў і алітэрацый; усё шчыльна пераплятаючы гарой афарызмаў і паранамазій. "Ух ты!" — летаргічна азвалася Ранетка і адчула, як, скончыўшы свой палымяны выступ, паэт абкусвае яе з двух яшчэ не кранутых бакоў, а пасля з усяе моцы запускае высока ўверх, цэлячы ў каляжанку Круглянку. Калі непрытомная Ранетка трохі ачуняла, яна ўбачыла, што ляжыць на зямлі. Побач нікога не было, і Ранетка, якая стала цяпер падобная да абгрызка, пачала голасна плакаць, і плакала, плакала, плакала, і ажно, адчуўшы нейкае варушэнне ў сэрцы, падумала, што памірае. Якраз тады ёй паказаўся Чарвячок. Ранетка абцерла слязу. "Хто ты? І адкуль?" — спыталася дзяўчынка. "Я Чарвячок, жыву ў тваім сэрцы" - сказаў ён. — Ведаю, як яно б'ецца, чым напоўненае і калі сумуе." Ранетка ўсміхнулася і ўпершыню заплюшчыла вочы ў поўным спакоі. Яна разумела, што ў адрозненне ад Музыкі, Мастака і Паэта для Чарвячка самай галоўнай была яна сама. Разам яны шчасліва пражылі да позняй восені, што на яблычныя гады — вельмі-вельмі-вельмі доўга.

# Брава, Гарадзецкі!

Оперу-казку для дарослых і дзяцей В. А. Моцарта "Чарадзейная флейта" любяць і зусім юныя, і сталыя аматары музычнага мастацтва. Пачынаецца дзеянне са з'яўлення на сцэне прынца Таміна. Які арганічны ў гэтай ролі ўладальнік прыгожага лірычнага тэнара Юрый Гарадзецкі! Кожная фраза гучыць кранальна, прывабна. А цёплая, шчырая рэакцыя публікі сведчыць пра яе любоў да гэтага маладога спевака.

Ураджэнец гарадскога пасёлка Бялынічы, што на Магілёўшчыне, Юра рос у простай рабочай сям'і, у якой усе з задавальненнем спявалі, а яго старэйшы брат нават удзельнічаў у вакальным ансамблі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова. З дзяцінства спяваў і Юра. Яго ўлюбёнымі творамі былі "Жаваранак" М. Глінкі, "Мой родны кут" І. Лучанка.

Пасля заканчэння школы Ю. Гарадзецкі вучыўся па спецыяльнасці "харавое дырыжыраванне" ў Магілёўскім музычным вучылішчы ў педагога Ж. Ялфімавай. У Беларускую акадэмію музыкі паступіў у клас спевау Л. Івашкова, ды з-за хваробы педагога працягваў навучанне ў выкладчыка канцэртна-камернага аддзялення прафесара Віктара Скорабагатава. Сам вядомы артыст, уладальнік цудоўнага барытона, выканаўца шматлікіх оперных партый Віктар Іванавіч адчуў, што Юрый Гарадзецкі сучасны таленавіты музыкант, і пастараўся перадаць яму ўсе прафесійныя сакрэты: "Гэта шчасце для педагога, калі наогул раз на сто гадоў выпадае быць настаўнікам такога таленавітага спевака".

Тры гады таму Юрый Гарадзецкі стаў салістам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. У яго, пачаткоўца, амаль адразу з'явіліся прыхільнікі. Больш старэйшыя партнёры па сцэне вучылі таленавітага маладога калегу. Шмат дапамог выканаўца партыі Сальеры Алег Мельнікаў у аднаактовай оперы М. Рымскага-Корсакава "Моцарт і Сальеры": Юрый паспяхова справіўся з партыяй Моцарта.

Пяшчотным, закаханым юнаком паўстаў Ю. Гарадзецкі ў партыі Ленскага ў оперы П. Чайкоўскага "Яўгеній Анегін". Выканаўца галоўнай партыі народны артыст Беларусі Уладзімір Пятроў таксама стаў добрым настаўнікам для Юрыя. Уладальніка прыгожага лірычнага тэнара публіка вітала авацыямі, адзначаючы яркае выкананне арыі "Куда, куда…".

Затым у рэпертуары Ю. Гарадзецкага з'явілася опера Д. Вердзі "Травіята", дзе спявак увасабляе ролю Альфрэда. Разам з выканаўцай партыі Віялеты — Аленай Бундзелевай артыст перадаў трапяткую закаханасць, арганічна засвоіўшы музычную



вобразнасць гэтай цудоўнай оперы. А ў канцэртным выкананні шэдэўра М. Мусаргскага "Барыс Гадуноў" Юрый увасобіў Юродзівага і пастараўся данесці да слухачоў каларыт, асаблівасць партыі, у чым яму дапамог дырыжор В. Пласкіна.

Настаўнік Ю. Гарадзецкага В. Скорабагатаў далучыў да выхавання унікальнага спевака Ганну Каржанеўскую — выдатнага канцэртмайстра, прафесара БДАМ. Адна з яе лепшых вучаніц Тацяна Лойша стала канцэртмайстрам Юрыя. Яны сталі сапраўдным творчым дуэтам і нават пачалі сябраваць сем'ямі. Цікава, жонка Ю. Гарадзецкага, разам з ім вучылася ў Магілёве. У іх шмат агульнага: нават нарадзіліся ў адзін дзень — 25 лютага. Пяць гадоў яны жанатыя.

Разам з канцэртмайстрам Т. Лойшай Ю. Гарадзецкі падрыхтаваўся да санкт-пецярбургскага конкурсу "Тры века класічнага романса". Паспяхова выступілі — занялі трэцяе месца. Узялі ўдзел у конкурсе імя татарскага кампазітара Р. Яхіна ў Казані — і зноў поспех, ганаровае трэцяе месца!

А потым была падрыхтоўка да вельмі прэстыжнага Міжнароднага конкурсу імя бельгійскай каралевы Лізаветы. Паслалі кампакт-дыск сцэнічных выступленняў Ю. Гарадзецкага. І наш спявак прайшоў на другі тур — сярод васьмідзесяці лепшых. Сур'ёзныя ўмовы гэтага творчага спаборніцтва не пакідалі надзею на поспех, тым болей, што на кожны тур трэцяя частка складу журы мянялася. І ўвесь час ішла трансляцыя конкурсных выступленняў па радыё, тэлебачанні, па Інтэрнеце. Віктар Скорабагатаў вельмі хваляваўся за свайго вучня, глядзеў Інтэрнэт: другі тур — выступленні пад раяль, трэці — у суправаджэнні аркестра… І 25-гадовы Юрый Гарадзецкі стаў лаўрэатам!

Прадстаўніца журы італьянская спявачка Раіна Кабаіванска запрасіла Юрыя на стажыроўку. Пасля заканчэння вучобы ў Італіі Юрый Гарадзецкі працягне працу ў родным тэатры. У планах — дэбют у партыі Герцага ў оперы Д. Вердзі "Рыгалета"… А тым часам, у ліпені 2009-га, малады спявак выступіў у прэм'еры оперы Я. Голанда "Чужое багацце нікому не служыць", стварыўшы ў гэтым адметным беларускім спектаклі абаяльны вобраз юнага Янака.

Вера КРОЗ

На здымку: лаўрэат міжнародных конкурсаў Юрый Гарадзецкі.

# Радуемся разам

Сусветна вядомыя салісты і выканальніцкія калектывы ўдзельнічалі ў XXII Міжнародным фестывалі класічнай музыкі "Студзенскія музычныя вечары", што прайшоў у Брэсце. Першы канцэрт, у якім выступілі беларускія і расійскія музыканты, прысвячаўся 10-годдзю Саюзнай дзяржавы. Наогул жа, у фестывальнай праграме значыліся выступленні прадстаўнікоў Беларусі, Грузіі, Італіі, Кітая, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі, Швейцарыі. Упершыню ў межах фестывалю сусветна знакамітыя госці — мастацкі кіраўнік Маскоўскага дзяржаўнага акадэмічнага камернага хору маэстра Уладзімір Мінін ды скрыпачка Ліяна Ісакадзе правялі майстар-класы для музычнай моладзі Брэста.

Яскравым выступленнем на сцэне сталічнай філармоніі адзначыў сваё 25-годдзе Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята" (мастацкі кіраўнік — заслужаны артыст Беларусі Анатоль Кашталапаў). Першы ў нашай краіне прафесійны фальклорны ансамбль такога



жанру, ён адраджае народную музычную спадчыну беларусаў праз песенна-танцавальныя канцэртныя праграмы, у аснове якіх — культурныя скарбы нашага Палесся (аранжыроўкі заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Васіля Купрыяненкі). З трыумфам выступае "Свята" і на радзіме, і за мяжой: самабытных артыстаў віталі, адзначалі ў друку, ганаравалі фестывальнымі ўзнагародамі ў Аўстрыі, Германіі, Італіі, Канадзе, Карэі, Эфіопіі... Як візітоўку калектыву ўспрымаюць многія прыхільнікі ансамбля яго шчырага абаяльнага саліста Вячаслава Статкевіча.

Прадстаўнікі розных сфер дзейнасці напярэдадні новага года адзначаныя высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Сярод іх — рупліўцы музычна-сцэнічнага мастацтва: медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаныя дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Вячаслаў Чарнуха (Воліч), оперная спявачка Алена Шведава і артысты балета Алег ды Ірына Яромкіны. Салісту оперы Сяргею Франкоўскаму нададзена ганаровае званне "народны артыст Рэспублікі Беларусь". Медалём Францыска Скарыны адзначана таксама артыстка Гродзенскага абласнога тэатра лялек Тамара Корнева.

Канцэптуальная выстаўка беларускага жывапісца Пятра Лук'яненкі амаль месяц экспанавалася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. Яна складалася з трох блокаў: мастацтва і грамад-



ства, мужчына і жанчына, прыгажосць і прырода. Праз тэматычныя карціны і каментарыі да іх гледачы адчувалі ўспрыманне П. Лук'яненкам працэсу творчасці, узаемасувязі выяўленчага мастацтва са станам грамадства, філасофскі погляд жывапісца на стасункі мужчыны і жанчыны. Праз пейзажы, нацюрморты, жаночыя партрэты мастак выразна і тонка выказаў сваё захапленне прыгажосцю навакольнага свету.

Лана ІВАНОВА

На здымках: ансамбль "Свята"; Пётр Лук'яненка "Тыя, якія глядзяць".

Фота Віктара Кавалёва

# Новы год аркестра



Пачатак новага года для Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі азначае працяг ажыццяўлення новых праектаў. У Мінску адбудзецца чарговы зімовы джазавы фестываль. Знаны калектыў пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга здзейсніць таксама серыю грунтоўных мастацка-асветных праграм для сустрэч з аўдыторыяй нашых невялікіх гарадоў. Першай такой сустрэчай будзе "Заслаўе-2010" (22 студзеня). Аркестр прысвячае яе 10-годдзю існавання музычнага фестывалю ў гэтым старажытным горадзе. А восень "Музы Нясвіжа" адзначаць сёлета сваё 15-годдзе. На гэтым традыцыйным майскім фэсце, сярод іншага, адбудзецца прэм'ера канцэртнай праграмы, прысвечанай 200-годдзю з дня нараджэння Фрыдэрыка Шапэна. Фартэпіянныя творы вялікага кампазітара прагучаць у шыкоўных аркестравых аранжыроўках, створаных заслужаным артыстам Беларусі Андрэем Шпянёвым. Арыгінальнай канцэпцыяй вызначыцца кожны з "фірмовых" фестываляў Нацыянальнага канцэртнага, якія адбудуцца ў Чачэрску, Міры, Мсціслаўе, Іванаве, Тураве, Пінску... І гэтым творчыя планы аркестра, вядома ж, не вычэрпваюцца.

С.Б.

На здымку: народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі краіны і прэміі Саюзнай дзяржавы Міхаіл Фінберг.

Фота Віктара Кавалёва

# Пад каляднаю зоркай

Да 17 студзеня працуе ў мінскім Палацы мастацтва рэспубліканская мастацкая выстаўка "Калядны фэст". Гэта традыцыйны праект, ладзіцца ён ужо трэці раз і ўспрымаецца як адметнае мастакоўскае віншаванне са святам Божага Нараджэння і Новым годам, адрасаванае гараджанам і гасцям нашай сталіцы.

Вядомыя мастакі розных пакаленняў, а таксама студэнты адпаведных навучальных устаноў і проста творчыя, таленавітыя людзі прадставілі работы, прысвечаныя зімовай святочнай тэматыцы і выкананыя ў самых розных тэхніках і жанрах. Але арганізатары гэтага светлага мастацкага свята не забыліся пра тых, хто мае патрэбу ў асаблівай маральнай падтрымцы, душэўнай цеплыні, спадзяецца на людскую дабрыню і дзейсную дапамогу, хто чакае цуду. Таму ва ўлонні "Каляднага фэсту" арганічна размясціўся "Свет казачных вобразаў" — супольны сацыяльна-мастацкі праект Беларускага саюза мастакоў і грамадскай дабрачыннай арганізацыі "Беларускі дзіцячы хоспіс", што працуе ў вёсцы Бараўляны пад Мінскам. Прафесійны фотамастак Вікторыя Янучкоўская зрабіла здымкі дзяцей,



якія апякуюцца хоспісам, у вобразах казачных персанажаў.

Унікальным экспанатам "Каляднага фэсту" стаў творчы вынік міжнароднага мастацкага праекта "Полацкі абярэг". Гэта незвычайнае палатно стваралася прадстаўнікамі беларускай дыяспары з 12 краін розных кантынентаў. У яго аснове 455 самастойных работ (шыццё з абрэзкаў, вышыўка, габелен, макрамэ, вязанне кручком, батык) памерам 45х45 см. Твор вышынёй больш як тры метры і агульнай даўжынёю больш як 25 метраў складаецца з 13 фрагментаў. Гэты рукатворны цуд з'яўляецца падарункам Полацку да яго 1145-годдзя.

Некаторыя творы, прадстаўленыя на выстаўцы, наведнікі могуць набыць. Грошы пойдуць на падтрымку дзіцячага хоспіса. Дарэчы, на выстаўцы працуюць яго валанцёры. Са сваімі падапечнымі яны падрыхтавалі мюзікл, уключаны ў выставачную праграму разам з кінапаказамі пра дзейнасць хоспіса і выступленнямі артыстаў.



Я. КАРЛІМА

На здымках: ля Полацкага абярэга; каляда ідзе!

Фота Кастуся Дробава

## Працяг тэмы

Палемічнае выступленне ў "ЛіМе" дацэнта кафедры філасофіі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Наталлі Сцепанцовай (гл. артыкул "Ад еўрапейскіх «тусовак» да любаснай правінцыі" ў нумары за 19.09.08 г.) спарадзіла серыю надзвычай публікацый па праблемах культурных прыярытэтаў нашага грамадства, эстэтычнага выхавання новых пакаленняў беларусаў, музычнага асветніцтва і адукацыі. Гэтыя матэрыялы друкаваліся ў "ЛіМе" за 17.10. і 19.12.08 г., 15.05., 26.06., 31.07. і 13.11.2009 г. пад рубрыкай "Працяг тэмы". Размова пра набалелыя праблемы ў стасунках музыкантаў, дзеячаў тэатра, выхавацеляў, педагогаў, бацькоў з дзіцячай і маладзёжнай аўдыторыяй працягваецца ўжо ў новым годзе. Вашай увазе — ліст чытачкі "ЛіМа", прыхільніцы тэатра, педагога вышэйшай школы з вялікім стажам, цяпер пенсіянеркі.

# Пажаданні ТЮГу

Што і казаць, сёння праблемы выхавання падрастаючага пакалення набылі надзвычайную вастрыню і актуальнасць. Істотную дапамогу сям'і і школе ў фарміраванні станоўчых маральных і духоўных ідэалаў у маладых беларусаў мог бы аказваць Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, тым больш, што сярод яго супрацоўнікаў ёсць і спецыяльная адзінка педагога-арганізатара. На жаль, у пазіцыі ТЮГа (галоўны рэжысёр Наталля Башава) не адчуваецца разумення спецыфікі працы для дзяцей і юнацтва, уражанні ад прагляду спектакляў вядуць мяне да высновы, што кіраўніцтва калектыву не лічыць неабходным у сваёй працы кіравацца фундаментальнымі прынцыпамі педагогікі.

Я ўпэўненая, што выхаваць культуру юнага гледача, сфарміраваць яго мастацкі густ, прадэманстраваць адвечную значнасць агульначалавечых каштоўнасцей можна, у першую чаргу, на рэпертуары, складзеным з прызнаных твораў майстроў літаратуры, дзе чырвонай ніткай праходзяць ідэі дабрыні і чалавечнасці. Пры гэтым не магу не заўважыць, што сённяшняе "камп'ютэрнае" пакаленне шмат у чым страціла навыкі ўспрымання літаратурнага матэрыялу (дарэчы, і размаўляць літаратурна большасць моладзі таксама не здольная). З гэтай прычыны доўгія маналогі і дыялогі ў спектаклі дзеці цалкам ігнаруюць, пачынаючы сваімі няўрымслівымі паводзінамі назаляць і артыстам, і суседзям па зале. Яркі прыклад — спектакль "Шчаўкунчык" паводле казкі Э. Т. А. Гофмана.

Як на этапе выбару п'есы, так і на этапе яе пастаноўкі неабходна ўлічваць узроставыя асаблівасці глядацкай аўдыторыі і тыя сучасныя праблемы, якія хвалююць наша грамадства. Так, калі школа агітуе за здаровы лад жыцця, за высокую культуру мовы і паводзінаў, дык антыпедагагічна са сцэны рэкламаваць зусім адваротнае, як гэта адбываецца ў пастаноўцы драмы А. Паповай "Бліндаж".

Добрым прыкладам належнага падыходу мог бы стаць спектакль паводле п'есы С. Казлова "Па зялёных гурбах акіяна", дзе прапануецца нестандартнае творчае вырашэнне экалагічнай праблемы. Але ж — недарэчна і смешна выглядае спроба вырашыць праблему разумення беларускай мовы вучнямі пачатковых класаў… шляхам друкавання спецыяльнага дадатку да тэатральнай праграмы, на якім прыведзены пераклад найбольш цяжкіх слоў. Дзе ж вы бачылі, каб школьнікі-шасцігодкі, якія прыйшлі ў тэатр разам з настаўніцай, адразу ж кінуліся купляць праграмкі і самастойна завучваць беларускія словы?! (А гэта ўжо сведчанне рэальнага становішча беларускай мовы. — Рэд.)

Напісанае вышэй ніякім чынам не значыць, што ТЮГ не мае права на эксперыментальна-палемічныя пастаноўкі, але ж іх колькасць і маштаб павінны адпавядаць інтарэсу аўдыторыі, а самі спектаклі варта ствараць на вартым драматургічным матэрыяле.

Прыгадваецца надзвычай папулярная гісторыя паводле казкі Ж. Амаду пра паласатага Ката і сіньярыту Ластаўку. На жаль, сёння гэтага спектакля няма ў рэпертуары тэатра. Страшна сабе ўявіць, што такі ж лёс можа напаткаць і "Сваральніцу цуду" У. Гібсана — п'еса, якая была пастаўлена ТЮГам у 1994 годзе, і дагэтуль застаецца вельмі актуальнай і выклікае вялікую цікавасць гледачоў. Гэта датычыць і сцэнічнай версіі аповесці Э. Портар "Паліяна", прэм'ера якой адбылася ў 2003 годзе. Гэтыя спектаклі, разам з "Прыгодамі Бібігона" К. Чукоўскага, складаюць, на маю думку, найлепшую частку сённяшняга рэпертуару ТЮГа. "Паліяна", дарэчы, не толькі ўзрушвае публіку глыбінёй свайго зместу і шчырым гуманізмам, але і выклікае асаблівы энтузіязм дзіцячай аўдыторыі ўдзелам юных акцёраў. У "Прыгодах Бібігона" дзякуючы дасціпнай рэжысуры маленькія гледачы ператвараюцца ў паўнапраўных удзельнікаў спектакля. Падаецца, што апрабаваны ў гэтай пастаноўцы "гульні з гледачом" у самых разматых формах можна было б і шырэй уключаць у практыку ТЮГа.

На заканчэнне падкрэслю, што галоўнымі ўмовамі поспеху тэатра юнага гледача я лічу шчырае паразуменне і супрацоўніцтва з юнай глядацкай аўдыторыяй і творчы падыход да сваёй працы. Менавіта гэтага я і зычу ўсяму калектыву тэатра.

Аляксандра БРАЦЕННІКАВА



"Раўнавага" — такую назву атрымала выстава твораў Наталлі і Рыгора Іванових, зладкаваная ў мінскай галерэі мастацтваў "Спадчына", што месціцца ў гістарычным цэнтры нашага горада, непадалёк ад будынка ратушы. Утульная выставачная зала, афарбаваная ў цёплыя чырвоныя колеры, стварае своеасаблівую атмасферу добразычлівай засяроджанасці, што найлепшым чынам адпавядае памкненню творцаў "жыць у гэтым свеце, разумець яго такім, які ён ёсць, любіць яго і сябраваць з ім".

# Напрамак святла

"Сяброўства" з навакольным асяроддзем, трывалая лучнасць з крыніцамі чысціні і дабрыні натхняе мастакоў на развагі пра светабудову, узаемадзеянне і дачыненні супрацьлеглых складнікаў жыцця, пра шчыльную знітаванасць рознапалярных асноў быцця. "Напрамкам святла" называюць мастакі свае творчыя пошукі і знаходкі, уласцівую менавіта ім манеру жывапіснага асэнсавання і асваення рэчаіснасці. Першая персанальная выстава Рыгора Іванова, на творчым рахунку якога сёння каля пяцісот палотнаў, адбылася ў сталічным Палацы мастацтва ў 1995 годзе і называлася "Святло агменю". Наталля Іванова доўгі час займалася стварэннем габеленаў і вышывак. У 2008-м у мінскай галерэі "Мастацтва" гледачы маглі пазнаёміцца з выставай "Вясёлкавы мост" — спробай канцэптуальнага мастацкага паяднання дзвюх супрацьлеглых асноў усяго існага, пошукам "сярэдзіннага шляху" чалавецтва, — лагічным працягам якой, на думку мастакоў, сталася выстава "Раўнавага".

"Мы павінны ўраўнаважыць цемру святлом, толькі тады можна дасягнуць гармоніі з Сусветам", — кажа Наталля Іванова.

Цёплае і пяшчотнае святло дзяцінства, у якім дабро з'яўляецца дабром, а свята святам, і свет падаецца населеным незлічонымі дзівосамі, і кожны дзень — адкрыццё і здзіўленне, і няма месца гору ды бядзе, стратам ды пакутам, — сутнасць мастацкіх палотнаў Іванових. Мастакі працуюць у камернай прасторы, "абмежаванай" святлом любові і спагады да кожнага імгнення жыцця, кожнай яго праявы, кожнага патаемнага — можа, нават і неўсвядомленага — зруху душы. Тут няма ўласцівай нашаму часу разбуральнай імклівасці, звышдынамізму, прысПешвання падзей, няма натоўпу, гучных заклікаў, мітусні: статыка найлепшым чынам адлюстроўвае адчуванне спакою і цішыні, імкненне да філасофскага асэнсавання вытокаў і самага пачатку жыцця, да чагосьці глыбока інтымнага, лірычнага, што заўсёды хаваецца на самым "дне душы".







Вось нясе цудоўная рыбіна ўдалячынь малое дзіця — у свет мары, бясклапотнасці і надзеі… Вось грае "Флейтыстка" — і чароўныя гукі, простыя і нязмушаныя, лятуць па наваколлі, і прыпыніўся час, і ўважліва слухаюць цікаўная гусь, і стары замак, і белыя аблачынкі, паяднаныя прыгожай мелодыяй. Вось кот-хітраван і яго малады гаспадар па-філасофску сузіраюць наваколле і ўтульна пачуваюцца адно ля аднаго ("Аблачынка"). "Вясёлы марш", "Дуэт з салаўём", "Трыумфальнае шэсце", "Карнавал", "Святочны настрой", "Вясёлая вяршыня" — свята душы, яе таемных, але такіх простых і радасных памкненняў. Чырвоная лодка ў мройлівым святле месяца ("Для каханай месяц з неба"), закаханая пара, атуленая дрэвамі, што нібыта свечкі цягнуцца да сусветных вышынь ("Святло кахання") — аповед пра таямнічае пачуццё… А вось "Раўнавага" — мужчына і жанчына, ён і яна, дзве супрацьлеглыя і ў той жа час родныя субстанцыі — пачатак пачаткаў.

"Ціхія" колеры палотнаў, характэрная вопратка, музычныя інструменты, параскіданыя сям-там цацкі, вастраверхія капялюшыкі персанажаў, а галоўнае — іх вiдавочная здольнасць радавацца звычайнай радасцю, здзіўляцца звычайным здзіўленнем, чакаць незвычайнага ў будзённым, нібыта пераносяць гледача ў прастору сярэднявечнай казкі, у якой заўсёды караецца зло і перамагае справядлівасць, у якой пануе "чарадзейства кожнага дня".

Творы Наталлі і Рыгора Іванових неаднойчы экспанаваліся не толькі на радзіме, а і ў Польшчы, Італіі, Германіі, Нідэрландах, Францыі, Англіі, Літве, Чэхіі, Расіі, многія палотны захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, у Музеі сучаснага рускага мастацтва ў ЗША, у прыватных калекцыях.

Марыя РУДОВІЧ

Фота Святланы Берасцень

# «А казкі зусім і няма…»

**Хто ў дзяцінстве не марыў патрапіць у казку!.. На жаль, гэтыя летуценні вельмі хутка канчаюцца ці набываюць зусім іншы "дарослы" сэнс. Але не для мастачкі Вольгі Ярэські і яе сяброў, што сустрэліся ў музеі-запаведніку "Заслаўе" падчас адкрыцця новай выстаўкі. Быццам нейкая чароўная сіла ўваходзіла ў душы гледачоў ды "прымушала" гэтых розных людзей быць не падобнымі да звычайных, спакойных і разважлівых, якімі яны бываюць штодня.**



Прыгожая чароўная казка была зусім побач — беларуская казка, якую ты чуў, але не бачыў, трапіць у якую ты марыў, але так і не здолеў наблізіцца да яе. Мастачка Вольга Ярэська зрабіла цуд — імгненна здзейсніла незабыўныя жаданні дзяцінства, увасобіла чароўныя апавяданні, што чула ад маці, што знаходзіла сама ў гісторыі і культуры старажытнай Беларусі, у народных паданнях. Яна стварыла жывапісны райскі свет, які дае вялікую асалоду пачуццям, хвалюе адкрыццём невядомага. Ты дакранаешся да незвычайнай прыгажосці і разумееш, што існуюць вытокі, магутныя карані нацыянальнага жыцця, пра якое ты даўно забыўся, разгубіўшыся ў калатнечы звычайных зямных спраў…

Убачанае немагчыма пераказаць словамі, нават фотаздымак не перадасць той цуд, што зыходзіць з твораў дзівоснага Мастака. А, можа, гэта ўсё — чары Налібоцкай пушчы, куды патрапіла пані Вольга пасля заканчэння БДУ культуры і мастацтваў і дзе пазнаёмілася з цікавым мастаком Віктарам Ярэськам — будучым мужам?

Мастацтва для Вольгі — гэта разуменне сэнсу жыцця чалавека, ратаванне ад бяспамяцтва і душэўнай чэрствасці. Гледзячы на казачныя творы пані Вольгі, цяжка ўявіць, што іх намалявала жанчына, якую ніхто не вучыў канонам жывапісу. Яе работы вельмі цяжка назваць наіўнымі, альбо інсітнымі. Хутчэй гэта першародны покліч душы, які зачароўвае сваёй незвычайнай пранікнёнасцю і вытанчанай прыгажосцю ў дэталях народнага касцюма і шматколернай беларускай прыроды і ў тых чалавечых пачуццях, якімі ў карцінах В. Ярэські надзеленыя коцікі, буслы, сабакі. Усё разам — як захапляльная песня, якую мы раней не чулі.

Ці не найвышэйшыя боскія сілы дапамаглі таленавітаму чалавеку знайсці сваё месца ў жыцці, расквітнець па-новаму? Але мастачка глядзіць на мяне і кажа: "А казкі зусім і няма. Проста я малюю тое, што адчуваю, тое, чым я жыву ўсё сваё жыццё ў Беларусі, сярод незвычайнай прыгажосці прыроды і людзей…"

Юрась МАЛАШ

Фота аўтара

# Запавет ад прафесара Янкоўскага

Ішоў 1991 год. У стаўбцоўскую школу № 1 да спрактыкаванай настаўніцы роднай мовы і літаратуры Зінаіды Сурко завітаў карэспандэнт рэспубліканскага радыё, папрасіў расказаць пра настаўніцкі лёс... Праз некалькі тыдняў пасля выхаду перадачы ў свет настаўніца атрымала ліст ад удавы Фёдара Янкоўскага — Серафімы Андрэеўны. А ў ім — падзяка за цёплыя словы пра мужа, за памяць пра яго і адзіную справу яго жыцця. Зінаіда Міхайлаўна, былая студэнтка вядомага Фёдара Янкоўскага, з хваляваннем трымае ў руках гэты ліст і сёння. Ён для яе — рэліквія. Светлы напамін пра Настаўніка. І вялікая ўдзячнасць яму, хаця і выказаная, на жаль, калі яго ўжо не было ў жывых...

У 1950-х, пасля паспяховага заканчэння школы непадалёку ад Мірскага замка і паступлення на філалагічнае аддзяленне педінстытута імя Горкага, сапраўднай удачай для вясковай дзяўчыны стала знаёмства з Фёдарам Янкоўскім, вядомым прафесарам, даследчыкам і знаўцам мовы, аўтарам шматлікіх манаграфій і мастацкіх кніг.

Выклікала захапленне тое, што ў экспедыцыях і вандроўках ён вывучаў самабытную культуру і мову нашага народа, тонка адчуваў яе і перадаваў гэту спадчыну студэнтам. У вайну Фёдар Міхайлавіч страціў сям'ю, але гарэў унутраным святлом дабрыні і інтэлігентнасці, прыцягваў ім да сябе.

— Магчыма, я не адбылася б як настаўніца, калі б не Фёдар Янкоўскі, — з непрыхаванай цеплынёю гаворыць пра свайго выкладчыка Зінаіда Міхайлаўна. — Я імкнулася ведаць прадмет дасканала. З цікавасцю слухала лекцыі і ўсё падрабязна занатоўвала. Пасля экзамена да мяне падыходзілі студэнты з іншых курсаў і здзіўлена пыталі: "Што ты там гаварыла? Янкоўскі казаў, што нам трэба вучыцца адказваць у цябе!". Ну, што я магла гаварыць? Зразумела, ўсё па канспекце, які дыктаваў Фёдар Міхайлавіч.

На працягу некалькіх гадоў пасля інстытута гэтыя канспекты і дапамагалі маладой настаўніцы праводзіць школьныя ўрокі. А словы Янкоўскага на развітальным выпускным вечары — "Будзьце сціплымі, не задзірайце нос у вясковай школе, куды вы паедзеце пасля сталіцы. Гэта вас не ўпрыгожыць..." — былі як бацькоўскі наказ.

Зінаіда Міхайлаўна несла ў сэрцы слова Настаўніка. У сваёй самай першай школе ў Крупскім раёне шчыравала з ранку і да позняга вечара, нагружаная ўрокамі ў тры змены. А Фёдар Міхайлавіч, дарэчы, не забываў здольную студэнтку. У перапісцы, якая завязалася паміж імі, прапаноўваў ёй паступаць у аспірантуру, дасылаў для падрыхтоўкі неабходную літаратуру. Тады маладзенькая настаўніца не адважылася кінуць толькі распачатую справу.

І ў гэтым жыццёвым выбары, напэўна, таксама ўплыў Настаўніка. Так апантана, самааддана, ад душы рабіць сваю справу вучыў моладзь менавіта ён. Зінаіда Сурко стала ў прафесіі "Выдатнікам народнай асветы", настаўнікам-метадыстам, першая на Стаўбцоўшчыне — "Выдатнікам адукацыі СССР"...

Вікторыя ПЯТКЕВІЧ





# Настаўнікнастаўнікаў

Тысячы выкладчыкаў беларускай мовы па ўсёй краіне з цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаюць Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Дваццаць гадоў як яго не стала. "Настаўнік настаўнікаў" — так называюць яго вучні. Доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР, пісьменнік... Усё жыццё працаваў на карысць роднай мовы, а ў ліхую часіну абараняў Радзіму са зброяй у руках.

Пятнаццаць гадоў таму ў мікрараёне Сухарава з'явілася вуліца, якая носіць імя Фёдара Янкоўскага. І вось акурат праз дваццаць гадоў пасля яго скону — як жывая жывых паклікала вуліца да сябе людзей: аддаць даніну павагі выдатнаму сыну сваёй зямлі, ушанаваць яго імя мемарыяльнай дошкай.

Такое магло адбыцца толькі таму, што ініцыятарам "дошкі памяці" выступіла праваслаўная царква Архангела Міхаіла, якая знаходзіцца на той жа вуліцы. Староста праваслаўнага прыхода ў гонар Архістраціга Божага Міхаіла Аляксандр Несцярчук і стаў галоўным руплівцам ушанавання памяці. Гэты шчыры чалавек збіраў подпісы, вёў перапіску з чыноўнікамі... Кожны месяц атрымліваў па некалькі лістоў ад дзяржаўных устаноў. І за ўсім трэба было сачыць, бо чыноўнікі гатовыя былі зацвердзіць надпіс і на рускай мове. Ці не здзекам выглядала б такое са светлай памяці вялікага настаўніка і шчырага рупліўца беларушчыны? (Ёсць жа ў сталіцы вуліца "Напалеона Арды", — нібыта па-беларуску, але з якім веданнем мовы?) У дзень светлага скону раба Божага Фёдара вуліца Янкоўскага набывае адметнае аблічча. Стварыў мемарыяльную дошку мастак і архітэктар Ігар Засімовіч.

"Дарагія браты і сёстры, — прамаўляў на чыстай беларускай мове Аляксандр Шрамко, служыцель згаданай царквы. — Мова — гэта душа народа, і раб Божы Фёдар аддаў душу сваю, каб паслужыць душы ўсяго нашага народа, нашай мове. І такія людзі, якія робяць яе жывой, уводзячы ў карыстанне фразеалагізмы, так як паслужыў роднай мове Фёдар Міхайлавіч, надаюць нам упэўненасці, што мова наша будзе жыць, і на гэтай мове мы яшчэ будзем праслаўляць Госпада нашага ў храмах..."

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

На здымку: Аляксандр Несцярчук і Аляксандр Шрамко.

Фота Марыны Бегунковай

# Прысутнасць у «ЛіМе»

Восемдзесят гадоў — гэта многа ці мала? Ды як паглядзець. Калі мець на ўвазе чалавечы ўзрост, як быццам і шмат. Але так можа сказаць той, хто сам знаходзіцца пакуль на парозе свайго юнацтва, ці, прынамсі, толькі набліжаецца да сталага веку. Хто ж пражыў ужо 70 гадоў, а то і болей, скрушна пахітае галавой: "Хіба гэта ўзрост? Пажыць бы яшчэ!"





Уладзіміру Табушаву акурат напярэдадні Новага года споўнілася б 80. Але яго ўжо даўно няма з намі: калі лімаўцы ў пачатку верасня 1993 года хавалі яго, яму не было і 64-х. Мы ж, значна маладзейшыя за Уладзіміра Пятровіча, хоць і шкадавалі, усё ж разважалі "цвяроза": "Дай, Божа, і нам столькі пражыць!" Цяпер жа, калі і самі прыкладна ў такім узросце, толькі і застаецца скрушна пахітаць галавой: "Мала, ой як мала пражыў!"

Прыйшоў У. Табушаў у "ЛіМ" у 1975 годзе і працаваў у нашым штотыднёвіку загадчыкам аддзела мастацкага афармлення амаль да апошніх дзён свайго жыцця. А гэта значыць, 18 гадоў. Мог бы і яшчэ працаваць, калі б, адпачываючы на поўдні, з эцюднікам у руках не прысеў на халодны камень. З таго часу і пачаўся ў яго ў нырках запаленчы працэс. Магчыма, усё і абышлося, калі б своечасова звярнуўся да доктара. Ды ўсё адцягваў, а калі зусім паблажала, то пайшоў не ў паліклініку, а да нейкага "цуда-лекара". І як вынік — У. Табушаў апынуўся ў Бараўлянах. Трапіў туды, калі медыцына была ўжо бяссільнай...

З Уладзімірам Пятровічам я пазнаёміўся ў 1967 ці 1968 годзе, калі перад напісаннем дыпломнай работы праходзіў практыку ў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", дзе У. Табушаў працаваў мастацкім рэдактарам. З таго часу ў мяне і склалася прыязныя адносіны з сёння ўжо былымі чырвоназменаўцамі: Валянцінам Лукшам, Міхасём Кацюшэнкам, Іванам Капыловічам, Алесем Дзятлавым... Так што прыход Уладзіміра Пятровіча ў "ЛіМ" стаў працягам гэтых стасункаў.

Яго кабінет знаходзіўся злева ад уваходу ў сённяшнюю РВУ "Літаратура і Мастацтва". І я часта заходзіў да яго пагаварыць, а то і з якой іншай нагоды. Пра сябе ён расказваў мала. Правільней — пра сваю творчую працу. Затое розных гісторый, якія датычылі жыцця мастакоў і пісьменнікаў, наслухаўся шмат. Шкада, што не запісваў гэтыя аповеды. Маглі б атрымацца цікавыя ўспаміны і пра самога Уладзіміра Пятровіча, бо гэта ўсё былі так званыя "жыццёвыя гісторыі".

Шмат ён распавядаў і пра блізкіх яму людзей. Апошнім часам асабліва ахвотна гаварыў пра бацьку, які жыў у горадзе Бабруйску, дзе У. Табушаў і нарадзіўся. Калі бацька застаўся адзін, Уладзімір Пятровіч штотыдзень наведваўся да яго. Інакш і нельга было, бо ягонаму бацьку, інваліду без нагі, аднаму жылося цяжка. Вось сын і дапамагаў. Калі расказваў пра блізкага і дарагога чалавека, па інтанацыі адчувалася, наколькі любіць бацьку — чалавека заслужанага, які прайшоў вайну.

Гэтай, я б сказаў, унутранай цеплынёй прасякнутыя і лепшыя творы У. Табушава, а працаваў ён пераважна ў станковай (акварэль, аловак), а таксама ў кніжнай і часопіснай графіцы. Серыя аркушаў "На радзіме Янкі Купалы", "Пейзажы Беларусі", "Партрэты беларускіх пісьменнікаў" — гэта тое, што не можа не выклікаць у душы прыемныя асацыяцыі. Не ў апошнюю чаргу таму, што за адлюстраваным выразна бачыцца асоба самога аўтара, які маляваў толькі тое, што яго па-сапраўднаму хвалявала.

Свая, карыстаючыся цяперашнім паняццем, энергетыка і ў акварэлях "Стары са скрыпкай", "Горад наступае", "Дзяўчына з бантам", "Каўказ"... Па-свойму прачытаў Уладзімір Пятровіч і дылогію Алеся Адамовіча "Партызаны". І, вядома ж, плённа працаваў над мастацкім афармленнем "ЛіМа". Не толькі ілюстраваў асобныя творы прозы, паэтычныя нізкі, а і падбіраў для буйных клішыраваных загалоўкаў шрыфты. Сёння гэта прасцей простага, бо заўсёды прыйдзе на дапамогу камп'ютэр. На той жа час неабходна было кожную літару вымалёўваць самому.

Восемдзесят гадоў усё ж мала. Што ўжо казаць пра шэсцьдзесят чатыры... Суцяшэнне (калі яно ўвогуле можа быць) хіба ў тым, што прысутнасць Уладзіміра Пятровіча адчувальная ў старых падшыўках "ЛіМа". А яшчэ яна — у памяці старэйшых лімаўцаў, якім пашчасціла працаваць з гэтым цікавым і неардынарным чалавекам.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

P.S. Дарэчы, дачка Уладзіміра Табушава, Наталля, таксама выбрала шлях мастака. Цяпер яна студэнтка пятага курса аддзялення станковага жывапісу Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў.

# Сатырык са светлай душой

15 лістапада 2009 г. на 69-м годзе жыцця перастала біцца сэрца Міколы Вяршыніна, вядомага беларускага паэта-сатырыка. Беларуская літаратура страціла цікавага пісьменніка, творы якога былі вядомыя ўсім, хто любіць родную мову, вострае і дасціпнае беларускае слова.

Больш як 40 гадоў працаваў М. Вяршынін у жанры сатыры, асабліва плённа — у апошнае дзесяцігоддзе. Адзін за другім выходзілі яго зборнікі: "Даная і Напалеон" (1999), "Дакрытыкаваўся" (2003), "І роздум, і смех, і любоў" (2006), "Найважнейшыя аб'екты" (2008).

Нібы прадчуваючы канец жыццёвага шляху, Мікола стараўся сабраць у кніжкі ўсё лепшае, напісанае ў апошнія гады: байкі, фельетоны, гумарэскі, эсэ, пераклады, лірыку, мемуарныя нататкі...

Нарадзіўся Мікола Вяршынін 20 мая 1940 года ў г. Чэрвені Мінскай вобласці. Рана застаўся сіратой: у самым пачатку вайны загінулі бацькі. Выхоўваўся ў цёткі, затым — у дзіцячым доме ў в. Траскоўшчына Мінскага раёна.

Няўрымслівы і таленавіты юнак заўсёды імкнуўся да ведаў, каб стаць сапраўдным чалавекам. Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум, гістфак Белдзяржуніверсітэта і аддзяленне сацыялогіі Універсітэта марксізму-ленінізму, займаўся парашутызмам у Мінскім аэраклубе. Служыў у пагранвойску ў Эстоніі. Працаваў інжынерам Мінскага падшыпнікавага завода, старшым інжынерам трактарнага, вядучым інжынерам навукова-вытворчага аб'яднання "Прагрэс". Пісаць і друкавацца пачаў, калі служыў у арміі. А рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў даў яму сам К. Крапіва.

Выдаў 14 уласных кніжак, а яшчэ яго творы ўвайшлі ў 24 калектыўныя зборнікі сатырычнай паэзіі і прозы. Як пісьменнік, М. Вяршынін не толькі шмат працаваў над сваімі творамі, але і дапамагаў маладым таварышам па пяры. Ён кіраваў літаратурнымі аб'яднаннямі пры рэдакцыях розных газет, быў патрабавальным і добразычлівым кансультантам, рэдагаваў кніжкі маладых аўтараў.

Быў... Неяк не стасуецца гэта слова з вобразам Міколы Вяршыніна, такога жывога, усмешлівага, рухавага, часам калючага, як яго паэзія, а ў душы добрага і чулага чалавека... Сатырык са светлай душой — такім ён назаўсёды застанецца ў нашай памяці.

Эльвіра ЯРЧАК,
намеснік старшыні літаб'яднання "Ручайкі"
г. Мінск

Напружаны пошук перашкод, якія паўсталі паміж сучаснай беларускай літаратурай і ўсенароднай да яе любоўю (зрэшты, будзем сціплымі: цікавасцю з боку колькі-небудзь шырокай чытацкай аўдыторыі), не можа абмінуць праблему жанру. Дакладней, праблему суадносінаў верагодных жанравых чаканняў ("запытаў") сённяшняга чытача і жанравых магчымасцяў ("прапаноў") сённяшняга пісьменніка.

Умоўна кажучы, кожная літаратурная эпоха актуалізуе пэўны жанр. Адпаведна, розныя жанравыя структуры з большай ці меншай дасканаласцю адлюстроўваюць сам "дух эпохі". Хрэстаматыйны прыклад: нягледзячы на тое, што ўжо ў эпоху Антычнасці з'яўляюцца творы, якія гісторыкамі літаратуры кваліфікуюцца як раманы ("Дафніс і Хлоя" Лонга, "Метамарфозы, або Залаты асёл" Апулея), менавіта ў эстэтычнай прасторы рамантызму раман складваецца як універсальная форма мастацкага спасціжэння і адлюстравання быцця, ён становіцца паўнавартасным жанрам. А якой паўстае жанравая карціна сённяшняй літаратуры (перадусім "фігуранты" лімаўскага праекта "Кандыдацкі мінімум" планавалі гаварыць пра беларускую літаратуру, але, магчыма, удасца "зазірнуць" і ў сусветную)?

# «Міні-раман», або Выжыванне жанраў у натуральным літаратурным асяроддзі

Ірына Шаўлякова. Паспрабуем адразу ж пачаць з канкрэтыкі: якія жанры ў сённяшняй беларускай літаратурнай прасторы спакваля "адміраюць" альбо, скажам мякчэй, трацяць свае пазіцыі? І наколькі тыя жанры, якім аддаюць перавагу творцы, рэзаніруюць з запатрабаваннямі часу, з чытацкімі чаканнямі? Скажам, празаік не шкадуе часу і натхнення на эпапею, а вось ці хопіць у чытача імпэту тую эпапею агорнуць?

Лада Алейнік. Сёння можна на поўным сур'ёзе канстатаваць смерць беларускага рамана: у класічным разуменні жанру сёння рамана няма. Можна прывесці цэлую абойму азначэнняў, аўтарскіх "маркіровак" раманных мадыфікацый: гэта "паралельны", "гатычны", "містычны" раман у Л. Рублеўскай, "раман-эсэ" ў А. Федарэнкі, "раман – штрыхамі" ў А. Казлова…

І. Ш. У В. Куртаніч быў "раман-пункцір"…

Л. А. Атрымліваецца, што гэткім чынам аўтар быццам апраўдвае свой твор, які па сутнасці з'яўляецца вельмі расцягнутай аповесцю, дзе няма ні сюжэтнага разгалінавання, ні буйной з'явы, якая была б прадметам мастацкага адлюстроўвання.

Марыя Шамякіна. На агульным фоне вылучаецца, бадай, У. Гніламёдаў з яго фенаменальнай эпапеяй, рэалістычнай па ўсіх паказчыках. Сапраўды фенаменальнай як па памеры, так і па фактуры. Відавочна, аўтар спрабуе (пакуль цяжка меркаваць, наколькі паспяхова, бо эпапея незавершаная) увасобіць тое, што нібыта і можа зацікавіць сучаснага чытача, якому блізкія не столькі мастацкія вышукі, колькі белетрызаванае выкладанне гісторыі, этнаграфічная фактура.

І. Ш. Калі ўжо зайшла размова пра "смерць рамана", дык варта згадаць агульнавядомае: гэта ў айчыннай традыцыі існуе жанравая дыферэнцыяцыя эпічных твораў на раман, аповесць і апавяданне; у заходняй літаратурнай прасторы празаічныя творы падзяляюцца на "аповеды" (малая форма) і "раманы" (буйныя формы). Магчыма, сёння вылучэнне аповесці як асобнага жанру ўвогуле становіцца немэтазгодным? Альбо варта гаварыць не пра тое, што раман памёр, а пра тое, як ён спрабуе "мімікрыраваць" пад эпоху, уклаcціся ў той пракрустаў ложак, які яму прапануецца часам?

Ігар Запрудскі. Давайце ўсё ж мысліць сур'ёзнымі катэгорыямі: раман жа не перастаўтка, якая будзе пад усіх падладжвацца. Існуе класічнае вызначэнне жанру, ад яго і трэба адштурхоўвацца.

Л. А. Сёння распаўсюджанае меркаванне, быццам у эпоху імклівай інфарматызацыі проста не існуе такога чытача, які ахвяруе свой час на знаёмства з маштабным творам.

І. Ш. Але калі меркаваць па "спажывецкіх" запытах, па продажы кніг, дык ахвотней купляюць менавіта "раманы", іначай кажучы, адносна вялікія апавядальныя творы (зараз не будзем абмяркоўваць іх якасць і адпаведнасць класічнаму жанраваму вызначэнню); зборнікі апавяданняў (за рэдкім выключэннем) у шырокага чытача попытам амаль не карыстаюцца. Калі я правільна зразумела Ладу, у сучаснай беларускай прасторы найбольш інтэнсіўна развіваецца (і, відаць, найбольш запатрабаваны) жанр аповесці.

Л. А. Сапраўды, чытач імкнецца да твора аб'ёмнага, да паўнавартаснай сюжэтнай гісторыі. Але апошнім часам у шалёны рост пайшлі абразкі, мініяцюры, "дзённікавыя" запісы і г. д. Блогі — гэта таксама "міні-проза", у рэчышчы якой развіваюцца і дакументальныя жанры, эпісталярый, мемуарыстыка… І найбольш плённа тут працуюць ужо не раз згаданыя на нашых сустрэчах У. Сцяпан, А. Глобус, Л. Галубовіч…

І. Ш. У 1990-х гадах літаратары-пачаткоўцы, якія прыносілі сваю прозу ў тагачасны "Нёман", не разменьваліся нават на апавяданні: як правіла, прапаноўвалі адразу раманы, а то і трылогіі (пераважна ў духу "псеўдафантастыкі" ці фэнтэзі). Прайшло пятнаццаць гадоў — і сённяшнія пачаткоўцы аддаюць перавагу "міні-прозе"…

І. З. Згультаяваецелі пісьменнікі. Каб напісаць вялікі раман, трэба прыкуць сябе да крэсла — і пісаць.

Л. А. Дык вось на гэтым фоне і вылучаюцца пэўныя асобы: А. Федарэнка, А. Наварыч, М. Южык, В. Гапееў, А. Паплаўскі…

І. Ш. А вам не падаецца, што жанравыя прыярытэты сёння размяркоўваюцца ў залежнасці ад таго, да "старых" ці да "новых" (калі карыстацца колішнімі вызначэннямі А. Федарэнкі), іначай, да "традыцыяналістых" ці "авангардыстых" належыць (паводле ідэйных і эстэтычных схільнасцей) літаратар? Так, празаікі-"традыцыяналісты" аддаюць перавагу формам аповесці і рамана, працуюць у рэчышчы лірычнай мініяцюры. "Авангардысты" скіраваны на фармат "міні-прозы", і нават тое, што ў іх завецца "раманам", найчасцей ёсць каламаж усё з тых жа мініяцюр.

І. З. Ідучы на нашую сустрэчу, пачуў размову дзвюх кабет, якія абмяркоўвалі нейчае вяселле і прыйшлі да высновы: "Дык што гэта за вяселле, калі малады без пінжака, а маладая без сукенкі?! Глядзець няма на што!". Мне гэты эпізод вельмі нагадвае размовы пра сучасную беларускую літаратуру: ідуць на "вяселле", а глядзець надта няма на што. Я думаю, што найбольшае сёння пашырэнне мае апавяданне ў разнастайных жанравых мадыфікацыях: гэта і ўласна апавяданне, і навела, а таксама імпрэсіі, замалёўкі, фельетоны, гумарэскі, карацелькі і проста накіды… Чэхаў не напісаў ніводнага рамана, амаль выключна так і названыя ім жа "страткатыя апавяданні" ды п'есы — і стаўся класікам. Таму варта мець на ўвазе адносна уплыву жанравага выбару на тое, цікавы пісьменнік чытачу ці не.

М. Ш. Відаць, варта гаварыць пра спецыфіку таленту: О'Генры напісаў адзін раман "Каралі і капуста", а праславіўся як навеліст; Янку Брыля, бадай, і сёння ніхто не пераўзышоў як аўтара лірычных мініяцюр…



На здымку: І. Шаўлякова, І. Запрудскі, Л. Алейнік, М. Шамякіна.

Л. А. Тое, што сёння распаўсюдзілася, не зусім "цягне" на апавяданне, на нейкую паўнавартасную сюжэтную гісторыю. Мне падаецца, сярод малых эпічных форм дамінуе ўсё ж мініяцюра.

Давайце паспрабуем паставіць пытанне інакш: ці давялося вам апошнім часам натрапіць на раман, максімальна набліжаны да класічных узораў жанру?

І. Ш. На мяне цягам апошніх двух гадоў найбольшае ўражанне зрабіў беларускі пераклад (М. Шоды) рамана польскага пісьменніка П. Гюле "Мерсэдэс-Бэнц", а таксама два творы сербскага пісьменніка Горана Петравіча "Кніга з месцам для спатканняў" і "Атлас, складзены небам". З усіх кніг, што я нашу чытаць сваім знаёмым і калегам, менавіта яны карыстаюцца найбольшым попытам, прычым як у "лірыкаў", так і ў "фізікаў" самых розных узростаў. У згаданых кнігах з дапамогай постмадэрнісцкай "тэхнікі пісьма" рэпрэзентуецца падкрэслена нацыянальны змест. Гэта кнігі выключна сербскія, аднак якраз з гэтай прычыны яны і становяцца мастацкай і нават маральнай падзеяй міжкультурнага маштабу.

М. Ш. Тое ж самае магу сказаць і пра кнігу П. Васючэнкі "Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі". Гэта не раман, але своеасаблівую маштабнасць твору надае каларыт, беларуская спецыфіка, якой, дарэчы, многім празаікам моцна не хапае. Нам прапануецца багатая этнаграфічная фактура, як, напрыклад, у раманах У. Гніламёдава, З. Дудзюк, Л. Левановіча. У савецкія часы гэта карысталася фенаменальным попытам. Я ў "Літаратурной газете" чытала, як захапляюцца і па сёння пісьменнікі з іншых рэспублік "Людзьмі на балоце" І. Мележа: наколькі выдатна ў яго было апісана, напрыклад, балота; у іх такой з'явы няма, іншы клімат; маўляў, якая экзотыка!

Сёння нашы беларускія пісьменнікі таксама імкнуцца прапанаваць беларускаму чытачу "экзотыку". Напрыклад, маладое пакаленне спрабуе прывабіць публіку "беларускім нацыяналізмам", які (мы ўжо згадвалі пра тое ў мінулым "Кандыдацкім мінімуме") нярэдка выглядае нягеглa, штучна.

Больш прадуктыўны шлях — сцвярджэнне беларускай унікальнасці праз арыгінальныя мастацкія эксперыменты са словам, як у майго любімага паэта В. Жыбуля ў паліндрамічнай паэме "Рогі гор", але яе на іншай мове проста нельга ўвасобіць.

Л. А. Зусім нядаўна я скончыла чытаць раман А. Станюты "Городские сны". Аб'ёмны твор, недзе пад 600 старонак. Я разумею, колькі трэба было часу, каб гэта напісаць, колькі трэба было пераварушыць архіваў, колькі патрэбна для гэтага досведу, у тым ліку гісторыка-літаратурнага!.. Я атрымала велізарнае задавальненне ад гэтага твора. Раман А. Станюты напісаны на рускай мове. На беларускай мове таксама з'яўляюцца творы аўтабіяграфічныя: шэраг раманаў А. Федарэнкі, "Дом" А. Глобуса. Але А. Станюта падступіўся да асэнсавання такіх рэчаў, "агучыць" якія не кожны пісьменнік адважыцца.

І. Ш. А калі паглядзець на паэтаў, асабліва маладзейшых: у які яны бок рухаюцца? Напрыклад, калі параўнаць кнігі В. Трэнас "Цуд канфіскаванага дзяцінства" і "Экзістэнцыйны пейзаж", а таксама асобныя нізкі вершаў, што публікуюцца апошнім часам, выяўляецца відавочная "пераарыентацыя" гэтага паэта на класічную тэхніку вершавання.

І. З. Рана ці позна калі не ўсе маладыя літаратары, дык тыя з іх, што маюць розум і маюць талент, "вернуцца" ва ўлонне класічнай паэзіі…

І. Ш. З другой паловы 1990-х гадоў у беларускай літаратурнай прасторы, здаецца, запатрабаваная не столькі паэзія друкаваная, "урэчаўлёная" ў кнігах ды публікацыях, колькі паэзія "агучаная", "прамоўленая" ў самых розных аўдыторыях, ад школьных вечарын да паэтычных слэмаў.

М. Ш. Не зусім так: у Інтэрнэце чытаюцца і вершы, але выдрукаваныя па адным. Дарэчы, я не зусім згодная, што ўсе паэты авангардысцкага кшталту стануць рана ці позна традыцыяналістамі. Для некаторых паэтаў быць эксперыментатарам — гэта назаўсёды, напрыклад, для В. Жыбуля, які пісаў і, відаць, піша часам класічныя па форме вершы, але і іх скарыстоўвае дзеля дасягнення авангардысцкіх мэтаў. Мабыць, таксама спецыфіка таленту?..

І. З. Згодны. Але не з усім. Традыцыяналісцкае і класічнае — гэта не тоесныя паняцці. Часам назіраюцца выдаткі ад бязмежнага захаплення літаратурнымі аўтарытэтамі: некаторых паэтаў як прыгаломшыў некалі "Вянок" М. Багдановіча, так яны ачомацца ад уражання і не могуць.

Між тым, само адмаўленне традыцыі — і ёсць працяг традыцыі. Сённяшнія літаратары нярэдка мысляць неканструктыўнымі катэгорыямі: у дачыненні да жанраў гэта праяўляецца ў тым, што яны нібыта хочуць разбурыць старыя формы. А паколькі новых форм прыдумаць не могуць, то іх "разбуральніцтва" застаецца на ўзроўні дэкларацый… Напрыклад, каб зразумець, у чым навізна Б. Акуніна, узяўся я чытаць "Нячыстую сілу" В. Пікуля (пра Грыгорыя Распуціна). Дык ледзь не ўсе "вынаходніцтвы" Акуніна запачаткаваныя і прасочваюцца ў прозе Пікуля. Розніца не літаратурная, а ў дыяметральна процілеглай ацэнцы самадзяржаўнага ладу ў Расіі.

Я перакананы: самы запатрабаваны жанр у беларускай прозе — гэта казка. А вось што ў драматургіі?..

І. Ш. На думку П. Васючэнкі, сёння ці не самы развіты і разам з тым адзін з самых перспектыўных жанраў сучаснай беларускай драматургіі — жанр гістарычнай драмы.

Акрамя таго, звяртае на сябе ўвагу рымейкавасць пераважнай большасці сучасных драматычных твораў, якую ў некаторых выпадках больш сумленна было б назваць "паразітаваннем" на класіцы. Яскравы прыклад — п'еса А. Курэйчыка "Старый-престарый сеньор с огромными крыльями"; у тэксце гэтай п'есы Габрыэля Гарсія Маркеса я бачу, а дзе там А. Курэйчык?

І. З. У такім выпадку, дзе ў п'есах С. Кавалёва сам С. Кавалёў? Гэта тэндэнцыя — ці не найбольш ярка выражаная ў драматургіі наогул. Інтэртэкстуальнасць, пастыш (не блытаць з плагіятам), калаж — таксама прыгожае слова… Усё гэта разам і называецца сучаснай драматургіяй, якая рухаецца ў кірунку стварэння цэнтонаў, твораў, складзеных з цытат. Мне здаецца, тут новае прыдумаць, бадай, найскладаней.

Л. А. Усё-такі сюжэтныя, займальныя і разам з тым моцныя ў мастацкіх адносінах творы будуць чытацца заўсёды, незалежна ад таго, буйнога яны жанру ці малой формы. Напрыклад, напісаныя ў сааўтарстве дэтэктывы М. Клімковіча і У. Сцяпана (і "Тэолаг", і "Цень анёла") чытаюцца выдатна; або сумесны твор У. Ахроменкі і М. Клімковіча "Янкі, альбо Астатні наезд на Літве" з вялікім задавальненнем чытаюць і падлеткі, і студэнты, і дарослыя. Агульная выснова, да якой я прыйшла ў выніку нашай размовы, — мы арыентуемся не на жанр, а на пісьменніка. Тое, што пішацца не "па-хутказму", тое, да чаго сапраўды прыкладзены творчыя намаганні, бясспрэчна будзе запатрабаванае чытачом, у адрозненне ад тых "дрындушак", якія ў адзін дзень скандалу нарабілі, а на наступны — сканалі (у культурным сэнсе).

І. З. Відаць, падсумаваць нашу размову варта больш аптымістычна, радкамі з верша А. Бачылы "Скарга":

Мне ад роду дваццаць год,
Я ў рамане гераіня,
Мне кахаць бы без клапот,
Красавацца б як дзяўчыне.

Але аўтар мой такі,
Надзяліў гаротнай доляй:
Толькі думай пра станкі
Ці пра нормы — і не болей.
<…>
Толькі я прыняць на грэх
Не магу чужых прэтэнзій…
Ніхто ж замуж не бярэ,
Начытаўшыся рэцэнзій.

Падрыхтавала
Ірына ШАЎЛЯКОВА

На здымку: І. Шаўлякова, І. Запрудскі, Л. Алейнік, М. Шамякіна.

Фота Ірыны Харэвіч

# Старасвержанскія лялечнікі ажывілі... рэчку

У старасвержанскіх ваколіцах бруіцца гаючая крынічка. Людзі прыходзяць да яе і чэрпаюць прыгаршчамі жывую ваду. Маленькія празрыстыя кроплі здольныя на многае. Забіраюць стому, наталяюць смагу, надаюць сілы і... натхненне.

Сваю крынічку-ратавальніцу мястэчкоўцы ахоўваюць, беражліва ачышчаюць яе донца ад упаўшых галінак, ігліцы і лістоты. І не дай Бог каму пашкодзіць сваёй жорсткай рукой дзіўны прыродны скарб!..

Чароўную казку "Жывая вада" ўвасобілі ўдзельнікі лялечнага тэатра "Ялінка", якія не першы год працуе на Стаўбцоўшчыне пры Старасвержанскім цэнтры культуры. Яго нязменны кіраўнік і аўтар цікавых творчых праектаў — бібліятэкар Алена Гарановіч. На рэспубліканскім конкурсе тэатральнай творчасці "Прырода. Культура. Экалогія", які праходзіў у рамках экалагічнага фестывалю "Прырода Белавежскай пушчы вачыма дзяцей", гэты спектакль, прадстаўлены ў выглядзе відэафільма, быў адзначаны Дыпломам ІІ ступені.

Адметнасць пастаноўкі ў тым, што ўдзельнікі лялечнага тэатра вярнулі да жыцця маленькую рэчку Залужанку, што сілкуе Нёман.

— Даўно жыву ў гэтых мясцінах, але нічога не ведала пра існаванне такога дзівоснага куточка, — распавядае Алена Ігараўна. — Калі рыхтавалі спектакль, дзеці прывялі мяне сюды.



Булькатанне вады на фоне шэрых валуноў стала цудоўнай ілюстрацыяй да яго сюжэта. Некалькі дзён мы плённа працавалі, сумяшчаючы здымкі на маляўнічым улонні Залужанкі і сярод дэкарацый. Сцэнічнай пляцоўкай, натуральна, стала бібліятэка.

Летась у верасні ўдзельніцы лялечнага спектакля "Жывая вада" Аліне Санкевіч давялося прадстаўляць яго акурат у Белавежскай пушчы. Ад імя ўсіх сваіх сяброў яна выказала сваю прыхільнасць да роднай прыроды і... лялек.

Тэатральным захапленнем мелі магчымасць "перахварэць" многія сельскія дзеці. Ім пашчасціла, што ў іх цэнтр культуры ў свой час прыехала па размеркаванні пасля заканчэння БДУКіМ Алена Гарановіч, выпускніца з дыпломам "Кіраўнік тэатральнага калектыву" і проста апантаны сваёй справай чалавек. Адзін выпуск юных тэатралаў у яе ўжо адбыўся. Дзы творчы працэс працягваецца. Вучаніца Алены Ігараўны, Настасся Кандратовіч, паступіла і займаецца ў той жа ВНУ. А Алена Гарановіч набрала новую групу аматараў лялек і тэатра.

— Вядома, з цягам часу паўстала праблема: як пашырыць калекцыю сцэнічных лялек, — гаворыць кіраўнік гуртка. — Налаўчылася сама майстраваць іх. Спачатку з паперы, потым — з тканіны. Калі прачнецца моцнае жаданне ўвасобіць які-небудзь вобраз, то і час знаходзіцца. Але шкада, калі нестае патрэбных для гэтага матэрыялаў.

Не зважаючы на пэўныя цяжкасці, у бібліятэцы сёння сабралася цэлая выстава лялек-«акцёраў», найбольш яркіх персанажаў. Тыя, якім не знайшлося месца, чакаюць сваёй чаргі. Усяго назбіралася больш як сто розных лялек. Ёсць тут купленыя, самаробныя, лялькі-марыянеткі і тросцевыя. Апошнія мацуюцца на металічным штыры, таму досыць цяжкія. На працягу спектакля іх трэба трымаць на вышыні, ды яшчэ і рухі імітаваць. З такімі не ўсюды выступіш, таму старасвержанскія лялечнікі вырашылі змайстраваць невялікую батлейку. З ёю вельмі зручна "гастраляваць" па школах, дзіцячых садках раёна. Па-за межамі Стаўбцоўшчыны "Ялінка" пабывала на фестывалях і конкурсах у Старых Дарогах, Маладзечне, Клецку, Слуцку...

Адметна, што ў 2005 годзе Алена Гарановіч удзельнічала ў рэспубліканскім конкурсе бібліятэкараў. У намінацыі "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры" яна стала прызёрам. Працаваць творча, у пошуку новага заўсёды няпроста, але цікава.

Вікторыя ПЯТКЕВІЧ

На здымку: удзельнікі лялечнага тэатра "Ялінка".

Фота аўтара
г. Стоўбцы

# Дзяржынская «Гуляначка»

Незабыўныя ўспаміны застаюцца ў кожнага, хто хоць раз наведаў горад Дзяржынск у час правядзення святочных мерапрыемстваў. Звычайна на святы, асабліва ў летні час, сцэнічная пляцоўка парку адпачынку прэзентуе творчасць мясцовых аматарскіх калектываў.

Колькі таленавітых аматарскіх калектываў Дзяржыншчыны дэманструюць сваё мастацтва! Гэта і фальклорныя ансамблі народнай песні "Весялуха", "Вярба", "Карагод", "Скірмантаўскія сваякі", і многія іншыя.

У гэтым таленавітым сузор'і пачэснае месца займае і адна з яркіх зорачак — фальклорны ансамбль народнай песні з прыгожай назвай "Гуляначка", створаны ў 1987 годзе пры Путчынскім сельскім доме культуры. У рэпертуары ансамбля старадаўнія і сучасныя беларускія песні. Мастацкім кіраўніком "Гуляначкі" на працягу доўгага часу з'яўляецца таленавітая, улюбёная ў беларускую песню Таццяна Карсакова, вядомая на Дзяржыншчыне як выдатная майстрыха-вышывальшчыца, яна ж і дырэктар Путчынскага дома культуры.

Зазвычай свае выступленні "Гуляначка" пачынае з візітоўкі — з песні "Прывітанне, землякі!", словы і музыку якой напісаў адзін са старэйшых удзельнікаў ансамбля Антон Анісовіч. Ён жа ў ансамблі і баяніст, і саліст, і паэт, і кампазітар. "Гуляначка" выконвае шэраг яго твораў. Антон Анісовіч выкладае гісторыю ў сярэдняй школе вёскі Вялікія Навасёлкі, узначальвае ў школе краязнаўчае аб'яднанне "Вытокі". Разам са сваімі вучнямі падарожнічаў і пешшу, і на веласіпедах па многіх мясцінах Беларусі. Быў ён добра знаёмы з выдатнымі сынамі Бацькаўшчыны — братамі Ермаловічамі: Міколам — славутым гісторыкам-самародкам, Леанідам — удзельнікам Айчыннай вайны, педагогам, Валянцінам — вядомым тэатральным дзеячам.





Яшчэ з адной удзельніцай ансамбля — Галінай Гурскай я пазнаёміўся ў яе роднай вёсцы Ліпкі. Гурская — шматдзетная маці, нарадзіла і выхавала семярых дзяцей. Нягледзячы на свой сталы ўзрост, яна паспявае ўпраўляцца з хатняй гаспадаркай і з'яўляецца актыўнай удзельніцай ансамбля. Азнаёміла мяне Галіна Антонаўна са сваімі мастацкімі вырабамі: шматлікімі вышытымі абрусамі, сурвэткамі, ручнікамі.

"Гуляначка" — часты госць у аддаленых вёсках раёна, на палявых станах у часы пасяўной ці жніва. Свой рэпертуар ансамбль папаўняе, вандруючы па вёсках. Атрымала вядомасць "Гуляначка" і за межамі Дзяржыншчыны. На Беларускім тэлебачанні ансамбль выступаў у праграмах "Зямля і людзі", "Спявай, душа!", у перадачы "Путчынская "Гуляначка". Мінулым летам артысты ансамбля былі запрошаны на свята ў Вязынцы, прысвечанае дню нараджэння нашага песняра Янкі Купалы. Ансамбль паспяхова выступіў і ў Мінску на Рэспубліканскай выставе-кірмашы народных майстроў Беларусі. Палюбілі "Гуляначку" жыхары Дзяржынска і раёна: ніводнае свята ў горадзе не абыходзіцца без яе.

Лявон ЦЕЛЕШ

На здымках: Галіна Гурская з калаўротам; Антон Анісовіч з «Гуляначкай».

# Прыцягальнасць талентаў

Далёка не навічок у наведванні ўсемагчымых мерапрыемстваў культуры, прыемна быў здзіўлены непараўнальнай масавасцю на выставе "Прыстанак душы", што ладзіла Барысаўская цэнтральная бібліятэка імя І. Х. Каладзеева ў памяць Галіны Лісоўскай. Незвычайнасць мерапрыемства характарызавалася даволі рэдкім збегам абставін — талентам і высокім майстэрствам бацькі-мастака Станіслава Баяранкі і шматграннасцю творчасці яго дачкі Галіны, якая, на вялікі жаль, так рана пайшла з жыцця. Нельга было злічыць тых, хто выказаў сваё захапленне ўбачаным, як падчас адкрыцця выставы, так і пазней.

Гэтая з'ява ўвачавідкі падкрэсліла і як бы абагульніла думкі ўсіх, хто дакрануўся да згаданай падзеі — арыгінальнае мастацтва і сапраўдны талент усё яшчэ могуць глыбока кранаць і шчымліва хваляваць нашы душы, нягледзячы на спрадвечную мітусню, імклівасць, паказную жорсткасць і абыякавасць.

І вось у маіх руках кніга "Струны душы" той жа Галіны Лісоўскай (выдавец А. М. Варaксін, Мінск, 2009).

У кнізе дзесяць раздзелаў — біяграфічныя звесткі, песні, вершы, прысвячэнні, гумар, "галікі" (накшталт "гарыкаў" Ігара Губермана), проза, графіка, малюнкі, шаржы…

Яшчэ ў 1990-я гады, у пачатку сямейнага жыцця, калі Галя тольькі даведалася пра сваю сур'ёзную хваробу, яна напісала радкі, якія да глыбіні кранаюць трагізмам, сваёй жорсткай рэчаіснасцю:

В груди —
надежда и сумятица.
Не дай же Бог, такому быть —
Когда любовь
волной накатится,
Понять,
что не сумеешь плыть.

У Галіны моцная натура, якая дазваляе ёй насуперак лёсу плыць. І зусім не як трэска — па волі хваляў, а як актыўны член калектыву водных турыстаў і нават у ролі "капітана". Працуючы ў Барысаўскай дзіцячай мастацкай школе, у вольны час яна займаецца жывапісам, графікай, піша вершы і музыку, удзельнічае ў канцэртах, конкурсах бардаўскай песні. Яе вершы надрукаваныя ў чатырох калектыўных зборніках паэзіі.

Мастацкае слова ў Галіны дакладнае, лаканічнае. Яна ніколі не грашыла на шматслоўе, нават пры выказванні філасофскіх думак.

Не цуралася Галіна і роднай мовы. Менавіта на ёй выкладала ў школе гісторыю мастацтваў, нягледзячы на значную колькасць спецыфічных тэрмінаў. На роднай мове яна прызнаецца свайму любаму ў каханні:

Як заўжды,
мілы мой, у цішы,
Нада мною
плястком кружы,
Увабраў у сябе цэлы свет —
Зор мігценне
і подых камет…

Дзеля таго, каб пакінуць прыкметны след ва ўсіх сферах дзейнасці, дзе праявіўся талент Галіны Лісоўскай, тэрмін у 43 гады недаравальна малы. Таму яна так спяшалася жыць і тварыць. Рэальна адчуваючы гэты тэрмін.

Яшчэ ў 1990-я гады сваю самую пранізлівую песню яна пачала такімі радкамі:

По осени, по ранней осени,
Боясь негаданной беды,
Как просим мы,
как жадно просим мы
Не мёртвой,
а живой воды…

Па ранняй восені — 26 верасня 2008 года Галіна пайшла ад нас. На Гомельскай зямлі, дзе і нарадзілася.

Пятро РАДЗЕЧКА



## Да газеты дзяцінства— з любоўю

У прэс-цэнтры Дома прэсы адкрылася выстава дзіцячай творчасці "Святыні Беларусі", прымеркаваная да святочных мерапрыемстваў рэдакцыі газеты "Зорька", звязаных з Годам роднай зямлі.

Выстава ўяўляе сабою экспазіцыю з трыццаці малюнкаў, дзесяткаў лялек у нацыянальным адзенні, прыгожых матрошак і цікавых пісанак. Усё гэта — творчасць народнай студыі "Раніца" Шашкаўскай школы мастацтваў Стаўбцоўскага раёна.

Студыя жывапісу "Раніца" заснаваная ў 1990 годзе на базе гуртка дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Асноўныя ідэі дзейнасці калектыву — цеснае ўзаемадзеянне выкладчыка і навучэнцаў, развіццё мастацка-творчых здольнасцей, выхаванне любові да мастацтва. У 2006-м студыі прысвоена званне "народная". Шмат увагі студыйцы надаюць літаратурнай спадчыне Беларусі. Выставы "Чытаючы Коласа", "Вільня ў жыцці Багдановіча", "Родныя мясціны" — гэта назвы творчых справаздач вучняў на аснове твораў беларускіх паэтаў. Навучэнцы студыі "Раніца" — пераможцы міжнародных, рэспубліканскіх, абласных, рэгіянальных конкурсаў.

Галоўны рэдактар газеты "Зорька" Людміла Грамовіч расказвае: "Шмат разоў таленавітыя дзяўчынкі і хлопчыкі былі героямі газетных публікацый, атрымаўшы перамогі ў розных рэдакцыйных конкурсах... Прыемна, што і малыя, і дарослыя вельмі любяць сваю газету дзяцінства. На працягу некалькіх месяцаў юныя мастакі разам з педагогам, кіраўніком гуртка "Раніца" Святланай Калкоўскай ездзілі на экскурсіі, наведвалі храмы, манастыры, гістарычныя мясціны. Уражанні ад паездак дзеці перанеслі на палотны. Атрымаліся найпрыгажэйшыя аўтарскія карціны".

Трэба адзначыць, што выставу высока ацаніў выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў. У рамках праграмы "Сям'я, яднанне, любоў" экспазіцыя будзе вандраваць па ўсёй Беларусі.

Уладзімір ПАДАЛЯК

Фота аўтара

# Скарбніца народнай мудрасці

Напэўна, няма такога чалавека, які ў зімовую непагадзь не марыў бы пра крупельку цяпла, дабрыні, сонечнага свята... Сапраўдным вострававам шчырасці і гасціннасці стала выстава "Фарбы роднай зямлі", наладжаная ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры Навукова-вытворчым рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам беларускіх народных рамёстваў "Скарбніца".



У экспазіцыі прадстаўлены тканыя вырабы, народныя рэгіянальныя касцюмы, вырабы з саломкі, дрэва, кераміка майстроў Л. Зайцавай, Л. Паваркова, Т. Карэлкінай, Л. Падабед, К. Быкавай і іншых. І, паверце, гэта не канвеерныя кітайска-в'етнамскія рэчы, якія запаланілі магазіны! Гэта сапраўды наша, беларускае, напоўненае клопатам і энергетыкай таленавітых рук. Варта толькі дакрануцца да абруса, ручніка, маляванкі ці збаночка — і адразу адчуеш добразычлівасць кабетак, сарамлівасць дзяўчат, мужнасць, цвёрдасць мужчын. Праца ды адпачынак, нараджэнне ды вяселле, Каляды ды Вялікдзень — ва ўсім адчуваецца незвычайны падыход, каларытнасць, мудрасць нашых продкаў.

Найяскравейшым момантам адкрыцця выставы стаў паказ беларускага традыцыйнага адзення. Майстры "Скарбніцы" не горш за мадэлек з подыумаў прадставілі ўласна зробленыя касцюмы. Здавалася, што з сівой даўніны да нас, у цэнтр сучаснага Мінска, завіталі працавітыя сяляначкі, ганарыстыя і высакародныя паны і паненкі часоў Жыгімонта Аўгуста і Боны Сфорцы...



Паказ рэканструяваных рэгіянальных строяў, сцэнічных і шляхецкіх касцюмаў з лёгкасцю разбурыў стэрэатып, што традыцыйнае — гэта заўжды сумна, нямодна, змярцвела. Паважаныя дзяўчаткі, паверце, ніякія заходне-ўсходнія супермодныя тэндэнцыі ў параўнанне не ідуць з этнічнымі матывамі, якія толькі падкрэсляць вашу самабытнасць, адрознасць і непаўторную беларускую красу.



Шкада, калі цікавасць да народнай творчасці так і застаецца цікавасцю. А як было б цудоўна, каб тыя, хто наведаў ці наведае выставу "Фарбы роднай зямлі" (працуе па 28 студзеня), самі захацелі зрабіць тое, што ўбачылі! І першай прыступкай да стварэння ўласнага і непаўторнага могуць стаць арганізаваныя Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры і унітарным прадпрыемствам "Скарбніца" майстар-класы па саломапляценні, вырабе паясоў, вышыўцы.

Дадзеная выстава — сапраўдная крыніца натхнення для стварэння непаўторных, самабытных рэчаў. Гэта магчымасць дакрануцца да штодзённага жыцця нашых продкаў, светлага і шчаслівага жыцця. Бо той, хто стварае прыгажосць, не можа быць няшчасным!..

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымках: экспанаты выстаўкі.

Фота аўтара



## Вялікі эстэт і прагматык

**У Рэспубліканскім Доме архітэктараў адбылася святочная вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнага архітэктара СССР, заслужанага будаўніка Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, акадэміка Расійскай акадэміі архітэктуры і будаўнічых навук Георгія Уладзіміравіча Заборскага. Госці і ўдзельнікі імпрэзы мелі магчымасць пазнаёміцца з выставай дакументаў і фатаграфій "Да 100-годдзя архітэктара Г. Заборскага", падрыхтаванай супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі.**

Георгій Заборскі — стваральнік архітэктурнага ансамбля плошчы Перамогі ў Мінску, многіх значных праектаў у розных гарадах Беларусі. У сваёй прафесійнай дзейнасці ён імкнуўся спалучаць традыцыі нацыянальнай культуры з плённымі тэндэнцыямі сучаснага мастацтва.

Адкрыў вечарыну старшыня Беларускага саюза архітэктараў А. Корбут, на свяце прысутнічалі заслужаныя архітэктары, вучні Г. Заборскага — Г. Бяганская, Л. Левін, Я. Ліневіч і інш., а таксама ўдава — Кацярына Іванаўна Заборская.

Заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь В. Аладаў адзначыў, што адной з найвялікшых заслуг Г. Заборскага з'яўляецца яго дзейнасць на педагагічнай ніве: "Мы прыгадваем яго не толькі як аднаго з найбуйнейшых архітэктараў. Георгій Уладзіміравіч стаяў ля вытокаў беларускай архітэктурнай школы, быў цудоўным настаўнікам. Многія яго вучні, якія сталі аўтарытэтнымі архітэктарамі, кіраўнікамі, выкладчыкамі, і сёння карыстаюцца з удзячнасцю яго парадамі".

Адзін з вучняў Г. Заборскага — Я. Ліневіч прыгадваў плённыя гады навучання на будаўнічым факультэце архітэктурнага аддзялення колішняга Політэхнічнага інстытута і бліскучы выкладчыцкі склад — Аляксандра Воінава, першага галоўнага архітэктара Мінска прафесара Ю. Ягорава, Л. Мацкевіча, Н. Макляцову, Н. Трахтэнберга, В. Гусева, нашага першага народнага архітэктара СССР У. Караля.

Н. Аладава, згадваючы лекцыі Г. Заборскага, падкрэсліла, што ў сваёй педагагічнай працы прытрымліваецца яго выкладчыцкіх прынцыпаў. Такім чынам, погляды Георгія Уладзіміравіча ўплываюць пэўным чынам і на сучасную моладзь.

Жанна КАПУСТА

На здымку: знаёмства з выстаўкай.

Фота Кастуся Дробава

# «Вожык» у Валожыне

**Днямі работнікі бібліятэкі, асобныя ўдзельнікі народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" РЦК, вучні і настаўнікі СШ № 2, гімназіі № 1 г. Валожына і Пяршайскай СШ-сада сабраліся ў зале пасяджэнняў Цэнтральнай раённай бібліятэкі на сустрэчу з вожыкаўцамі. У госці да юных і дарослых валожынцаў завіталі галоўны рэдактар альманаха "Вожык" пісьменніца Юлія Зарэцкая і рэдактар аддзела літаратуры, вядомы паэт, пісьменнік-гумарыст, першы лаўрэат Літаратурнай прэміі імя К. Крапівы Павел Саковіч.**

На пачатку Юлія Францаўна коратка азнаёміла прысутных з гісторыяй свайго часопіса. Ю. Зарэцкая расказала таксама пра "Вожык" нядаўні і сённяшні, які стаў ужо альманахам на 96-і старонках і будзе выходзіць з перыядычнасцю 2 разы на год.

Павел Саковіч згадваў свае першыя сувязі з часопісам, распавядаў пра яго рэдактараў — вядомых беларускіх пісьменнікаў, з асаблівым пачуццём прыгадаў імя Алеся Пісьмянкова... І, вядома ж, як паэт-гумарыст не мог не прачытаць сваіх твораў, сярод якіх былі і вершаваныя загадкі. Зала актыўна ўключылася ў іх адгадванне. Самым актыўным вожыкаўцы падпісалі розныя нумары часопіса, раённай, дзіцячай бібліятэкам і прадстаўнікам школ падаравалі кнігу "Тарас на Парнасе", якая выйшла ў серыі "Бібліятэка "Вожыка".

Кіраўнік народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" Валожынскага РЦК Валянціна Гіруць-Русакевіч падзякавала гасцям за такую патрэбную і цікавую сустрэчу, расказала, хто з валожынцаў друкаваўся ў "Вожыку", а сярод іх былі і пераможцы раённага конкурсу "Маладыя галасы" ў гумарыстычнай намінацыі, заклікала здольных не саромецца прыносіць ці дасылаць свае творы. Усе прысутныя пазнаёміліся з гумарыстычнымі вершамі аднаго са старэйшых рунеўцаў, таленавітага самабытнага творцы, актыўнага аўтара "Вожыка" Яўгена Зялкоўскага, сваё жартоўнае чатырохрадкоўе прачытала настаўніца Пяршайскай сярэдняй школы-сада (яна ж удзельніца "Руні") Ядвіга Кужоўнік.

А яшчэ ў рамках гэтай сустрэчы адбылася вельмі ўсхваляваная і зацікаўленая размова пра беларускую мову, падчас якой рунеўец Аляксандр Кулак прачытаў свой верш пра родную мову.

Валянціна МІХАЙЛОЎСКАЯ

# Драўляная казка Ганны-ўмеліцы

**Яе цяжка ўявіць стомленай, хоць адзначыла ўжо сямідзесяцігоддзе. Жвавая, несупакоеная, усё нешта робіць, імчыць камусьці на дапамогу. Дом былой вясковай настаўніцы Ганны Асіпковай добра ведаюць на Чашнічыне. А жыве яна на ўскрайку лесу ў маленькай вёсачцы Млын, дзе ўсяго пяць хат засталося. Тут і знайшла яе многа год таму слава. Вядомай стала мая зямлячка дзякуючы дрэву і таленту. Калісьці ў гэты ціхі куточак ішлі пісьмы з усяго Саюза. Простая вясковая жанчына раіла, дапамагала многім, хто імкнуўся авалодаць цікавым рамяством — разьбой па дрэве. А скульптуры майстра тым часам выстаўляліся на ВДНГ, у Канадзе, Балівіі, Францыі. Ёй прысвоілі званне “народны майстар”, пра яе знялі фільм. Яе запрашалі ўзяць удзел у рэстаўрацыйных работах, што ішлі ў Пецяргофе. Знаўцы кажуць, што мая зямлячка — адзіная ў Еўропе жанчына, якая так дасканала валодае дзівосным умельствам.**



Разьбяр… Здавалася б, зусім не жаночая справа. Што прымусіла звычайную сялянку ўзяцца за яе? Расказваючы пра гэта, Ганна Савельеўна ўспамінае дзяцінства, дом дзядулі і бабулі ў вёсцы Гурэц. Пасля вайны, як і ў суседзяў, там панавала беднасць. Нават посуд купіць не мелі грошай. Лыжкі, міскі, відэльцы — усё рабілі з дрэва. Дрэваапрацоўчае рамяство ведалі ў кожнай хаце. Шмат чаго ўмеў дзед. Маленькая Ганначка з задавальненнем назірала за яго працай. Унучцы было вельмі цікава: звычайнае палена на вачах ператвараецца ў патрэбную рэч. Хіба ж гэта не дзіва! У дарослых не было часу рабіць цацкі, а таленавітае дзіця вельмі хацела, каб кавалак дрэва стаў прыгожай лялькай ці вясёлым сабачкам. Што менавіта так можа стацца — дзяўчынка не сумнявалася. Дзіцяці лёгка верыцца ў цуд.

Вясковая дзяўчынка прагна ўглядалася ў наваколле. Яе ўдумліваму позірку адкрываўся незвычайны свет. Душа адгукнулася. Маленькая сяляначка ўзялася за аловак. “Ганначка, намалюй мне лісу”, — з такой просьбай не раз звярталася да яе настаўніца малявання ў малодшых класах. Малюнак атрымліваўся цудоўны, ён заўсёды вывешваўся на дошку як узор для астатніх вучняў. Гэта было першае прызнанне поспехаў. Аўтарытэт юнай мастачкі сярод аднавяскоўцаў мацнеў вельмі хутка. Уражаны яе здольнасцямі, дырэктар мясцовага рыбгаса падараваў школьніцы набор каляровых алоўкаў. Што гэта быў за падарунак, зразумее той, чыё маленства закранулі выпрабаванні пасляваеннага часу…

Творчую работу для паступлення на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута абітурыентка з Чашніччыны рыхтавала пад кіраўніцтвам дзеда. Не хапала самага неабходнага — фарбаў, добрай паперы. Але кемлівы селянін выйсце заўсёды знойдзе. Цемру партызанскай ночы, напрыклад, “кіраўнік” прапанаваў адлюстраваць сажай. На тым і пагадзіліся. Ох, і парагаталі ж члены ўступнай камісіі, разглядаючы потым “шэдэўр”, але ў ВНУ творцу прынялі.

Прамільгнулі гады студэнцтва, з'явілася сям'я. Трохі паблукаўшы па свеце з мужам, вярнуліся на радзіму. Падрастаў маленькі сын, Ганна Савельеўна працавала ў школе. Справа прыйшлася па душы. Задоўга да эпохі наватараў яна “захварэла” на нетрадыцыйную педагогіку. Тыя, каму пашчасціла вучыцца ў яе, памятаюць незвычайныя ўрокі таленавітай настаўніцы. Прага творчасці не давала спыніцца. Рукі не ведалі стомы — карціны акварэллю і гуашшу, інкрустацыя саломкай, кошыкі з бяросты… А якой прыгажосцю атуліла яна сваю хату! Усё гэта, былі толькі подступы, сапраўдная праца чакала наперадзе.

…Калі жывеш на ўскрайку лесу, свет без дрэва проста не існуе. Яно і добры сусед, і цікавы суразмоўца, і надзейны сябра. Ганна Савельеўна кажа, што даўно прыглядзела гэты матэрыял, заўжды адчувала ў ім вобраз. Але справа вымагала не толькі таленту і навыкаў, яшчэ й фізічнай сілы. Урэшце — рашылася. Вялікую падтрымку аказваў муж Генадзь Лукіч. Спачатку адужала аднафігурныя скульптуры, пазней пачала рабіць шматфігурныя кампазіцыі, на дрэве выпісвала цэлыя сюжэты. Усе яны прысвечаны вёсцы, дарагім сэрцу мясцінам і землякам. Цяпер драўляны скарб млынскай умеліцы размешчаны ў Чашніцкім гістарычным музеі. Калісьці яна прыняла такое рашэнне і бясплатна перадала больш як шэсцьдзесят скульптур у гэтую ўстанову. Тут нямала цікавых экспанатаў, але дрэва Асіпковай пасаблівому прывабліваe. Ціха крочыш па зале, пераходзячы ад адной скульптуры да другой — вось яна драўляная казка, песня жыцця выдатнага майстра.

У цэнтры — творы мастачкі на біблейскія тэмы. Увагу адразу прыцягваюць дзве фігуры — Спас і Марыя. На твары ў Бога — высакароднасць і спакой. Мяккасць, цеплыню і радасць мацярынства увасабляе постаць Святой Дзевы. Менавіта з гэтай скульптурай звязана цудоўнае здарэнне, якое з гадамі не забылася, а тлумачэнне яму Ганна Савельеўна так і не знайшла. Перш чым узяцца за стварэнне вобраза, яна доўга рыхтавалася. Разам з мужам дбайна выбіралі дрэва. Калі знайшлася ліпа, пачала старанна сушыць будучы матэрыял каля печы, прыкрыўшы старой коўдрай, каб ён сох паступова і не трэскаўся. І вось час творчай працы настаў. Доўгімі зімовымі вечарамі сядзела майстар з разцом і дрэвам. Стала з'яўляцца постаць Марыі, яе дзіцяці. Пачала адшліфоўваць дэталі, усялякія памылкі выключаліся, бо выправіць іх немагчыма. Здаецца, усё было зроблена як мае быць. Майстар любавалася сваім новым творам. Але здарылася нечаканае — у скульптуры якраз на німбе ўтварылася шчыліна, ды такая, што палец пралезе. Яна не ведала, што рабіць. Пакуль шукала парады — тая знікла сама па сабе. На яе месцы засталася танюсенькая рысачка. Трэба вельмі пільна ўглядацца, каб заўважыць яе.

Побач з нябеснымі вобразамі — зямныя. Яны — асноўная частка калекцыі, прысвечанай жыццю беларускай вёскі, яе клопатам, святам. Уражваюць скульптуры “Хлеб”, “Кветкі Беларусі”, “Касіў Ясь канюшыну”, “Машэка і Наталка”. Вельмі падабаюцца наведвальнікам кампазіцыі з гумарыстычнымі сюжэтамі. Нельга ўявіць без гэтых жыццёвых сцэн і вобразаў вёску пакалення Асіпковай. У раённым музеі часта мяняюцца выставы, экспазіцыі. Бывае шмат цікавага. Але крыху паблукаўшы па залах, абавязкова вернешся ў казачны куточак. Нібы на вуліцу вясковую трапляеш, ідзеш уздоўж яе і ўсё тут знаёмае. Прыгожая яна летнім ранкам. Вось пастухі пагналі ў поле жывёлу, і вясковыя гаспадыні выпраўляюцца па ваду. “Ля студні” — так называецца невялічкая кампазіцыя Асіпковай. Тут і пачынае працаваць мясцовае радыё. Спанатраныя “дыктаркі” часу не марнуюць. Спрытна завіхаюцца ля цэбра. І вады начэрпалі, і ўсё пра ўсё празналі. У постаці маладой гаспадыні сарамлівасць. Заклапочаная іншымі думкамі, напоўніла посуд — ды хутчэй ад пляткарак. Гэтая ж тэма ў гумарыстычнай замалёўцы “Не судзіце мяне, людзі”. Хто жыў у вёсцы, ведае: трапіць на язык пляткаркам — катастрофа. Выпадкова сустрэўшы дзвюх аматарак пералічыць чужыя грахі, жанчына падаецца ўбок, нібы жару ўхапіла. Нельга без усмешкі разглядаць “Бражнікаў”, “Вясковыя прыпеўкі”, “Запявалу”, “Забіяк”.

А колькі любові маці-сялянкі ў вобразах вясковых хлапчукоў: “Шчупачок”, “Пастушок”, “Я сам”.

Дрэва Асіпковай умее плакаць, смяяцца, бывае зачараваным, закаханым. Яно — як сэрца жанчыны, поўнае любові, міласэрнасці і цярплівасці. Гэта казка, якая ніколі не надакучыць…

Ірына ТОРБІНА
Чашніцкі раён



На здымках: Ганна Асіпкова і яе вырабы.

Фота аўтара

## У наступным нумары

**Напрыканцы мінулага года ў часопісе “Полымя” (№ 10) быў надрукаваны новы твор Уладзіміра Сцяпана “Дзед” (пад аўтарскай жанравай маркіроўкай “акварэльныя малюнкі”). Публікацыя прыцягнула ўвагу вялікай чытацкай аўдыторыі, атрымала супярэчлівыя водгукі. Менавіта гэты твор зробіцца прадметам увагі наступнага “Абмеркавання”. Сваімі поглядамі з чытачамі падзеляцца Ірына Шаўлякова, Алесь Грыбоўскі, Сяргей Грышкевіч і Лада Алейнік.**

З глыбінкі

## З ювелірнай вытанчанасцю

На Хойніччыне шмат народных умельцаў. Яны могуць з ювелірнай вытанчанасцю рэзаць па дрэве, плесці з лазы, бяросты і саломкі, шыць стыльнае адзенне з абрэзкаў тканіны, майстраваць з металу элегантныя рэчы, напрыклад, ружы, “маляваць” карціны цестам. Самабытная з'ява ў гэтым шэрагу, якая шырока распаўсюджана была ў 60-я гады мінулага стагоддзя, — творчасць вышывальшчыц крыжыкам і гладдзю. Яна сягае сваімі каранямі ў традыцыі роднай зямлі, тэмамі вышывання станавілася ўсё, чым багата ціхае правінцыйнае жыццё. Адметна тое, што майстэрства вышыўкі перадавалася з пакалення ў пакаленне, з роду ў род. Як у гэтай сям'і з вёскі Барысаўшчына.

З 10-гадовага ўзросту займаецца вышываннем Аляксандра Пыж, студэнтка другога курса Белдзяржуніверсітэта. Любоў да гэтага віду народна-прыкладнога мастацтва ёй перадалі бабуля Марыя Фёдараўна і маці Марыя Міхайлаўна, настаўніца па прафесіі. Усе яны не могуць дакладна назваць колькасць выкананых работ, якія знаходзяцца дома. Нямала іх раздадзена сябрам, родзічам, якія заўсёды рады такому падарунку. Зрэшты, справа разглядаецца імі толькі як хобі, што даваляе з карысцю бавіць свой вольны час. І калі супрацоўнікі раённага краязнаўчага музея прапанавалі арганізаваць выстаўку, Аляксандра ахвотна пагадзілася, прадаставіўшы 40 сваіх і бабуліных работ.

Прыйшоўшы сюды, трапляеш у сапраўднае царства пейзажаў, нацюрмортаў, выяў звяркоў, добра знаёмых рэпрадукцый паводле вядомых народных казак. Усе работы выкананыя настолькі таленавіта, настолькі насычаныя па колеры, што іх смела можна параўнаць з карцінамі. Кожнаму твору — свая назва: “Ля ціхай рэчкі”, “Зімовы пейзаж”, “Пейзаж за акном”… А яшчэ радуюць вока вышываныя палатняныя ручнікі, сурвэткі, абрус, гледзячы на якія, адчуваеш палёт творчай фантазіі аўтараў выстаўкі, за якім хаваецца вялікае цярпенне пры працы з іголкай ды ніткай, калі ад крыжыка да крыжыка ствараецца сапраўдны мастацкі твор.

Выстаўка знайшла сваіх наведвальнікаў-прыхільнікаў. Што прыемна ўразіла, дык гэта цікавасць да яе дзяцей.

Кладзія БОСАК

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3199
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.01.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 97
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686